Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

**Цэнтральнага Бюро Краязнаўства**

ПРЫ

**БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК**

№ 2 (53) Люты 1930

**ГОД ВЫДАНЬНЯ ШОСТЫ**

ВЫДАНЬНЕ
БЕЛАРУСКАЕ АКАДЭМІІ НАВУК
МЕНСК—1930

## Прымайце актыўны ўдзел у пасеўнай кампаніі.

Справа падняцьця ўраджайнасьці ў нашым Савецкім Саюзе зьяўляецца не кампанійнай справай аднаго якога-небудзь адцінку часу, а бязупынным плянавым мерапрыемствам Партыі, Савецкае ўлады, якое павінна ажыцьцяўляцца ўвесь час ва ўсіх кутках дзяржавы. Асаблівая ўвага ў справе падняцьця ўраджайнасьці павінна мець месца ў кожную пасеўную кампанію. Уся армія мясцовых краязнаўцаў, працуючы ў галіне падвышэньня ўраджайнасьці, павінна не забывацца на гэта і асабліва ўзмацніць сваю дзейнасьць у часе веснавое пасеўнае кампаніі 1930 году.

Асноўнымі задачамі мясцовых краязнаўчых організацый у справе дапамогі падвышэньню ўраджайнасьці зьяўляюцца наступныя: а) усебаковае выяўленьне і вывучэньне прадпасылак для падняцьця ўраджайнасьці ў раёне, ды ўсіх мясцовых умоў, што спрыяюць або шкодзяць падняцьцю ўраджайнасьці; б) сыстэматычнае і плянавае вывучэньне вынікаў ужытых мерапрыемстваў па падняцьцю ўраджайнасьці, іх эфэктыўнасьці, кошту і перашкод на шляху іх ажыцьцяўленьня; в) сталая консультацыя і дапамога мясцовым установам і організацыям; г) популярызаваньне і пропаганда атрыманых посьпехаў і вызначаных у чаргу мерапрыемстваў. Пры ўсім гэтым мясцовыя краязнаўчыя організацыі павінны заняцца вывучэньнем клясавага змаганьня на вёсцы, ролі батрацтва і бядняцтва і колектывізаваньня сельскай гаспадаркі. Трэба вывучыць як уплывае кампанія на беднякоў, сераднякоў і кулакоў. Усю сваю працу па ўдзелу ў падвышэньні ўраджайнасьці на працягу веснавое пасеўнае кампаніі 1930 году мясцовыя краязнаўчыя організацыі могуць аформіць у выглядзе выстаўкі на тэму „Шляхі падняцьця ўраджайнасьці ў раёне і веснавая пасеўная кампанія 1930 году“, артыкулаў у часопісы „Наш Край“, „Шляхі колектывізацыі“ ды ў газэты мясцовыя і цэнтральныя, а таксама ў сваіх рукапісных часопісах і насьценных газэтах раёну. Конкрэтныя працы мясцовых краязнаўчых організацый у справе падняцьця ўраджайнасьці з большага паказаны ў № 3 часопісу „Наш Край“ за 1929 год. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на ачышчэньне насеньня, ужываньне гатунковага насеньня, вывучэньне стану мясцовай дасьледчай справы, укладаньне адпаведных карт і наогул картаграфаваньне сельскай гаспадаркі і г. д.

Мясцовыя краязнаўчыя організацыі і паасобныя краязнаўцы павінны прыняць самы чынны ўдзел у веснавой пасеўнай кампаніі 1930 году.

*ЦБК.*

---

А. Казак.

# Краязнаўчую працу на новыя рэйкі.

Рабочая кляса разам з бядняцка-серадняцкімі масамі пад кіраўніцтвам Комуністычнае партыі рашуча змагаецца за пабудову соцыялізму. Абвешчана жорсткая барацьба рэшткам капіталізму. Вядзецца ўпартае змаганьне за перабудову ўсяе народнае гаспадаркі на новых соцыялістычных падставах. Асабліва шпаркі і нячуваны рост набыла цяпер колектывізацыя вёскі. Бядняцка-серадняцкія масы сялянства ўсёй грамадой пайшлі ў колгасы. Ніякія організацыйныя намёткі, ніякія організацыйныя меркаваньні ня могуць ахапіць гэты масавы рух: ён апераджае ўсякія плянавыя меркаваньні. На шляху свайго разьвіцьця колгасны рух і наогул усе новыя формы соцыялістычнага будаўніцтва сустракаюць рашучыя перашкоды і супроцьдзеяньні эксплёататарскіх элементаў у нашай краіне — кулака на вёсцы і нэпмана ў горадзе. Але тая акалічнасьць, што серадняцтва ўсёй сваёй асноўнам масай пайшло ў колгасы, дала магчымасьць Комуністычнай партыі і рабочай клясе зусім пановаму паставіць пытаньне аб адносінах да кулака. Гэта дало магчымасьць паставіць у парадак дня пытаньне аб ліквідацыі кулацтва, як клясы. Рабочая кляса разам з бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства на чале з Компартыяй рашуча перамагае ўсе супроцьдзеяньні кулацтва і вядзе краіну да новага жыцьця, да соцыялізму. У гэтай барацьбе за новае жыцьцё не апошнюю ролю гралі і граюць грамадзкія організацыі, якія яднаюць у сваіх шэрагах шырокія масы працоўных.

Нашы грамадзкія організацыі, як аб гэтым не адзін раз адзначалася ў нашым друку, да гэтага часу не перабудавалі сваёй працы такім чынам, каб ісьці ў ногу з тэмпамі новага жыцьця, з узмоцненымі тэмпамі рэконструкцыі народнае гаспадаркі: яны ўсё яшчэ адстаюць ад тэмпаў жыцьця. Яшчэ ў большай ступені ўсё гэта можна сказаць адносна нашых краязнаўчых організацый. Яны, ня гледзячы на ясна вызначную ролю і мэтавую ўстаноўку—дапамагаць соцыялістычнаму будаўніцтву —, не змаглі перабудаваць сваёй працы, не змаглі ўгнацца за новымі тэмпамі будаўніцтва і сталі адставаць ад яго, сталі плесьціся ў хвасьце. Адны з краязнаўчых організацый зусім прыпынілі сваё існаваньне; другія — заняліся вывучэньнем пытаньняў другарадных або і трэцьцярадных, і толькі невялічкая частка — гэта краязнаўчыя організацыі Мазыршчыны і паасобныя адзінкі організацый у іншых акругах—наблізілі сваю працу да патрэб сучаснасьці. А між тым нашы краязнаўчыя організацыі, як організацыі, зьявіўшыяся выключна ў выніку пераможнага Кастрычніка, павінны былі больш за ўсё прыстасаваць сваю працу да патрэб соцыялістычнага будаўніцтва, павінны былі ісьці ў ногу з ім. Сучасныя тэмпы соцыялістычнага будаўніцтва ніколькі не зьмянілі мэтавай устаноўкі савецкага краязнаўства, вызначанай пяць-шэсьць год назад. Мэтавая ўстаноўка і погляд на краязнаўства, як на грамадзкі рух, які дапамагае сваёй працай соцыялістычнаму будаўніцтву зараз не зьмяніліся, а толькі запатрабаваньні ўзмацніліся ў значнай ступені. І каб нашы краязнаўчыя організацыі апраўдалі сваё прызначэньне, каб яны выканалі тыя задачы, якія ляжалі перад імі ў галіне ўсебаковага вывучэньня краю, то гэта было-б такою дапамогаю ў галіне перабудовы вёскі, што лепш ня трэба.

Сапраўды, якая была-б вялікая дапамога ў справе перабудовы вёскі на асновах колектывізацыі, калі-б да гэтага часу ў кожным раёне былі вывучаны глебы раёну, карысныя выкапні, экономічныя рэсурсы яго і г. д. А між тым установка ў гэтым кірунку ў нашым краязнаўчым руху была яшчэ ўзята ў 1926 г. Тады яшчэ за асноўную адзінку пры вывучэньні краю было ўзята ўсебаковае вывучэньне раёну. Але сёньня трэба адзначыць, што нашаю краязнаўчаю сеткаю, за малымі выключэньнямі, вельмі мала зроблена: вывучаны толькі больш грунтоўна за гэты час два раёны. Асіпавіцкі (Бабруйская акруга) і Горацкі (Аршанская акруга), па іншых раёнах рабілася вывучэньне толькі паасобных пытаньняў, вывучэньне і апісаньне паасобных пунктаў. У акруговым маштабе вывучаны і апісаны некаторыя об'екты Віцебшчыны, Магілеўшчыны, Аршаншчыны і Мазыршчыны. Падрыхтавана таксама апісаньне Полаччыны. Організавана на пустым месцы чатыры акруговыя краязнаўчыя музэі і 15 раённых. У адных толькі раённых налічваецца 16735 экспонатаў. Значна больш зроблена краязнаўчаю сеткаю ў справе дапамогі навуковым установам БАН у галіне вывучэньня тых ці іншых пытаньняў. За гэты час сабрана краязнаўчымі організацыямі: слоў жывой мовы 131400, фольклёрных запісаў 46250, наладжана сталая сетка фэнолёгічных назіраньняў і вялася ўвесь час сталая дапамога ў галіне мэтэоролёгічных нагляданьняў. Але, ня гледзячы на гэтыя дасягненьні, трэба зазначыць, што вельмі мала зроблена нашаю краязнаўчаю сеткаю ў галіне вытворчага краязнаўства, тут работа амаль ні на крок не пасунулася наперад. Праўда значная віна ў гэтым павінна пасьці на Цэнтральнае Бюро Краязнаўства і навуковыя ўстановы БССР—Беларускую Акадэмію Навук і Навукова-Дасьледчы Інстытут сельскай і лясной гаспадаркі, якія да гэтага часу не дапамагалі з боку мэтодычнага мясцоваму краязнаўчаму руху. Асабліва трэба гэтае абвінавачваньне аднесьці наконт Навукова-Дасьледчага Інстытуту сельскай і лясной гаспадаркі, які ня лічыўся з мясцовымі краязнаўчым рухам, не даацэньваў яго і не хацеў прысьці яму на дапамогу, ня гледзячы на неаднаразовыя звароты і просьбы ў гэтым кірунку з боку Цэнтр. Бюро Краязнаўства. Да гэтага часу нават не наладжана сувязь і не выпрацаваны мэтоды супрацоўніцтва з краязнаўчымі організацыямі так званага інстытуту сялян-дасьледчыкаў. У далейшым і Аддзел Прыроды і Гаспадаркі БАН і Навукова-Дасьледчы Інстытут ім. Леніна і Інстытут Прамысловасьці павінны будуць адкінуць свой абсэнтэізм і недаацэнку значэньня масавага краязнаўчага руху. Пры належным падыходзе да яго з боку навукова-дасьледчых устаноў, пры належнай мэтодычнай дапамозе, мясцовы краязнаўчы рух можа прынесьці значную дапамогу ў справе вывучэньня і дасьледваньня таго ці іншага пытаньня як для навуковай установы, так і наагул. Аддзел Гуманітарных Навук Беларускай Акадэміі Навук нічога ня страціў, а значна выйграў ад таго, што сваечасова ўлічыў значэньне і ролю мясцовай краязнаўчай сеткі. Цяпер месца Гуманітарнага аддзелу павінны заняць вышэйпамянёныя навуковыя ўстановы. Гэтага вымагае жыцьцё, гэтага вымагае сёнешняе будаўніцтва. Ад устанаўленьня правільных узаемаадносін навукова-дасьледчых устаноў з краязнаўчаю сеткаю ў далейшым будзе залежаць у значнай ступені пераход краязнаўчага руху на новыя рэйкі па вывучэньні вытворчага краязнаўства.

Другою ўмоваю, якая павінна дапамагчы пераводу краязнаўчага руху на новыя рэйкі, зьяўляецца пытаньне ўвязкі працы краязнаўчай

сеткі з мясцовымі органамі ўлады і плянуючымі ўстановамі. Бяз гэтай увязкі немагчыма продукцыйная праца краязнаўчых організацый у новым кірунку. Практыка працы за папярэднія гады паказала, што там, дзе існуе такая ўвязка, бываюць надзвычайна добрыя вынікі, і мясцовыя органы ўлады пачынаюць па заслугах цаніць працу такіх краязнаучых організацый. Мы маем шэраг прыкладаў, калі Райвыканкомы матар'яльна падтрымліваюць мясцовыя краязнаўчыя таварыствы: яны адпускаюць сродкі на выданьне мясцовых краязнаўчых часопісаў, утрыманьне і абсталяваньне краязнаўчых музэяў і на правядзеньне дасьледчай працы. А калі краязнаўчыя організацыі перабудуюць сваю працу і зоймуцца, як гаворыць Вангэйгэйм, „ня проста вывучэньнем мясцовага краю, а вывучэньнем яго і ўзьдзейнічаньнем на аснове гэтага вывучэньня на прыроду, працу і жыцьцё краю ў мэтах узьняцьця яго экономічнага і культурнага роўню, тады ўзьнімецца іх аўторытэт, і яны стануць карысьнейшымі організацыямі на мясцох".

Сучасны момант таксама высоўвае ў чаргу дня пытаньні аб пераглядзе складу краязнаўчых організацый, папаўненьні шэрагаў іх рабочымі, бядняцка-серадняцкімі масамі сялянства і пераглядзе організацыйнай структуры. У сувязі з суцэльнай колектывізацыяй паасобных раёнаў і акруг і зьменаю ў некаторых выпадках быўшых тэрыторыяльных адзінак, паўстае пытаньне аб заснаваньні краязнаўчых організацый (таварыствы, гурткі) у буйных колгасах. Задача гэтых краязнаўчых адзінак будзе ўсебаковае вывучэньне колгасу. Краязнаўчыя організацыі ў колгасах павінны стаць навуковымі асяродкамі, якія будуць дапамагаць сваёй працай разгортваньню соцыялістычнага будаўніцтва. Членамі гэтых організацый павінны стаць усе культурныя сілы колгасу: настаўнікі, агрономы, організатары і сяляне колгасьнікі і інш. Першаю краязнаўчаю працаю ў калгасе, па нашай думцы, павінна быць вядзеньне дзеньніка з абавязковаю рэгістрацыяй тых падзей, якія адбываюцца ў колгасе. Гэтыя весткі будуць карысьнейшымі данымі пры далейшым больш паглыбленым вывучэньні колгасу.

Агульныя мэтоды соцыялістычнага будаўніцтва, як соцыялістычнае спаборніцтва і самакрытыка, якія прынесьлі ўва ўсіх галінах савецкага будаўніцтва вялізарнейшыя вынікі, да гэтага часу амаль не зачапілі краязнаўчых організацый. Ва ўсёй краязнаўчай сетцы БССР меў месца толькі адзін выпадак разгортваньня самакрытыкі ў мясцовых краязнаўчых організацыях (гэта Віцебская) і тры выпадкі заключэньня ўмоў па соцспаборніцтву: ЦВК і Украінскі Камітэт Краязнаўства; Віцебскае акруговае т-ва Кр-ва і Полацкае; Мазырскае і Гомельскае; астатнія краязнаўчыя організацыі покуль ня сталі на гэтыя дзейныя шляхі соцыялістычнага будаўніцтва. Што можа быць об'ектам спаборніцтва, аб гэтым ужо вызначалася на старонках часопісу „Наш Край". Адносна самакрытыкі рэцэптаў ня прыходзіцца даваць. Уся краязнаўчая дзейнасьць, мэтоды, зьмест, організацыйныя формы — усё гэта павінна быць узята пад бязьлітасны агонь гэтай самакрытыкі, якая дапаможа ажывіць працу і зрабіць яе карыснай для соцыялістычнага будаўніцтва.

---

А. Смоліч.

# Экономічнае раёнаваньне і краязнаўчыя організацыі.

Географічны падзел працы, які асабліва моцна разьвіваецца ў бліжэйшыя да нас часы ў сувязі з вынаходніцтвамі і палепшаньнямі ў справе транспортнай тэхнікі, выклікае спэцыялізацыю паасобных тэрыторый—*экономічных раёнаў* на тых галінах гаспадаркі, якія даюць найлепшы экономічный эфэкт у даным раёне, на тых паасобных продуктах, для вырабу якіх у даным раёне найбольш спагадна складаюцца абставіны. Гэтая спэцыялізацыя раёнаў—зьява вельмі карысная для народнай гаспадаркі, бо моцна павялічвае яе продукцыю і павышае вытворчасьць працы. Пры плянавым кіраўніцтве вытворчасьцю спэцыялізацыя раёнаў узрастае і робіцца больш дасканалай, больш адпаведнай іхнім асаблівасьцям.

З мэтаю выявіць, у якім кірунку ўжо спэцыялізаваўся кожны раён і ў якім кірунку ён павінен будзе далей сцэцыялізавацца, каб найлепш выканаць сваю ролю ў народагаспадарчым буднаўніцтве, найпаўней выкарыстаць усе свае рэсурсы,—праводзіцца праца экономічнага раёнаваньня.

Раёнаваньне ў сыстэме плянавых прац дэталізуе і конкрэтызуе плян народагаспадарчага будаўніцтва, або прынамсі дае матар'ялы і падставу для такой дэталізацыі і конкрэтызацыі, для таго, каб аб кожным больш-менш значным плянавым мерапрыемстве можна было адказаць *дзе іменна* яно павінна быць разьмешчана і чаму тут, а ня ў іншым якім месцы. Значэньне раёнаваньня, як бачым, дужа вялікае. Пяцігадовы плян народагаспадарчага будаўніцтва СССР (т. III, ст. 10) характарызуе раёнаваньне як „грандыёзную па сваім замысьле задачу, без якой немагчымы плянавы ахоп і рацыяналістычнае кіраўніцтва народнай гаспадаркай Саюзу“. Гэтае значэньне стала асабліва вялікім у даны гістарычны момант, калі ад рэгуляваньня стыхійных процэсаў у экономіцы неабагуленай гаспадаркі мы пераходзім да непасрэднае пабудовы і кіраўніцтва соцыялістычнай вытворчасьцю на ўсёй тэрыторыі Саюзу. Экономічнае раёнаваньне ляжа ў падставу організацыі буйнога соцыялістычнага земляробства і генэральнага пляну рэконструкцыі народнае гаспадаркі Саюзу.

У выніку суцэльнай колектывізацыі і ўзмоцненых капітальных укладаньняў народная гаспадарка Беларусі ў недалёкай будучыне самым радыкальным чынам зьменіць сваё аблічча. Трэба думаць, што яна будзе складацца, галоўным чынам, з вялізных агроіндустрыяльных колгасных комбінатаў, у якіх будзе дасягнута такая высокая ступень індустрыялізацыі і мэханізацыі, якая амаль што сьцірае організацыйныя і бытавыя розьніцы земляробства і індустрыі. Комбінаты, як даволі буйныя адзінкі (як цяпер мяркуюць—каля 100 тыс. га., 40—50 тыс. насельнікаў і радыюсам-на-15—20 км), у сваю чаргу будуць падзяляцца на больш дробныя дапаможныя вытворчыя адзінкі—колгасы-фэрмы, разьмеры якіх, таксама як і разьмеры самых комбінатаў, будуць залежаць як ад мясцовых умоў, так асабліва ад прынятага кірунку спэцыялізацыі гаспадаркі, характару тэхнічных установак, тэхнікі транспорту і г. д. Будаўніцтва гэтых новых форм вытворчасьці адбываецца

цяпер у самым прысьпешаным парадку, у адпаведнасьці з прынятымі тэмпамі колектывізацыі. Перад усімі ўстановамі, якія прымаюць удзел у гэтым вялікім будаўніцтве стаіць у гэты момант першачарговая задача—вызначыць найбольш рацыянальныя разьмеры будучых вытворчых адзінак, іх цэнтры і граніцы, а перад усім прыняць пэўны кірунак спэцыялізацыі кожнага раёну, бо ад гэтага кірунку залежаць і разьмеры і граніцы і цэнтры гаспадарчых адзінак.

Усю гэтую дужа важную і адказную работу трэба было-б, па магчымасьці праводзіць на падставе глыбокіх і дакладных навуковых досьледаў—геолёгічных, глебавых, агрономічных, тэхнолёгічных, экономічных і ўрэшце географічных, якія-б далі выразны і бясспрэчны адказ аб прыродных рэсурсах кожнае мясцовасьці, аб спосабах найлепшага скарыстаньня людзкое працы і сродкаў вытворчасьці, якімі мы можам распалагаць у даны момант, ці ў бліжэйшай будучыне. Мы ня можам, аднак, гадамі чакаць вынікаў гэтых досьледаў, калі жыцьцё патрабуе безадкладнага адказу, безадкладнай рэконструкцыі аджыўшых гаспадарчых форм і замены іх новымі. Організацыю суцэльнае социялістычнае гаспадаркі ў даны момант трэба праводзіць у значнай меры апіраючыся на практычную азнаёмленасьць мясцовых працаўнікоў з умовамі і магчымасьцямі гаспадарчага будаўніцтва ў кожным раёне. Бясспрэчна, што гэты шлях не заўсёды гарантуе найлепшыя рэзультаты, дзеля чаго неабходна выкарыстоўваць усякую магчымасьць прыцягненьня да практычнага будаўніцтва вынікаў навуковых досьледаў, якія або ўжо атрыманы, або могуць быць атрыманы ў процэсе работы. Трэба разам з гэтым у максымальнай меры навукова асмысьліваць і асьвятляць навукова-марксысцкай крытыкай кожнае практычнае мерапрыемства, падводзячы пад яго больш ці менш цьвёрдую навуковую падставу, ачышчаючы ад памылковых і рэгрэсыўных элемэнтаў, якія яно можа ў сабе заключаць.

Краязнаўцы ў гэтай справе могуць зрабіць шмат карыснай работы. Выяўляючы і сыстэматызуючы тое практычнае знаёмства з мясцовасьцю і мясцовымі ўмовамі, аб якіх вышэй гаварылася, а таксама клапоцячыся аб найпаўнейшым выкарыстаньні ўжо праведзеных навуковых досьледаў і існуючай навуковай літаратуры аб раёне, яны дапамогуць зрабіць раёнаваньне і ўсё наогул новае будаўніцтва найбольш дасканалым пры сучасным стане ведаў аб краі.

Асноўную ўвагу краязнаўцам трэба ў гэтых мэтах зьвярнуць на выяўленьне географіі найгорш у нас вывучаных прыродных рэсурсаў гаспадаркі, не забываючыся на патрэбу ўсебаковага вывучэньня раёну з боку яго як фізыка-географічных асаблівасьцяй (рэльеф, глебы, клімат, рэкі, торфавішчы, і г. д.) так і социяльна-экономічных (сродкі вытворчасьці, рыначная спэцыялізацыя, клясавыя ўзаемадносіны). У гэтай справе пажадана як самастойная праца краязнаўцаў, так і дапамога цэнтральным установам, у прыватнасьці Катэдры Географіі БАН, якая організуе разам з краязнаўчай сеткай шырокае анкетнае вывучэньне сельсаветаў БССР з боку пералічаных тут іх асаблівасьцяй.

Нам здаецца вельмі важным падагульніць і цэнтралізаваць у даны момант тыя веды, якія дае мясцовым практычным працаўнікам і краязнаўцам практычнае знаёмства з мясцовасьцю. Такое падагульваньне і сыстэматызацыя будзе вельмі карысна і для самых мясцовых працаўнікоў. Праведзенае з належным крытычным падыходам яно дасьць магчымасьць на месцы зрабіць шмат якіх практычных вывадаў,

якія пры ўсёй сваей відавочнасьці, часта не затрымліваюць на сабе належнай увагі. Але яшчэ большае значэньне будуць мець такія матар'ялы для працаўнікоў раённых, акруговых і цэнтральных: у сваёй рабоце па раёнаваньні, арганізацыі і плянаваньні соцыялістычнае гаспадаркі яны атрымаюць шмат пунктаў апоры, якіх дагэтуль ня мелі і якія ім безадкладна патрэбны.

Гэтыя задачы падагульваньня і сыстэматызацыі ведаў аб паасобных мясцовасьцях (маштабу сельсавету), якія ёсьць у практычных мясцовых працаўнікоў і ў краязнаўцаў, мы ставілі сабе, арганізуючы вышэйпамянёны анкетны досьлед, якім ахоплены пытаньні аб энэргетычных рэсурсах (торф, вада), аб мінэральнай сыравіне, аб прыродных умовах земляробства (рэльеф, глебы, клімат), аб таварнай спэцыялізацыі, якая існавала да гэтага часу і аб колгасным будаўніцтве. Усе краязнаўчыя організацыі і паасобныя краязнаўцы найлепш дапамогуць працы па раёнаваньні, старанна вывучаючы сваю мясцовасьць пры дапамозе гэтае анкеты. Адначасна яны значна папоўняць сваё ўласнае знаёмства з важнейшымі ўмовамі і асаблівасьцямі гаспадаркі свайго раёну.

Непасрэдны ўдзел у работах па раёнаваньні краязнаўчых організацый зьяўляецца таксама вельмі пажаданым і нават неабходным. Карыстаючыся належнай мэтодолёгіяй працы і ўсім навуковым матар'яламі, які можна для гэтай мэты мобілізаваць, краязнаўчыя таварыствы змогуць даць найлепшыя проекты падзелу тэрыторыі кожнае паасобнае акругі сеткай агроіндустрыяльных комбінатаў, або далейшага больш дробнага раёнаваньня ўнутры саміх комбінатаў.

Мы ня можам тут доўга затрымлівацца на пытаньнях мэтодолёгіі раёнаваньня—гэтай справе трэба прысьвяціць больш часу і ўвагі. Адзначым, аднак, што найбольш пашыраныя даўней і даволі распрацаваныя ў расійскай літаратуры мэтоды раёнаваньня ў сучаснасьці патрабуюць грунтоўнага перагляду і радыкальных зьмен. Даўнейшае раёнаваньне грунтавалася выключна на вывучэньні географіі існуючых тыпаў гаспадаркі і паасобных галін, іх інтэнсыўнасьці і вызначэньні тае стадыі эволюцыі, на якой даны раён і характэрны для яго тып гаспадаркі знаходзіцца. У далейшым гэты тып меўся эволюцыянаваць пад уплывам усяго комплексу стыхійных фактараў капіталістычнай гаспадаркі, кіруючыся пры тым усьлед за пэўнымі перадавымі раёнамі, ужо прайшоўшымі гэты эволюцыйны шлях.

Відавочна, што калі такі мэтод раёнаваньня быў больш ці менш дапасаваны да ўмоў неорганізаванае капіталістычнае гаспадаркі, дык у ўмовах плянавай гаспадаркі ўжо ў эпоху адбудовы, калі побач з стыхійнымі сталі ўзрастаць плянавыя фактары, — ён траціць сваё значэньне. Па меры ўзрастаньня плянавых элемэнтаў народнай гаспадаркі паўстае патрэба ў раёнаваньні, якое-б дало падставы для конструіраваньня экономічных раёнаў у сувязі з агульнымі заданьнямі народагаспадарчага будаўніцтва. Мэтодолёгію такога раёнаваньня стварыў Дзяржплян РСФСР у сувязі з распрацоўкай генэральнага пляну электрыфікацыі. Галоўная ўвага гэтай мэтодолёгіяй зьвяртаецца на вывучэньне ўмоў і фактараў народнай гаспадаркі (энэргетычных і сыравінных рэсурсаў, навыкаў насяленьня, наяўных і магчымых сродкаў вытворчасьці). Падлягаюць вывучэньню і самыя тыпы народнай гаспадаркі, аднак, трэба мець на ўвазе, што яны ў радыкальна зьмененых соцыяльных умовах эпохі рэконструкцыі будуць у далейшым зьмяняцца не эволюцыйным шляхам, але шляхам грунтоўнае рэволюцыйнае перабудовы на грунце буйнай соцыялістычнай вытворчасьці.

Вывучэньне ўмоў і тыпаў гаспадаркі дае магчымасьць, прымаючы пад увагу як народагаспадарчыя заданьні, так і магчымыя капіталаўкладаньні, вызначыць кірунак спэцыялізацыі гаспадаркі паасобных тэрыторый; далей—адпаведна прынятай спэцыялізацыі і патрэбам данага тыпу гаспадаркі вызначаюцца разьмеры, граніцы і цэнтры спэцыялізаваных раёнаў і ўрэшце ўстанаўляецца характар сувязі і супрацоўніцтва данага раёну з іншымі раёнамі краіны*).

Прыкладаючы прынцыпы і методы раёнаваньня, вызначаныя Дзяржплянам РСФСР да сучасных патрэб раёнаваньня агроіндустрыяльных комбінатаў, мы зможам атрымаць даволі добрыя вынікі. Відавочна, што разьмеры і граніцы агроіндустрыяльных комбінатаў будуць залежаць ад іхняй спэцыялізацыі, ад тыпу і разьмераў новых індустрыяльных установак, якія ў сваю чаргу залежаць між іншым ад энэргетычных рэсурсаў раёну, транспортных сродкаў. Краязнаўчыя арганізацыі павінны сабраць па гэтых пытаньнях магчыма паўнейшы матар'ял, на падставе якога можна было-б гэтыя найважнейшыя пытаньні разьвязаць з посьпехам і ў першую чаргу.

Далей ідзе праца па ўнутраным раёнаваньні саміх комбінатаў і падзеле іх на колгас-фэрмы. Краязнаўцы на падставе сабраных імі матар'ялаў і практычнага знаёмства з мясцовасьцю змогуць памагчы вызначыць суцэльныя, лёгкадаступныя для мэханізацыі апрацоўкі глебы тэрыторыі, з выгоднымі для гаспадаркі граніцамі, якія-б забясьпечылі зьвязнасьць і найвыгаднейшыя рысы фігуры зямельнага вучастку. Яны-ж дапамогуць вызначыць натуральныя межы колгас-фэрмаў, якімі, напр., могуць зьяўляцца лясныя масывы, рэкі, глыбокія раўчакі, балоты і іншыя перашкоды для ўнутрыгаспадарчага транспарту. Краязнаўцы могуць параіць пры выбары найбольш адпаведнага месца для цэнтру колгас-фэрмаў,—для пабудовы будучых вялізных абораў, для жыльлёвага будаўніцтва і ўрэшце даць шмат каштоўных уваг пры вызначэньні кірунку спэцыялізацыі гаспадаркі.

Гэтак уяўляем мы сабе зьмест краязнаўчай працы пры экономічным раёнаваньні. Магчыма, што жыцьцё паставіць у гэтай справе шэраг новых вымаганьняў, якія зараз мы не змаглі прадбачыць. Нам, аднак, трэба было выявіць і паказаць тыя вымаганьні, якія соцыялістычнае будаўніцтва ўжо сяготьня ставіць перад краязнаўствам у справе раёнаваньня. Здавальняючы гэтыя вымаганьні, краязнаўства адначасна надзвычайна ўзмоцніць як сваю грамадзкую карыснасьць, так і скарбы сваіх навуковых каштоўнасьцяй. Перабудоўваючы сваю работу ў кірунку вытворчага краязнаўства і краябудаўніцтва, краязнаўчыя організацыі адчуваюць вялікі недахоп матар'ялаў у гэтай іншы раз мала яшчэ асвоенай імі галіне. Работы зьвязаныя з экономічным раёнаваньнем дапамогуць краязнаўчым організацыям сабраць вельмі каштоўны прыродазнаўчы і экономічны матар'ял, які можа быць адразу-ж выкарыстаны пры складаньні раённых географічных слоўнікаў, экономгеографічных апісаньняў раёнаў, экономічных аглядаў і г. д. дый наогул ляжа ў падставу далейшай краязнаўчай працы на мясцох.

---

*) Па мэтодолёгіі экономічнага раёнаваньня можна знайсьці матар'ялы ў кнігах Книпович. Сельскохозяйственное районирование. 1925. Экономическое районирование России. 1922. Баранский. Краткий курс экономической географии. 1929. Смоліч. Сельска-гаспадарчыя раёны БССР ў 1927-8 гг. 1930.

# МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

С. Нікіфаровіч.

## Дзяржаўны паляўнічы ахоўнік БССР.

У 30 кілёмэтрах ад г. Барысава (у паўночным кірунку), каля ракі Бярэзіны, на поўнач ад возера Пялік знаходзіцца паляўнічы ахоўнік БССР*). Межы яго цягнуцца больш як на 200 км; найбольшую даўжыню ён мае з поўначы на поўдзень (каля 60 км). Агульная плошча яго 65.000 га, з гэтай лічбы пад лесам знаходзіцца 45.000 га, а рэшта пад сенажацямі і вадазборамі. Вялікую прастору ахоўніка займаюць хваёвыя бары, у травяным акрыцьці якіх пераважаюць верас (Calluna vulgaris L.), ягаднікі (Vaccinium Vitis idaea L., Vaccinium Myrtillus L.). Значныя плошчы заняты балотамі (сфагнавымі, альшаньнікамі). Паверхня сфагнавых балот пакрыта імховым дываном з відаў Sphagnum'у. Дрэўная расьліннасьць на іх прадстаўлена тонкай, нявысокай балотнай сасонкай (Pinus silvestris L. f. sp.), да якой зрэдку (на купінах) дамешваецца бяроза пушыстая (Betulla pubescens Ehrh) вярба шэрая (Salix cinerea L.), алешына чорная (Alnus glutinosa Gaerth). У травяным акрыцьці—журавіны (Oxycoccos palustris Pers), буякі (Vaccinium uliginosum L.), багун (Ledum palustre L.), імшарніца многалісьцевая (Andromeda polifolia L.), балотны верас (Cassandra calyculata Don.), багноўка чорная (Empetrum nigrum L.), расіца кругалістая (Drosera rotundifolia L.), падвей пахвісты (Eriophorum vaginatum).

З іншай дрэўнай расьліннасьці ў ахоўніку спатыкаюцца елка (Picea excelsa L.), ялавец звычайны (Juniperus communis L.), бяроза гузаватая (Betulla verrucosa Ehrh), асіна (Populus tremula L.), алешына шэрая (Alnus incana), чарэмха (Prunus Padus L.), крушына (Rhamnus Frangula L.), рабіна (Sorbus aucuparia L.), арэшына (Corylus Avellana L.), каліна (Viburnum Opulus L.), лаза (Calix), радзей—дуб (Quercus pedunculata L.), клён (Acer platanoides L.), ясень (Fraxinus excelsa), ліпа (Tillia cordata L.), і досыць рэдка—вяз (Ulmus effusa Willd), ільміна (Ulmus montana Wit). Апошнія два віды і ліпа, паводле слоў лясной варты, цяпер спатыкаюцца рэдка з тае прычыны, што ў час рэволюцыі вакольнае насельніцтва надта зьнішчала іх на лыкі і драўніну.

Паляўнічая фаўна ахоўніка складаецца з наступных відаў: лось, мядзьведзь, дзікі кабан, бабёр, каза, лісіца, куніца, барсук, выдра, норка, вавёрка, заяц (русак і бяляк), рысь, воўк. З птушак—глушэц, цецярук, рабец, пардва, качка.

*) Аўтар наведаў ахоўнік 14—20 жніўня 1929 г.


ДЗЯРЖАЎНЫ
ПАЛЯЎНІЧЫ АХОЎНІК
Б.С.С.Р.
Маштаб: 0 3 6 вёр.
Ур Чарніца
Бярэзынь
р. Масковіца
Асяцішча
Бедзіна
Ліпск
Воз. Плаўе
Слабада
Папова
Каролін
Неманіца
Марянава
Паулава
Рожна
Бабцы
Бегамля
Саускі Бор
Красн. Лука
Кветча
р. Бузяна
р. Бяроза
Нешкава
Восава
Брод
Пастэжжа
Вял. Рака
Студзенка
Хольмоўка
Старынка
Жартайка
Мсьціж
Клетнае
Сялец
Рудия
Бараўляны
Лісіна
Халхолец
Рагатка
Крычын
Кішчына Слабада
Крычын
Весялова
Умоўныя знакі:
Бабровыя хаткі.
Лось.
Дзікая каза.
Мяжа ахоўніка.

За апошнія гады колькасьць некаторых зьвяроў значна павялічылася. Гэта сьведчыць аб тым, што для іх у ахоўніку створаны нормальныя эколёгічныя ўмовы.

Рост паляўнічай фаўны за апошнія тры гады відаць з наступнай табліцы:

| Год | Лось | Мядзьведзь | Дзік | Бабёр (колькасьць хатак) | Каза | Барсук | Выдра | Лісіца | Куніца | Норка |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1927 г. | 26 | 13 | 3 | 22 | 110 | 9 | 37 | — | — | — |
| 1928 г. | 36 | 18 | 13 | 27 | 120 | 10 | 45 | — | — | — |
| 1929 г. | 60 | 22 | 7 | 30*) | 160—200 | 18 | 60—80 | 45 | 100—110 | 20—25 |

Такім чынам некаторыя віды, як каза, размнажаюцца досыць добра. Нормальны прыплод даюць ласі, мядзьведзі. Слабей размнажаюцца дзікі. За ўвесь час існаваньня ахоўніка толькі сёлета зарэгістравана адна сьвіньня з 5 парасятамі. Тлумачыцца гэта тым, што дзікі ня прытрымліваюцца азначаных лясных стацый, а заўсёды вандруюць, асабліва ўзімку і ў час такіх пераходаў становяцца ахвярай мясцовых браконьераў.

Добра размнажаюцца бабры. Паводле апошніх назіраньняў варты ахоўніка яны імкнуцца асесьці на Сурчучэўскім канале, дзе цяпер сустракаецца шмат вырытых імі нор. У выніку іх працы на гэтым канале ёсьць некаторая небясьпека для тых мерапрыемстваў, якія праводзяцца тут водным транспортам па аднаўленьні Бярэзінскай воднай сыстэмы. Апошні ўжо зьвярнуўся да кіраўніцтва ахоўніка з просьбай „перасяліць баброў у другое месца“.



Рака Вялікая ў межах ахоўніка.
(Фот. С. П. Нікіфаровіча).

Навуковым інстытуцыям патрэбна ўпарадкаваць гэтую справу, каб не парушыліся натуральныя ўмовы расьсяленьня такой магутнай колёніі баброў, як Бярэзінская.

З прычыны таго, што берагі рэк і вазёр ахоўніка дасыць нізкія, забалочаныя і зарасьлі лесам, бабры жывуць тут выключна ў хатках.

*) З гэтай лічбы 3 бабровыя хаты знаходзяцца пад назіраньнем з мэтай устанаўленьня наяўнасьці ў іх баброў.

У апошні час назіраецца выхад баброў за межы ахоўніка. Так вясной гэтага году яны зьявіліся на р. Берэзіне пад самым горадам Барысавам і ўпарта хацелі абаснавацца ў адным месцы (на „Катле“), дзе ёсьць густы зарасьнік лазы, але іх тут надта непакоілі мясцовыя рыбакі. Адзін раз бабёр папаўся нават у сетку рыбака. Толькі прысутнасьць на рэчцы сьвядомага паляўнічага захавала жыцьцё гэтаму бабру. Пасьля гэтага выпадку бабры пакінулі гэтае месца.

Аб становішчы баброў у ахоўніку трэба зазначыць наступнае. Галоўным чынам яны жывуць на р. Бярэзіне і яе прытоках. З вясны да восені па рацэ ідзе жвавы рух. Бязупынна сплаўляецца лес, плывуць барліны з дровамі, ходзяць буксірныя параходы Лесбелу, спатыкаецца шмат рыбакоў як па р. Бярэзіне, так і па прылягаючых да яе вазёрах. Усё гэта стварае непакой і нават небясьпеку для нормальнага жыцьця баброў. У падмацаваньне гэтай думкі можна прывесьці адзін сумны факт, сьведкай якога мне прышлося быць самому ў час наведваньня ахоўніка. 16 жніўня 1929 г. я з егерам-лясьнікам накіраваліся на р. Пяшчанку для агляду там бабровых хат. Калі мы прышлі туды, то тут нас сустрэў другі егер-лясьнік, які паведаміў, што ён вылавіў мёртвага бабра, што плыў па р. Бярэзіне. Пры вонкавым аглядзе яго было заўважана на грудзёх з левага боку рана ў форме трыкутніка шырынёй 1,5 см., а даўжынёй каля 2 см. Можна было з упэўненасьцю сказаць, што забілі яго багром плытагоны. Ня гледзячы на вялікую гарачыню, якая стаяла ў гэтыя дні, бабёр быў яшчэ зусім сьвежы. Відаць, што яго забілі ўночы, ці зранку ў гэты самы дзень.



Бабровая хата № 4 на рэчцы Пяшчанка.
(Фот. аўтара).

Прыведзены факт сьведчыць аб тым, што варта бабровай колёніі з боку р. Бярэзіны недастатковая. Аб гэтым павінна было ведаць кіраўніцтва ахоўніка і сваечасова прадпрыняць належныя меры.

Што датычыцца паляўнічай орнітофаўны, то тут для размнажэньня яе ўмовы вельмі спрыяючыя. У выніку чаго расплодзілася шмат глушцоў, цецярукоў, рабцоў і качак. Акрамя таго, у ахоўніку гнязьдзяцца яшчэ чорны бусел (Cyconia nigra L.), (за 1929 г. зарэгістравана 40 штук), жураўлі, чаплі і інш. балотныя птушкі.

Узімку праводзіцца штучная падкормка некаторых жывёл. Так, для коз нарыхтоўваюцца стажкі сена, закладаюцца снапы аўса. Для

ласёў (асабліва на новых месцах іх стаянак) у якасьці харчаваньня назапашваюцца груды асіньніку.

З драпежнінаў — жывёл у ахоўніку водзяцца воўк і рысь. Апошніх зарэгістравана 12 штук. Барацьба з драпежнікамі вядзецца шляхам флажковых аблаў, а таксама закладкай атруты ў паасобных месцах. Барацьба вядзецца ня толькі ў межах ахоўніка, але і ў суседніх лясьніцтвах.

У ахоўніку організаваны невялікі гадавальнік пушных зьвяроў, у якім цяпер утрымоўваюцца 3 пары звычайных лісіц. На жаль, да гэтага часу не ўдалося атрымаць ад іх прыплоду. Дзеля адсутнасьці сталых біолёгічных назіраньняў над гэтымі лісіцамі, цяжка ўстанавіць прычыны іх няплоднасьці.

Ёсьць мэтэоролёгічная станцыя II разр., але яна не працуе дзеля адсутнасьці асобы, якая магла-б наладзіць гэтую працу. Назіраньні вядуцца толькі над атмосфэрнымі ападкамі.



Забіты бабёр, знойдзены 16/VIII-29 г. плывучым па р. Бярэзіне ў межах ахоўніка.

(Фот. аўтара).

Вялікай перашкодай у справе аховы паляўнічай фаўны ў ахоўніку зьяўляецца знаходжаньне на тэрыторыі яго 120 хутароў, з якіх пераважна выходзяць кадры браконьераў. Зьяўляючыся мясцовымі жыхарамі, яны надта добра ведаюць усе ходы і выхады ў ахоўніку, што стварае для варты значныя цяжкасьці ў барацьбе з імі. Акруговаму Зямельнаму Аддзелу патрэбна знайсьці неабходныя зямельныя фонды і канчаткова выселіць іх з межаў ахоўніка.

Штат служачых ахоўніка наступны: адзін загадчык, два намесьнікі яго, адзін дзелавод, 6 егерэй-аб'езчыкаў, 37 егерэй-лясьнікоў, адзін вартаўнік пры гадавальніку пушных зьвяроў і адзін вартаўнік-канюх. Усе служачыя падзяляюцца наступным чынам:

| Па роду | Па нацыянальнасьці | Па партыйнасьці | Па социяльнаму становішчу |
|---|---|---|---|
| Мужчын . . . 48 | Беларусаў . . . 49 | Чл. КПБ(б) . . 9 | Батракоў . . . . 8 |
| Жанчын . . . 2 | Эстонцаў . . . 1 | Чл. ЛКСМ . . . 2 | |
| | | Беспартыйных . 39 | |

38 чалавек зьяўляюцца сябрамі Саюзу Працаўнікоў Зямлі і Лесу. Культурную і політвыхаваўчую працу сярод служачых праводзіць Рабачком, але праца гэтая разгорнута недастаткова. Рабачком тлумачыць гэта об'ектыўнымі ўмовамі: працаўнікі ахоўніка раскіданы на вялікай тэрыторыі. Бясспрэчна, што гэта значная перашкода, але мажліва было-б з'арганізаваць некалькі гурткоў паводле тэрыторыяльнага прынцыпу і сярод іх праводзіць працу.

Нічога ня робіцца для падвышэньня кваліфікацыі лясной варты, з прычыны чаго некаторыя егера-лясьнікі, паводле слоў самой адміністрацыі, не адпавядаюць свайму прызначэньню.

Ёсьць невялікая бібліотэчка, у якой налічваецца 204 кніжкі. Выпісваюцца наступныя часопісы і газэты: „Беларускі Батрак", (выпісваецца амаль усімі служачымі), „Московский батрак"—12 экз. „Беларуская Вёска"—7 экз., „Зьвязда", „Труд", „Профрух".

Вытворчыя нарады склікаюцца раз у два месяцы. На аднэй з такіх нарад мне давялося прысутнічаць. Значную частку працы нарады заняў разгляд протоколаў аб самавольных парубках лесу вакольнымі сялянамі, а таксама парубках, зробленых невядома кім. З спрэчак было відаць, што насельніцтва ня надта добра адносіцца да ахоўніка. Тлумачыцца гэта тым, што, ня гледзячы на 5-годзьдзе існаваньня яго, шырокай популярызацыйнай працы сярод насельніцтва аб значэньні і задачах яго не праводзілася. Гэтым бадай тлумачыцца частыя выпадкі самавольных парубак лесу, браконьерства, пажараў.

Час працы служачых, дзякуючы спэцыфічнасьці яе, ненормаваны. Заробак егера-лясьніка складаецца з 20 р. штомесячнай пэнсіі і 5 га сенажаці. Дзеля адсутнасьці казённых кватэр, лясьнікі наймаюць іх у мясцовых хутаран, што да некаторай ступені ставіць лясную варту ў залежнасьць ад насельніцтва.

Ахоўнік заключыў з Сьвядзкім і Бягомльскім лясьніцтвамі ўмову па соцыялістычнаму спаборніцтву, галоўныя пункты якой наступныя: 1. зьнішчыць самавольную парубку на 100%; 2. зрабіць ачыстку лесу на 100% (для ахоўніка там, дзе гэта магчыма без турбаваньня жывёл і птушак); 3. палепшыць справу па зьнішчэньню пажараў лесу, дзеля чаго правесьці растлумачальную працу сярод насельніцтва; 4. зьнішчыць на 100% браконьерства і драпежнікаў; 5. падвысіць кваліфікацыю лясной варты, палепшыць іх быт шляхам сваечасовай выплаты пэнсіі.

Перад ахоўнікам цяпер ставіцца задача наладзіць навукова-дасьледчую працу. Сучаснае кіраўніцтва яго высоўвае думку аб неабходнасьці організацыі на тэрыторыі ахоўніка біолёгічнай станцыі з пэўным штатам навуковых працаўнікоў. Такая ўстанова ва ўмовах паляўнічага ахоўніка зьяўляецца вельмі патрэбнай і ідэя організацыі яе, напэўна, будзе падтрымана вышэйшымі кіруючымі органамі. Акрамя таго, у бліжэйшы час неабходна правесьці ў жыцьцё наступныя мерапрыемствы:

1. Прыняць рашучыя меры да зьнішчэньня браконьерства, для чаго наладзіць тэлефонную сувязь паміж канцэлярыяй ахоўніка, аб'езчыкамі і лясьнікамі.

3. Палепшыць умовы працы лясной вярты, пабудаваць для іх кватэры, падвысіць кваліфікацыю.

4. Павялічыць гадавальнік пушных зьвяроў.

5. Узмацніць ахову ўсіх відаў паляўнічай фаўны, асабліва баброў.

6. Зжыць цякучасьць лясной варты.

---

**С. Мялешка.**

# Курорт Баркоўшчына на Полаччыне.

Далёка ня кожны ведае аб тым, што ў нас, у Савецкай Беларусі, пад бокам ёсьць надзвычайна вялікія прыродныя багацьці, як напрыклад, свае курорты, свае ўласныя здраўніцы.

Кожны год хворыя людзі, з мэтаю паправіць сваё здароўе, накіроўваюцца ў Крым, на Каўкаскія курорты і ў іншыя курортныя месцы Савецкага Саюзу, трацячы на гэта даволі вялікія сродкі.

Усе мы добра ведаем, што вялікая колькасьць працаўнікоў БССР таксама выяжджае на розныя курорты Савецкага Саюзу толькі таму, што адны курортныя багацьці Беларусі ня былі выяўлены, а другія знаходзіліся ў заняпадзе.

Тут я хочу даць кароткае апісаньне як у мінулым, так і ў сучасным курорту Баркоўшчына ў Вушацкім раёне Полацкае акругі.

На поўдні ад гораду Полацку, на адлегласьці ў 55 кілёмэтраў, па дарозе на Лепель (у 25 кілёмэтрах ад гораду Лепелю) каля невялічкай вёскі Баркоўшчына, якая стаіць на самым лепельскім бальшаку, знаходзіцца першы беларускі рэспубліканскі курорт Баркоўшчына. Самым каштоўным, што дало мажлівасьць пабудаваць у гэтым месцы курорт, зьяўляюцца пяць крыніц.

Вёска і крыніцы ляжаць на беразе возера Малая Даўгошчына (сялянства называе Малое Баркоўшчынскае). Гэтае возера злучана невялічкай рэчкай з возерам, якое мясцовае насельніцтва называе Доўжыца і якое на картах адзначана назвай Вялікая Даўгошчына.

Вось як апісвае гэтыя вазёры дасьледчык Баркоўшчынскіх крыніц, навуковы працаўнік Беларускае Акадэміі Навук, П. В. Трамповіч:*)

„Возера Вялікая Даўгошчына ляжыць сярод чароўнае, высокае, сухое, пакрытае стагодным борам мясцовасьці. Вада ў возеры Вялікая Даўгошчына празрыстая, чыстая, надта мяккая і цёплая (17°). Дно з белага, добрага, цьвёрдага пяску. Дно лёгка замучвае ваду. Берагі высокія, зрывістыя, закрываюць возера ад вятроў усіх кірункаў".

„Возера Малая Даўгошчына мае адхонныя, чыстыя берагі, ваду аднолькавай якасьці з вадой возера Вялікая Даўгошчына. На беразе гэтага возера знаходзіцца невялічкі яр, які заканчваецца высокай глеістай гарой. У яры, у месцы яго пераходу ў бераг возера, зроблена штучная пляцоўка; на апошняй пабудована пяць студняй, якія маюць розную ваду". Наогул кажучы, краявіды ў Баркоўшчыне надзвычайна прыгожыя, вельмі добрае хваёвае паветра, што дапамагае лячэньню сухотных таму, што лячэньне хворых на сухоты лепш праходзіць на месцы і дае больш карысныя вынікі.

У Баркоўшчыне фактычна маецца чатыры крыніцы-студні (пятая студня не зьяўляецца крыніцай, а толькі зьбірае і зьмешвае ваду з вышэйадзначаных чатырох крыніц). Кожная крыніца мае свой нумар. Крыніцы №№ 1 і 2 зьмяшчаюць у сябе жалезістыя воды; крыніца № 3—радыёактыўныя воды і крыніца №—4 серністыя. Жалезістыя воды (№№ 1 і 2) жоўтага колеру (фактычна колер ржаўчыны); гэтую ваду нельга піць, таму што яна зусім нясмачная.

*) Інстытут Беларускае Культуры. Запіскі Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі т. І. Пад агульнай рэдакцыяй старшыні аддзелу, правадзейнага члена І. Б. К. Смоліча, А. Менск—1928 г. на 230 стар.

Сернiстыя воды (№ 4) блакiтнага колеру з мыльным пахам i радыёактыўная вада (№ 3) крыштальная-чыстая, празрыстая, мяккая i прыемная на смак. Такiм чынам, для пiцьця гадзiцца толькi вада з крынiцы № 3, з астатнiх-жа крынiц ваду зусiм нельга спажываць.

Якая-ж каштоўнасьць (лекавасьць) гэтых крынiц?

Баркоўшчынскiя крынiцы надзвычайна карысны для наступных хвароб: хронiчны сустаўны раматус, падагра, залiшняя тлустасьць, па-



Возера Вялiкая Даугошчына каля курорту.

ралюш нэрвовай сыстэмы, запаленьне лёгкiх, ад вынiкаў iнфэкцыйных хвароб (сiфiлiс) i iнш.

Курорт Баркоўшчына мае сваё гiстарычнае мiнулае.

Яшчэ ў 19 стагодзьдзi, на беразе даволi прыгожага возера, дзе цяпер будуецца санаторы, былi прыватныя лячэбнiцы з ваннамi.

Гэтыя лячэбнiцы, як перадаюць мясцовыя старажылы, мелi наступны выгляд

Два драўляныя будынкi, пасярэдзiне якiх праходзiў калiдор, а па абодвых бакох было па чатыры невялiчкiх пакойчыкi з ваннамi, а ўсяго 16 ваннаў Памiж гэтымi ваннымi павiльлёнамi стаялi дзьве печкi з чанамi (катламi).

Ад студнi № 5, якая зьбiрала i зьмешвала ваду з усiх крынiц-студняй, аж да печак з катламi адыходзiлi дзьве дубовыя трубы. Адпаведным чынам набiралася вада. Затым награвалася да пэўнай тэмпэратуры i, нарэшце, праз адпаведныя трубы разьлiвалася па ваннах.

Акрамя ванных павiльлёнаў стаялi два вялiкiя дамы па дзьве кватэры ў кожным. У гэтых будынках жылi хворыя.

Старыя сяляне з Баркоўшчыны кажуць, што ў 60—70 i 80 г. г. 19 стагодзьдзя курортам загадваў доктар Нямiроўскi („сiвенькi старычок, невялiчкага росту, з барадой, вельмi добры чалавек“), якi памёр у самым канцы XIX веку.

Пасьля сьмерцi доктара Нямiроўскага пачаўся заняпад курорту Баркоўшчына. У хуткiм часе лячэбнiца зусiм зачынiлася.

Патрэбна адзначыць, што за час iснаваньня курорту Баркоўшчына, у апошнiм лячылася даволi многа людзей, пераважна прадстаўнiкi вышэйшых станаў таго часу, як напрыклад: буйныя земля-

ўласьнікі — абшарнікі, кулацтва, чыноўніцтва в Лепельшчыны, Полаччыны, Віцебшчыны і інш. мясцовасьцяй Беларусі.

Прыяжджалі нават лячыцца з Заходня-Эўропейскіх краін (Нямеччына, Францыя і інш.).

Мне прышлося адшукаць адну кніжачку, якая яскрава сьведчыць аб тым, што Баркоўшчынскія крыніцы былі добра вядомы ў Заходня-Эўропейскіх краінах.

Гэта кніжачка — наступная: „Д-р Рабов, профессор Лозанского Университета, карманная рецептура и фармакопея. Пособие при про-



Агульны від курорту Баркоўшчына.

писывании лекарственных веществ для врачей и студентов. Новое 8-е Русское издание 1917 г. Перевод с 46 Немецкого издания к-во „Современные проблемы“.

У гэтай навуковай працы між іншым даецца кароценькі агляд важнейшых расійскіх і замежных вод і курортаў.

На 257 старонцы, у 8 разьдзеле, у ліку іншых жалезістых крыніц, якія зьмяшчаюць у сябе мыш‘як, памінаюцца Баркоўшчынскія жалезістыя воды. І затым, на 258 старонцы, у 9 разьдзеле, у ліку іншых серністых крыніц, як за межамі, так і ў былой Расіі, памінаюцца Баркоўшчынскія серністыя воды. Такім чынам, курорт Баркоўшчына быў добра вядомы ў Заходня-Эўропейскіх краінах.

Старажылы кажуць, што Баркоўшчынскія крыніцы вельмі добра дапамагаюць ад хронічнага сустаўнога раматусу. Прыкладам гэтага служыць тое, што шмат якіх хворых спачатку насілі на насілках, а праз месяц, паўтара хворыя хадзілі ў лес па грыбы і ягады. Хворыя прымалі па дзьве ванны ў дзень: раніцою і ўвечары.

У запісах за 1860 год значыцца, што хворых прайшло больш як 300 асоб, якія ў сваёй большасьці зусім вылечыліся.

Такім чынам, хворыя, якія прыяжджалі ў Баркоўшчыну, назад выяжджалі зусім здаровымі.

У 1919 г., калі Вушацкі раён уваходзіў у склад Лепельскага павету, Лепельскі Павятовы Аддзел Аховы Здароўя, добра ведаючы вялікую каштоўнасьць гэтых крыніц, прыступіў да пабудовы курорту ў Баркоўшчыне, але, на вялікі жаль, гэтая будоўля была зьнішчана ў 1920 годзе ў часы бела-польскай окупацыі.

У сакавіку м-цы 1925 г. у мястэчку Вушачах адбываецца надзвычайны зьезд саветаў Вушацкага раёну. Дэлегат зьезду — настаўнік Я. У. Качан у бягучых справах гаворыць адносна вялікіх прыродных багацьцяў раёну, у прыватнасьці аб каштоўных лекавых крыніцах у Баркоўшчыне. Заява настаўніка Качана выклікае ў значнай часцы ўдзельнікаў зьезду сьмех. Але яго даведкі аб гэтым багацьці (курорце Баркоўшчына) ў мінулым пераканалі зьезд і ў выніку выносіцца пастанова аб тым, каб т. Качан напісаў дакладную запіску ў Р. В. К. адносна курорту Баркоўшчына з тэй мэтай, каб Р. В. К. зрабіў на-



Санаторы разам з кватэрамі для дактароў у хваёвым лесе.

лежнае хадайніцтва перад адпаведнымі ўстановамі аб дасьледваньні крыніц і аб пабудове здраўніцы для працоўных.

Хадайніцтва з боку Р. В. К. дало станоўчыя вынікі.

У 1926 г. Інбелкульт (цяпер БАН) накіраваў у Полаччыну экспэдыцыю на чале з Нам. Старшыні Камісіі па вывучэньні прыродных вытворчых сіл БССР — доктарам П. В. Трамповічам для дасьледваньня Баркоўшчынскіх крыніц. Выяжджалі ў Баркоўшчыну і некаторыя полацкія краязнаўцы і дактары. Гэтыя дасьледчыкі распытвалі тутэйшых старажылаў адносна крыніц, аглядалі, фотаграфавалі і апісвалі іх, смакавалі ваду, набіралі ў бутэлечкі і адвозілі з сабой.

Аналіз вады з Баркоўшчынскіх крыніц у адпаведных лябараторыях паказаў: што Баркоўшчына мае крыніцы з жалезістымі і серкавымі водамі, якія па сваёй якасьці не ўступаюць мінэральным водам Каўказу; што гэтыя воды надзвычайна карысныя для хворых на раматус, на паралюш нэрвовай сыстэмы, на падагру, для лячэньня тлустых і інш.

І вось 7 лютага 1927 г. у час сьвяткаваньня дзесяцігодзьдзя Кастрычнікавае рэволюцыі ў Баркоўшчыне адбылася ўрачыстая закладка будынкаў для здраўніцы.

На працягу двох гадоў (1928 і 1929) цягнулася будаўніцтва санаторыя.

На гэтае будаўніцтва Нар. Кам. Аховы Здароўя адпушчана 162.000 р.

У сучасны момант беларускі санаторы ўяўляе сабой маленькі гарадок, які падзяляецца наступным чынам: два корпусы для хворых,

адзін корпус для мэдпэрсоналю, 1 корпус для кухні і пральні, сарай, пограб-леднік, кладовая і іншыя гаспадарчыя будынкі.

У гэтым (1930) годзе мяркуецца пабудаваць яшчэ адзін корпус для хворых на 50 ложкаў, павільлён на 24 ванны, ваданапорную вежу каля самых крыніц.

Такім чынам, будаўніцтва 1-га беларускага курорту будзе скончана.

Ня гледзячы на тое, што ў санаторыі Баркоўшчына хворыя яшчэ не лячыліся, некаторыя палачане, добра ведаючы лекавасьць Баркоўшчынскіх крыніц, езьдзілі туды і лячыліся прыватна.

Вось што кажа адзін палачанін (т. Літвінаў) адносна цэлебнасьці гэтых крыніц:

У 1927 годзе прыходзілася лячыцца ад паралюшу нэрвовай сыстэмы ў Кіславодзку. Прыняў 20 нарзанных ваннаў. У 1928 г. курс лячэньня паўтарыў, прыняўшы яшчэ 20 ваннаў.

Пасьля лячэньня ў Кіславодзку самапачуцьцё было даволі добрае, але энэргія хутка падала, здароўе пагаршалася, у выніку чаго прышлося ізноў узяцца за лячэньне.

І вось, у жніўні м-цы 1929 г. гэты грамадзянін паехаў у Баркоўшчыну; зьняў памяшканьне ў аднаго селяніна, набыў цэбар заместа ванны, і пачаў саматужным спосабам лячыцца. Прыняўшы 7 ваннаў з радыёактыўных і серністых крыніц, пачаў значна лепш адчуваць, чымся пасьля поўнага курсу лячэньня ў Кіславодзку, таму што змог нормальна фізычна працаваць, тады як пасьля Кіславодзкіх нарзанных ваннаў, ён ня мог яшчэ прыступіць да фізычнай працы.

Калі-ж прыняў яшчэ 14 ваннаў, то пачуў сябе абсолютна здаровым. Якім-жа чынам лячыўся гэты грамадзянін?

Як было ўжо зазначана вышэй, хворы карыстаўся звычайнай кадкай, дзе мог седзячы прымаць ванны. Затым набыў добрую ванну. Ванны прымаў праз дзень, нанач. Патрэбную мінэральную ваду грэлі ў катлох датуль, пакуль яна не закіпіць, потым разбаўлялі яе сырой мінэральнай вадой да 33°.

Першыя пяць ваннаў тэмпэратураю ў 33° прымаў на працягу 6 хвілін; наступныя 5 ваннаў—у 32°—7 хвілін; далейшыя 5 ваннаў—у 30° —10 хвілін і апошнія 6 ваннаў—у 27°—10 хвілін. Якое-ж самапачуцьцё пасьля ваннаў? Пасля прынятай ванны, як адзначае т. Літвінаў, самапачуцьцё надзвычайна добрае, поўнае распалажэньня ка сну, сон здаровы і нормальны, павышаецца апэтыт і настрой значна паляпшаецца.

Патрэбна толькі пажадаць, каб Нар. Кам. Аховы Здароўя БССР., разам з іншымі організацыямі, напружыў усе сілы для таго, каб як-мага хутчэй скончыць будаўніцтва курорту, які дасьць поўную мажлівасць працоўным танна і добра паправіць сваё здароўе.

---

Т. П. Кулакоў і
М. С. Валатоўскі.

# Крукавіцкі сельсавет Азарыцкага раёну, на Мазыршчыне *).

### Культурна-гістарычны нарыс.

У першай частцы нашага артыкулу пададзены весткі географічна-экономічнага стану сельсавету, а цяпер разгледзім быт і культуру насельніцтва Крукавіцкага с/савету.

Прымітыўны спосаб вядзеньня сельскай гаспадаркі пакідае свой адбітак на матар'яльнай культуры і побыце насельніцтва.

Большая частка насельніцтва жыве ў цесных і брудных хатах. Падлогу ў хатах мыюць толькі да „вялікіх сьвят". Разы тры на год. За апошнія два гады назіраецца мыцьцё падлогі і да рэволюцыйных сьвят: гадавіна Кастрычнікавае рэволюцыі і Першае Мая.

Падмятаюць хату раз у дзень. Сьмяцьцё падграбаюць пад печку і выносяць на сьметнік разы два ў тыдзень. Пад печкаю зімою трымаюць курэй. Часта ў вялікія маразы бяруць у хату маладых цялят, ягнят і парасят. Пад нарамі, якія служаць для спаньня ссыпаюць бульбу і буракі. Хатняе абсталяваньне: лавы, нары, адзін-два ўслоны, стол, а ў некаторых яшчэ і палаці. Гаспадарчыя прылады: цэбар, вядро, карэц, гаршкі, міскі, ухваты, ёмка, сякера і іншае.

Сталых пасьцеляў для ўсіх членаў сям'і няма ў хаце. Ёсьць звычайна нары, на якіх паслана салома, прыкрытая дзяругаю, а ў некаторых салома зашыта ў дзяругу. На нарах звычайна ляжыць вопратка штодзённага карыстаньня. На нарах сьпіць гаспадар і гаспадыня і меншыя дзеці. Каму месца на нарах не хапае—сьпяць на лавах, а зімою на печы. Летам частка сям'і сьпіць у клецях і сенавалах. Падушку маюць толькі маладажоны. Так абстаіць справа з пасьцелямі ў вёсках: Крукавічы, Сышчыцы, Шарэпічы і Гара. У вёсках-жа: Вуглы, Беразьнякі і Віша назіраецца нешта іншае: там у хатах сустракаюцца ложкі, ёсьць да трох падушак, заместа дзяругі—даматканыя посьцілкі і коўдры. Праветрываюцца пасьцелі вельмі рэдка і мыюцца хіба толькі да сьвят. Лазьняў у сельсавеце няма і толькі ў бягучым годзе будуецца лазьня ў комуне Шлях Саветаў. Мыць усё цела ня прынята. Праўда, моладзь летам хаця і рэдка купаецца ў рэчцы, а старыя ніколі. Звычайна раніцою штодня мыюць рукі і твар такім спосабам: набіраюць вады з карца ў рот, потым з роту выліваюць на рукі і шаруюць твар. Ручнік у хаце адзін на ўсю сям'ю. Уціраюцца ім на працягу тыдню. Дзеці ўмываюцца рэдка, хіба да сьвят, ды як падрастуць выкупаюцца ў рэчцы, або ў якой яме. Бялізну мыюць у жлуктах попелам і каменным адварам, а потым ідуць на рэчку паласкаць. Мяняюць ніжнюю бялізну адзін раз у тыдзень больш заможныя, бяднейшыя носяць да 2-х тыдняў. Верхняе адзеньне мыюць рэдка, бо хутка падзярэцца.

---

*) Гл. „Наш Край" № 11, 1929 г.

## Ежа і пітво.

Ежа аднолькавая сярод усяго насельніцтва с/савету. Адрозьніваецца яна толькі ў больш заможных тым, што яны маюць больш прысмакаў.

Хлеб пякуць з жытняй мукі часта не прасеянае, густы, цяжкі і на смак няпрыемны. Стараюцца сьпякчы як-мага больш, каб ён зачарсьцьвеў і быў спарнейшым. Да сьвят пякуць пірагі з жытняй і грачанай мукі, а некаторыя і з пшанічнай.

Блінцы пякуць з жытняй, грачанай і ячменнай мукі на рошчыне кіславатыя, каб лепш удаваліся падбаўляюць бульбы. Пшанічныя блінцы і аладкі пякуць на содзе. Найбольш блінцы пякуць у сьвяты і тады, калі малы запас мукі ў гаспадарцы.

Ядуць тры разы ў дзень: раніцою—сьнеданьне, удзень—абед і вечарам—вячэра.

Сьнеданьне: крупнік грачаны, пярловы, або пшонны з малаком ці закрашаны скваркамі, пры адсутнасьці круп іх замяняе бульба.

Такое сьнеданьне летам. Зімою часта, асабліва ў пост, ядуць бульбу з рассолам ад гуркоў, гуркі і капусту квашаную. Крупнік зімою заменьваюць алеем, а часам і рыбаю. На абед боршч, каша з крупы, або з бульбы. Боршч запраўляецца мясам, рыбаю, каша — скваркамі, або алеем. Вячэраюць астаткамі ад абеду, а калі няма, дык вараць крупнік, часта ня солены, на адвары кіслага малака. Адвар запасяць улетку ў бачонку.

У сьвяты сьнеданьне, абед і вячэра больш смачныя. Раніцою ядуць блінцы з салам, з алеем, а то і з бурачнаю патакаю. На абед у страву дадаюць больш мяса і сала. Гарбату амаль ня п'юць. Самавар зьявішча рэдкае.

Грыбы сушаць такія: баравікі, абабкі, падасінавікі, махавікі і масьлючкі. Сыравежкі, лісянкі і зялёнкі смажаць, або вараць толькі ў сьвежым выглядзе. Капусту — абразаюць лісьце, рэжуць, соляць і заквашваюць у бочцы. Качаны рэжуць папалам, соляць і квасяць для ежы сырымі. Часамі з качаноў робяць шаткоўку: дробна рэжуць качаны, а ў большасьці качаны сякуць секачом у карыце, соляць.

Самагон цяпер п'юць вельмі рэдка. У сьвяты, на вясельле і хрысьціны купляюць хлебнае віно. Квас прыгатаўляюць толькі бярозавы і рэдка кляновы.

Пасуда: гліняныя гаршкі і міскі, чыгун чорны, пабелены рэдка, карэц бляшаны, лыжкі драўляныя свайго вырабу, скаварада. Шклянкі — зьявішча рэдкае. Ядуць звычайна з аднае вялікае міскі. Відэльцы знайсьці ў сялянскай хаце надта цяжка.

Вопратка сялян звычайна хатняга вырабу. Маладыя носяць купленыя кашулі і галіфэ (ў сьвяты). Шапкі пераважна купленыя, толькі старыя амаль круглы год носяць „кучмы"—круглыя шапкі з аўчыны.

Жанчыны ў штодзённым карыстаньні маюць парцяную сарочку, амаль да пят з брыжамі, вышытымі, або затканымі рукавамі, суконны андарак, фартух, даматканы, суконны нагруднік, або капоту купленую, ці вытканую з шэрсьці напалову з партнінай. На галаве паркалёвая хустка. Некаторая частка пачала насіць ужо і спадніцы, як свайго, так і купленага вырабу. Верхняя вопратка складаецца з сьвіты і кажуха.

У сьвяты адзяюць вопратку больш мастацкага вырабу і трэба сказаць, што вырабляць, асабліва тканіны, тутэйшыя жанчыны ўмеюць

добра. Гэта заўважана этнографічнаю экспэцыцыяю БАН, якая наведала Крукавіцкі сельсавет летам 1928 году. Дзеці звычайна носяць вопратку накшталт дарослых, тыя-ж сарочкі, штаны і сьвіткі, што і ў дарослых, разьніца ў разьмерах.

Рэлігійнасьць сярод насельніцтва ў апошнія гады значна зьменшылася. Толькі старыя моляцца. Царквы не наведваюць зусім. Жэняцца ў пераважнай большасьці без папа. Некаторыя перасталі хрысьціць дзяцей. Сэктанцтва ў сельсавеце прадстаўлена аднэй сям'ёй у в. Крукавічах, але ўплыву ніякага на насельніцтва ня мае. Па пастанове агульных сходаў сялян в. Вішы і Беразьнякі, драўляная царква, што была на беразьняцкіх могілках перададзена комуне Шлях Саветаў і цяпер перабудоўваецца на лазьню. Колгасьнікі і бедната в. Крукавіч адмовіліся агульным сходам ад сьвяткаваньня прастольнага сьвята „Міколы“.

Сярод часткі насельніцтва выключна старых захавалася яшчэ шмат старадаўных звычаяў і абрадаў. Чатыры разы ў год спраўляюць „дзяды“ — памінкі па памершых.

Летам перад купальскім днём, засеянае поле абсаджваюць асінамі, а на вокны і дзьверы кладуць крапіву, прыкладзеную каменчыкамі, гэтым як-бы бароняцца ад ведзьмакоў.

Пры будоўлі хаты, дрэў паваленых бураю (буралому) у сьцены не кладуць, бо „жыхары хаты хутка памруць“. Навую хату ў працягу году не прысыпаюць (столь), бо „чэрці будуць пужаць“.

Пры родах акушэркі ня клічуць, а звычайна прысутнічае бабка.

### Асаблівасці мовы.

У мове тутэйшага насельніцтва пашырана саканьне, недарма Крукаўчан называюць „сакунамі“ Прыводзім прыклады: „мая кароўка яшчэ не ацяліласа“, „нешта мусіць зрабіласа, што так доўга забавіўса ў лесе“, „няхай бы ты пакупаласа“.

У зачыненых складох, заместа „о“ заўсёды выгаварваюць дыфтонг „уо“, напрыклад: „куонь, стуол“, вуол стуоль і інш. Гук „ы“ пасьля губных „б, п, м, в“, заўсёды выгаварваюць, як „у“ — мула, пул, бук (мыла, пыл, бык). Месны склон прыметнікаў мужчынскага роду ў адзіночным ліку мае канчатак „ум“, на добрум полі і бяз гною расьце, чырвонум, сьвежум. Клічны склон назоўнікаў мужчынскага і жаночага родаў мае канчатак „о“, „дзедухно“, „бацюхно“, „божухно“, „тато“. Дзеясловы будучага часу маюць канчатак „цьмеш і цьму“: гуляцьмеш, малаціцьмеш, акціму, чытацьму.

Словы: аддаў, вымаўляецца „андаў“, босы вымаўляецца „абосы“.

### Праца і забавы.

Вясною, летам і восеньню селянская сям'я занята працаю на гародзе, полі і сенажаці. Працуюць ад усходу і да заходу сонца. Адпачываюць у нядзелю ды ў іншыя рэлігійныя „сьвяты“.

Пры наяўнасьці неадкладнае працы: грэбсьці сена і ўбіраць снапы, некаторыя працуюць і ў такія дні, асабліва моладзь. У дні адпачынкаў ды ў сьвяты наведваюць мястэчка, сельсавет, зьбіраюцца на агульныя сходы, або групамі на вуліцах, дзе вядуць гутарку на „злобу дня“.

Часамі ходзяць у лес па грыбы, ягады ды арэхі.

Вечарамі моладзь наладжвае вечарынку: наймаюць музыку ды займаюцца скокамі, не абыходзіцца тут бяз выпіўкі, а часам і боек. Зімою мужчыны даглядаюць жывёлу, езьдзяць у лес па дровы, а часамі адпраўляюцца на заробкі, рэзаць і вазіць дровы. Жанчыны заняты хатняю працаю ды прадуць кудзелю. За кудзелямі праводзяць яны штодня ня меньш 10 гадзін. Кладуцца спаць не раней 11-12 гадзіны ночы, а ўстаюць а 4-5 гадзіне раніцы.

Тры вечары ў тыдзень зімою моладзь наведвае лікпункты.

Да гэтага году ў калядныя дні хлопцы наладжвалі „казу“, а ў бягучым годзе організоўвалі спэктаклі.

Наогул трэба сказаць, што сялянства паступова кідае старыя звычаі і пачынае больш уцягвацца ў культурную працу, асабліва гэта прыкметна з організацыяй комуны і колгасаў. Комунары і колгасьнікі зьяўляюцца перадавымі організатарамі мас у справе разгортваньня культурна-асьветнай працы сярод сялянства.

### Установы і організацыі.

Сельсавет знаходзіцца ў в. Крукавічах—цэнтар тэрыторыі. Сельсавет організаваны ў 1924 годзе. У кожным паселішчы ёсьць прадстаўнік сельсавету—член, або кандыдат партыі. Усе пытаньні, зьвязаныя з працаю сельсавету, напярэдадні падрыхтоўваюцца на пасяджэньні сельсавету, якія адбываюцца ня менш 2-х разоў у м-ц і затым пераносяцца на пленум—апошні зьбіраецца адзін раз у месяц. Пытаньні ўдарнага характару па вырашэньні на пленуме сельсавету пераносяцца на сходы беднаты кожнага паселішча, а потым на агульныя сходы. Бядняцка-серадняцкая частка насельніцтва заўсёды імкнецца праводзіць у жыцьцё пастановы агульнага сходу організаваным парадкам, так пры правядзеньні загатовак бульбы, хлеба і лёну ў мінулым 1929 годзе было організавана па сельсавеце да 5-ці чырвоных абозаў. Значная праца сельсаветам пароблена па колектывізацыі сельскай гаспадаркі вёсак, як ужо паміналася ў першай частцы нашага артыкулу ў сельсавеце організавана комуна Шлях Саветаў і колгас Зорка Беларусі, а цяпер падрыхтавана пытаньне да суцэльнае колектывізацыі сельсавету. Працу гэтую мяркуецца прарабіць да вясны 1930 году.

З організацыяй комуны і колгасу праца сельсавету значна ажыла, ёсьць дастатковы актыў з батрацка-бядняцкай часткі сялянства—колгасьнікаў, які дапамагае ў працы сельсавету.

Значна палепшана праца культурна-асьветнай, коопэрацыйнае і санітарна-бытавой камісіі пры сельсавеце. Больш стала разгорнута і праца дабраахвотных організацый, з якіх ёсьць: ячэйка Мопру, Осоавіяхіму і прэч няпісьменнасьць. Організавана дабраахвотная пажарная дружына, якая набыла неабходныя машыны і інвэнтар.

Цяпер пры комуне Шлях Саветаў організавана партыйная ячэйка з 7-мі чал. і ячэйка Ленінскага Комуністычнага Саюзу Моладзі ў складзе 25 чалавек, якія разгарнулі адпаведную працу ня толькі ў самай комуне, але і ў вакольных вёсках сельсавету.

Пры сельсавеце працуе Камітэт сялянскай узаемадапамогі, які аб‘ядная 580 гаспадарак. Камітэт мае грашовыя сродкі ў суме 1924 руб.

11 кап. і насенны фонд у 895 пудоў, а таксама пракатны пункт: 1 трыер, 5 плугоў, 3 бораны-зыгзагі, 5 акучнікаў і 3 саламарэзкі. Значна дапамагаюць бяднейшым гаспадаркам грашыма, насеньнем і рабочаю сілаю. Камітэт прымае актыўны ўдзел ува ўсіх компаніях, якія праводзяцца на тэрыторыі сельсавету. У канцы сьнежня мінулага году праведзены чарговыя перавыбары камітэту ўзаемадапамогі, у складзе камітэту павялічаны лік жанчын.

## Народная асьвета.

Да 1910 году на тэрыторыі с/савету ня было ніводнае школы і пісьменнасьць сярод сялянства была рэдкім зьявішчам. Больш „шчасьлівыя“ з заможных навучаліся ў суседніх царкоўна-прыходзкіх школах—Колкаўскай і Навасёлкаўскай, першая на адлегласьці 15-ці км, а другая на адлегласьці 8-мі км. Была адна школа граматы ў в. Сышчыцы, дзе навучаў „дарэктар“ за 7 руб. у зіму богу маліцца.

Для абслугоўваньня „культурных патрэб“ дарослага насельніцтва мелася ў сельсавеце 2 царквы ды 5 карчмаў.

У 1910 г. была адчынена земская народная школа ў в. Крукавічах, а ў 1914 годзе такая-ж школа ў в. Вуглах. Гэтыя школы маглі абслугоўваць толькі нязначную частку насельніцтва і пераважна заможную.

У сучасны момант у сельсавеце 3 школы і 5 лікпунктаў: у в. Сышчыцах — двохкомплектная, у в. Вуглах таксама двохкомплектная, апошняя знаходзіцца цяпер у былым маёнтку Віша ў 2-х км. ад в. Вуглы і адлегласьці 1,5 км ад комуны „Шлях Саветаў“, лікпункты сталыя ў комуне Шлях Саветаў, у в. Вуглох і пры кожнай з паказаных вышэй школ. Сышчыцкая і Вуглоўская школы маюць добрыя будынкі для абодвых комплектаў, горш справа з будынкам у Крукавічах, дзе школа зьмяшчаецца ў наёмным цесным памяшканьні. Усе школы забясьпечаны падручнікамі і апалам. Заняткі ў школах, за выключэньнем Крукавіцкай, у бягучым навучальным годзе пачаліся своечасова і праца праходзіць нормальна. Лік дзяцей у школах значна павялічыўся з сем‘яў колгасьнікаў і бядняцка-батрацкае часткі насельніцтва. Кожная школа атрымала і разьмеркавала дапамогу бяднейшым вучням з разьліку 45 руб. на комплект з мясцовага бюджэту, а таксама атрымліваюць дапамогу за кошт грамадзкасьці. Пры кожнай школе ёсьць камітэт садзейнічаньня і вучнёўскае самакіраваньне. Школы ўступілі ў спаборніцтва паміж сабою на лепшую пастаноўку працы, як школьнае, так і грамадзкае. Лікпункты працу распачалі са спазьненьнем, але працуюць пры поўнай нагрузцы—у сярэднім па 35 чалавек на лікпункце. Вучацца на лікпунктах пераважна колгасьнікі, беднякі і жанчыны-дэлегаткі.

У комуне Шлях Саветаў організавана хата-чытальня, якая мае невялічкую покуль што бібліотэчку, часопісы і газэты. Чырвоныя куткі ёсьць у вёсках Крукавічах і Чыстая-Лужа. Насельніцтва сельсавету выпісвае наступныя газэты і часопісы: „Беларуская вёска“—50 экз. „Крестьянская газета“—34 экз., „Бедната“—2 экз., „Савецкая Беларусь“—5 экз., „Праўда“—5 экз., „Зьвязда“—5 экз., „Учительская газета“—3, розных часопісаў—21 і часопіс „Наш Край“—1 экз.

Прыводзім табліцу, якая характарызуе працу школ і лікпунктаў сельсавету:

| Назва школ | Лік вучняў у 1927-28 г. | | | Лік вучняў у 1928-29 г. | | | Лік вучняў у 1929-30 г. | | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Хлоп. | Дзяўч. | Усяго | Хлоп. | Дзяўч. | Усяго | Хлоп. | Дзяўч. | Усяго | |
| Сышчыцкая шк. . | 80 | 12 | 92 | 76 | 13 | 89 | 74 | 24 | 98 | Матар'ялы Райінспэктуры Нарасьветы |
| Вуглоўская „ . . | 47 | 9 | 56 | 49 | 12 | 61 | 73 | 30 | 103 | |
| Крукавіцкая аднакомплект. шк. . | — | — | — | — | — | — | 26 | 19 | 45 | |
| Разам . . . . . | 127 | 21 | 148 | 125 | 25 | 150 | 173 | 73 | 246 | |

**Праца лікпунктаў:**

| Назва лікпунктаў | Лік навучаючыхся на лікпунктах за 1929-30 г. | | | Увага |
|---|---|---|---|---|
| | Муж. | Жан. | Усяго | |
| Лікпункт пры комуне Шлях Саветаў . . . . . . . . | 36 | 25 | 61 | Матар'ялы Райінспэктуры Нарасьветы |
| Вуглоўскі . . . . . . . . | 25 | 35 | 60 | |
| Сышчыцкі пры школе. . . . | 38 | 30 | 68 | |
| Вуглоўскі пры школе . . . . | — | 12 | 12 | |
| Крукавіцкі . . . . . . . . | 12 | 4 | 16 | |
| Разам . . . | 111 | 106 | 217 | |

У 1930/31 навучальным годзе мяркуецца адчыненьне яшчэ аднэй школы ў сельсавеце і будзе ўведзена абавязковае ўсеагульнае навучаньне дзяцей 8-годак.

### Мінулае сельсавету.

Далёкае мінулае сучаснага Крукавіцкага с/савету нідзе не запісана і матар'ялаў аб гэтым адшукаць не ўдалося. Ёсьць яшчэ жывыя сьведкі часоў паншчыны.

У часе імпэрыялістычнай вайны 1914 году мобілізацыя прайшла хутка. Ня было ў сельсавеце тае хаты, каб з яе не пайшоў хто-небудзь на вайну.

Маніфэст аб адмове Мікалая II успрыняты быў недаверчыва. Былі разважаньні „Як гэта можна без цара“. У вёску прыбывала ўсё больш і больш салдат з фронту, якія зьяўляліся агітатарамі супроць вайны і за рэволюцыю.

Пры галасаваньні за „учредительное собрание“ большасьць падавала свае галасы за сьпіс бальшавікоў. У лютым 1918 году тэрыторыя сельсавету была окупавана немцамі.

Першыя бальшавіцкія атрады паявіліся на тэрыторыі сельсавету ў сьнежні 1918 году. Зараз-жа быў організаваны Крукавіцкі Валасны Ваенна-Рэволюцыйны Камітэт, які прыступіў да організацыі сельсаветаў па вёсках воласьці.

У сакавіку 1920 году тэрыторыя сельсавету была занята белапалякамі, якія гаспадарылі да канца чэрвеня 1920 году. Часы польскае окупацыі мясцовае насельніцтва ўспамінае з вялікаю агідаю. Зноў зьявіліся абшарнікі на свае „гнёзды“. Зноў пачаў гуляць жандарскі бізун на сьпінах сялянства. У гміне засеў войт, былы абшарнік Баліцкі, разам з якім вярнуліся і старыя парадкі: вобыскам, зьдзекам, згвалтаваньням жанчын ня было канца. Сялянства з коньмі ды жывёлаю хавалася ў лесе, бо інакш папаліся-б у белопольскі абоз. Некаторых захапілі палякі і яны езьдзілі з імі пад Варшаву, адкуль самі ледзь жывыя бяз коняй вярнуліся. Шмат бяды прышлося пераж ыць яўрэйскаму насельніцтву, да якога паны адносіліся яшчэ з большаю нянавісьцю. Пры адступленьні белапалякаў 18 і 19 чэрвеня, яны яшчэ больш узмацнілі зьдзекі і рабункі над сялянствам. Адыходзячы, спалілі два масты па рэчцы Вішы. 20-га чэрвеня раніцою ў вёскі с/савету ўвайшлі атрады Чырвонай арміі, насельніцтва сустрэла іх хлебам і сольлю. Зараз-жа быў скліканы валасны зьезд саветаў і выбраны волрэўком.

Пры мобілізацыі ў Чырвоную армію бяднейшая частка насельніцтва ішла з бальшою ахвотаю, пачалася ўпартая барацьба з дэзэртырствам і контрэволюцыйнымі элемэнтамі. Абшарнікі паўцякалі з белапалякамі.

*Бандытызм.* Тэрыторыю сельсавету часта наведвалі розныя банды, якія засталіся ў лясох ад часоў польскай окупацыі, а таксама прабіраліся і з Польшчы.

У пачатку лістапада 1920 году сельсавет наведала банда Балаховіча. Бойка Чырвонай арміі з гэтаю бандаю праходзіла ноччу па рэчцы Вішы, каля маста, што па дарозе ад в. Крукавіч у в. Навасёлкі. З боку чырвонаармейцаў сіла была малая, затым балахоўцам прышлося пагаспадарыць гадзін 15, покуль падасьпелі атрады чырвоных з былой Даманавіцкай воласьці і прагналі іх. За кароткі час гаспадараньня балахоўцы ўсьпелі зрабіць дзікую расправу з захопленымі ў палон політрукам і мясцовымі яўрэйскімі сем'ямі. Політрука і трох яўрэяў яны завялі ў лес, трох з іх застрэлілі, а аднаму ўдалося ўцячы з прастрэленаю рукою.

Была тут і мясцовая банда галаварэза Кіселя і Ходата, якая ў ліку да 50 чалавек хавалася па лясох Азарыцкага раёну. Банда гэтая складалася галоўным чынам з крымінальнага элемэнту, ды з мясцовых дызэртыраў. Звычайна яна рабіла напады на яўрэйскія сямействы і савецкія ўстановы.

Пад восень таго-ж году зьявілася ў Крукавічы банда Караткевіча ў складзе 15 конных і да 40 пяхоты. Гэтая банда прабіралася з Капаткевіч на м. Азарычы. Караткевіч меў намер злучыцца з Кісялём, але не дагаварыліся і Караткевіч накіраваўся пад Бабруйск. Кісель-жа яшчэ прабаваў рабіць набегі на асобныя вёскі Азарыцкага раёну амаль да 1922 году. Потым сам Кісель уцёк у Польшчу, а банда яго папала ў рукі органаў політбюро.

М. Валасэвіч.

# Семнаццаць дзён па БССР *).

*(Экскурсія краязнаўчага гуртка 20 Менскай фаб.-зав. сямігодкі).*

## М. Чашнікі Віцебскай акругі.

Была прыблізна першая гадзіна ночы, калі мы пад'ехалі да Чашнікаў. Цягнік спыніўся. Мы выходзім з вагону. На двары станцыі стаіць з дзесятак падвод. Да м. Чашнікаў ад станцыі кілёмэтраў 2 або 3. Дарогу ўначы, калі ўсё вакол сьпіць, знайсьці нялёгка. Апроч гэтага, і свой багаж несьці па якіх 12 кілё на кожнага таксама нялёгка. Бярэм адну падводу. Умовіліся да беларускай сямігодкі за 1 рубель. Хутка складаем свае клункі на падводу, а самі ідзем пехатой. Ярка сьвеціць месяц, дарога недалёкая, сухая. Няпрыкметна праходзіць паўгадзіны, і мы каля школы. Крыху пастукалі ў адно, другое вакно; праз некалькі хвалін да вакна падышла старэнькая кабета. Пачуўшы, што гэта прыехалі экскурсанты з Менску, яна—гэта была тэхпрацаўніца школы—адчыняе нам дзьверы і гасьцінна запрашае нас у школу. Праз некалькі хвілін мы ўжо гаспадарым у аднэй клясе, ставім вучнёўскія лаўкі па дзьве разам і кладземся спаць.

Прабылі мы ў Чашніках два дні і за гэты час пасьпелі пазнаёміцца з самым м. Чашнікамі і з Чашніцкай папяровай фабрыкай Чырвоная Зорка. Чашнікі—досыць вялікае, з чыстымі брукаванымі вуліцамі мястэчка, ляжыць на р. Вульле. Усяго ў Чашніках налічваецца 3001 чалав. насельніцтва, з іх мужчын 1437 і жанчын 1544 чалавек. Нацыянальны склад насельніцтва наступны: яўрэяў—1675, беларусаў—1308, палякаў—18.

Чашнікі досыць буйны прамысловы асяродак. У Чашніках ёсьць папяровая фабрыка Чырвоная Зорка; знаходзіцца яна ў руках дзяржавы; млын з рухавіком, які працуе на нафце, і бойня—здадзены ў арэнду; 5 воўначосак, 15 кузьняў, сьлясарная майстэрня, 2 фарбавальні, гарбарная майстэрня—усе знаходзяцца ў руках прыватнікаў.

У Чашніках значна пашыраны прамысловыя арцелі і працколектывы: тут ёсьць адзін працколектыў шаўцоў, арцель панчошнікаў, арцель кавалёў, арцель загатоўшчыкаў.

У м. Чашніках ёсьць дзьве школы: беларуская сямігодка, якая разьмяшчаецца ў будынках, і яўрэйская чатырохгодка. У беларускай сямігодцы 385 вучняў, а ў яўрэйскай чатырохгодцы 147 вучняў. У сучасны момант у мястэчку будуецца новы будынак для яўрэйскай школы. Для ліквідацыі няпісьменнасьці сярод дарослага насельніцтва ёсьць два лікпункты. Да навучальна-выхаваўчых устаноў мястэчка трэба дадаць яшчэ дзіцячы сад. Апроч гэтага, у Чашніках ёсьць бібліотэка ў 1000 кніг, тры клюбы—партыйны, саматужнікаў і комсамольскі. Ёсьць піонэр-атряд у 120 чалавек.

Большая частка першага дня, які мы прабылі ў Чашніках, пайшла на азнаямленьне з Чашніцкай папяровай фабрыкай. Фабрыка знаходзіцца на адлегласьці 3 кілёмэтраў ад мястэчка. А першай гадзіне дня мы накіраваліся на фабрыку. Было пасяджэньне

*) Гл. „Наш Край“ № 1 (52). 1930.

партыйнай ячэйкі, калі мы прышлі на фабрыку. Дырэктар фабрыкі—рабочы вылучэнец—рабіў даклад. Разьбіралася пытаньне аб соцыялістычным спаборніцтве паміж Чашніцкай папяровай фабрыкай, Шклоўскай і Барысаўскай. Але нам ня прышлося доўга чакаць. Як толькі даклад быў скончаны, дырэктар адразу падышоў да нас і даў дазвол падрабязна азнаёміцца з фабрыкай.

### Папяровая фабрыка Чырвоная Зорка ў м. Чашніках *).

Апошнія гады перад рэволюцыяй і пэрыод да 1925 году фабрыка прыносіла ўбыткі і ня была ліквідавана, толькі дзякуючы энэргіі і настойлівасьці самых рабочых. Але ўжо ў 1927 годзе фабрыка дала 170.000 руб. прыбытку, у 1928 годзе была пастаўлена 3-яя папяровая



Мал. № 1. Папяровая фабрыка Чырвоная Зорка ў м. Чашніках.
Малюн. вучня VII кл. Хадынка Яўг.

машына, і ў сучасны момант фабрыка выпрацоўвае 42-43 тоны паперы ў суткі.

Рабочыя Чырвонай Зоркі прымаюць удзел у соцыялістычным спаборніцтве. Шклоўская папяровая фабрыка Спартак выклікала Чырвоную Зорку, а апошняя ў сваю чаргу выклікала Барысаўскую папяровую фабрыку Профінтэрн. Згодна дагавору сабекошт павінен быць зьніжаны на 25%.

Да чэрвеня зьніжэньне сабекошту дасягнула 23%. Колькасьць прагулаў таксама зьнізілася ў 3 разы, у маі 1929 году было толькі

*) Апісаньне фабрыкі рэдакцыя дае ў скарочаным выглядзе, бо падрабязнае апісаньне данай фабрыкі ўжо друкавалася раней. Гл. „Н. Кр." № 4-5 (7-8) за 1926 г. „К. Арол. Чырвона-Зорская паперня і яе праца".

два прагулы. Рабочыя пастанавілі зьнізіць колькасьць прагулаў да нуля.

У сучасны момант на фабрыцы налічваецца:

Рабочых 440 служачых 52 У тым ліку 399 мужчын і 93 жанчыны.

Па нацыянальнасьці:

Палякаў 80, яўрэяў 35—40, вялікарусаў 6, латышоў 3. Рэшта—363 беларусы.

Для рабочых ёсьць свой пасёлак, у якім 20 старых дамоў і 7 новых, пабудованых жылкоопэрацыяй; 60% усіх рабочых ахоплена пасёлкам. На фабрыцы ёсьць клюб на 150 чалавек, у 1930 годзе мяркуецца пабудаваць новы. Пры клюбе працуюць гурткі: драмгурток, фізвыху, аўтадору і іншыя.

Фабрычная бібліотэка налічвае 5000 кніг. Няпісьменных на фабрыцы 28, няпісьменнасьць ліквідуецца праз гурток.

У фабкоме 9 чалавек. У фабкоме працуюць камісіі па ахове працы, культ-камісія і вытворчая.

Дырэктар фабрыкі—рабочы-вылучэнец. Вышэйшым органам кіраўніцтва фабрыкі зьяўляецца Белбумтрэст.

Сыравінай для фабрыкі зьяўляецца цэлюлёза, якая прывозіцца з Фінляндыі і ідзе на выраб пішчай паперы высокай якасьці; савецкая небялёная цэлюлёза Сяськага заводу, разнакаляровыя шматкі паперы, старыя кніжкі, архівы, папяровы брак. Вырабляе фабрыка пішчую паперу, паўпэргамін (папера, якой абгортваюць масла, цукеркі і інш.), абойную паперу і розныя гатункі альбомнай паперы. Продукцыя фабрыкі рэалізуецца ў БССР і СССР.

## Ад Чашнікаў да Лепеля.

22 чэрвеня а $2^1/_2$ гадз. дня мы вышлі з Чашніцкай сямігодкі і накіраваліся на бераг Вуллы, каб лодкай дабрацца да Лепеля. Лодку мы купілі тут-жа ў Чашніках за 42 рублі, вельмі добрую, пласкадонную, на 15 чалавек, а нас ехала толькі 9 чалавек,—такім чынам мы сьмела маглі пакласьці ў лодку і ўсе свае пакункі.

Дзень быў гарачы, сонца паліла, пачыналі зьбірацца хмары; было відаць, што пойдзе дождж, але ў хлапцоў не хапіла цярпеньня перачакаць, і лодка ўрачыста была спушчана на ваду, але ня доўга прышлося нам плыць пры добрым надвор'і. Спачатку пачаў крапаць дождж і хутка паліў, як з вядра, у дадатак да гэтага мы скора сустрэлі першую перашкоду—першую мялізну. Мы спачатку разьлічвалі проста адпіхнуцца ад яе вёсламі, але дарэмна: вада была зусім спушчана, а шлюзы каля Лепеля былі закрыты, і колькі мы ні пхалі лодкі вёсламі і шастамі, яна ня рухалася з месца. Так пакутвалі мы каля гадзіны. Тады ўсе скінулі боты, закасалі нагавіцы і перайшлі ў брод на бераг, каб цягнуць лодку бечавой, але і гэта нам не ўдалося. Лодка стаяла на каменьнях, і вяроўка рвалася некалькі разоў. І вось некалькі чалавек скінулі вопратку, кінуліся ў ваду, упрагліся ў лодку і так цягнулі яе каля 2-3 вёрст. Вышаўшы на глыбокае месца, адзеліся ў мокрую адзежу, узяліся за вёслы і хутка сагрэліся.

Нядоўга прышлося нам ехаць па чыстай вадзе, хутка сталі пападацца месцы скрозь пазарасталыя травой, але і гэтая перашкода была пераможана.

Так плылі мы да 10 гадзін вечару, да вёскі Прыстоі. Тут здарылася з намі маленькае няшчасьце.

Пакуль кіраўнік экскурсіі хадзіў у школу і вёў перамовы аб начлезе, хлапцы, шчасьлівыя, што дабраліся да берагу і могуць ступіць нагой на цьвёрдую глебу, рашылі выцягнуць лодку на бераг і так пацягнулі яе, што ўсе рэчы, якія ў ёй знаходзіліся, пакаціліся да кармы, а за імі і ўся вада, якая была на дне лодкі. Калі лодка была ўжо выцягнута на бераг, і экскурсанты падышлі, каб забраць свае рэчы, то пабачылі, што ўсе яны плаваюць у вадзе...

Вось вам і сухары, вось вам і цукар, і дарожныя нататкі, і малюнкі!

Пайшлі ў школу, якая зьмяшчаецца ў сялянскай хаце. Хата чыстая і добра напаленая (пяклі хлеб). Ой, як былі мы рады гэтаму цяплу! Раніцай заканапацілі лодку і рушыліся далей. У дарозе падзяліліся на дзьве зьмены, па 4 грабцы ў кожнай. Кожная зьмена грабла адну гадзіну. Увесь дзень стаяла ціхае сонечнае надвор'е, вада была чыстая, лодка лёгка нёслася ўперад, і нішто не перашкаджала нам любавацца казачным хараством вакольнай прыроды.

Высокай сьцяной, стромка падымаюцца берагі Вуллы над срэбным люстрам вады, купаючы ў халодных хвалях адлюстраваньне высокіх хвояў і тонкіх белых бяроз, што зялёнай істужкай цягнуцца па берагох. Трэба далёка назад закінуць галаву, каб пабачыць блакіт неба; здаецца, берагі наступаюць на лодку, замыкаюць яе ў нейкае чароўнае кола; абернешся назад, там ужо сышліся зялёныя сьцены; глянеш уперад, і там такая самая смарагдавая заслона, але некалькі ўдараў вёслаў, і за крутым паваротам зноў чысты срэбны шлях. Нават жарты і сьмех сьціхлі, ледзь рухаецца лодка, маўчаць хлопцы, зачараваныя нявіданымі малюнкамі прыроды.

Так плылі мы вёрст 10, пакуль каля вёскі Васькавічы ня сустрэлі зноў плыткае месца, густа парослае травой, да таго-ж і цячэньне тут было вельмі хуткае. Паўзрэчкам ісьці ня было магчымасьці, бо берагі былі пакрыты хмызьняком. Прышлося аднаму з вучняў разьдзецца, улезьці ў ваду і цягнуць лодку да таго месца, дзе зноў можна было плысьці на вёслах. Калі сонца пачало ўжо схіляцца да захаду і пацягнула прахладай, мы спыніліся каля аднаго хутара, недалёка ад парому, купілі ў сялянкі хлеба і кваснага малака, расклалі касьцёр, прыгатавалі гарбату.

Адпачыўшы на зялёным мурагу, мы зноў рушыліся ў дарогу. Праз некаторы час пачулі мы плеск і шум падаючай вады. Пад'ехалі бліжэй і зьдзіўленыя ўбачылі, як рэчка, зрываючыся з высокага ў 1-$1^1/_2$ сажні вышыні берагу, вадаспадам кідаецца ў Вуллу, падставілі кубачак, набралі вады,—усім яна паказалася вельмі смачнай.

Заначавалі мы на хутары Гарадзенец, а на другі дзень у 8 гадзін раніцы зноў плылі далей. Па дарозе рэчка некалькі разоў падзялялася на два рукавы, якія разыходзіліся ў розныя бакі. Прыходзілася абмяркоўваць, як плысьці далей, але на шчасьце мы ні разу не памыліліся.

Каля 10 гадзіны раніцы мы сустрэлі возера, не адзначанае на нашых картах. У сялян мы даведаліся, што гэта возера завецца Люкжына. Праплыўшы праз гэта возера, мы спыніліся каля правага берагу Вуллы. У кроках 200 ад берагу мы ўбачылі высокі, з чыстага белага пяску, узгорак. Мы падышлі да ўзгорку. Дзьмуў моцны вецер, вострыя пяшчынкі білі ў твар. Гэта была сапраўдная выдма. Мы вяр-

нуліся ў лодку. Вецер крапчэў. Чорныя хвалі з белымі грэбнямі паі крылі ўсю рэчку і пачалі біць аб барты нашай лодкі. Хутка плылі мы, але дождж усё-ж такі дагнаў нас; на шчасьце, ён быў ня доўга, і мы плылі бяз усякага перапынку. І вось за адным з паваротаў паказаліся тэлеграфныя слупы і гарадок. Гэта быў Лепель.

Мы вельмі ўзрадваліся. Паставілі мачту, прымацавалі чырвоны сьцяг. Пасадзілі на вёслы лепшую чацьвёрку грабцоў; стралой панеслася лодка да гораду, але не... яшчэ адна апошняя перашкода: зноў мялізна і зноў дождж. Каля гадзіны біліся мы пад праліўным дажджжом, каб прайсьці праз гэтае плыткае месца, але дарэмна. Тады забраўшы свае мяшкі, кінуліся мы на бераг туды, дзе ветла выглядала з зелені сялянская хатка. Там мы абсохлі і сагрэліся. Дождж паміж тым сьціх, і двое з вучняў правялі свабодную ад цяжару лодку праз мялізну. Зноў селі мы ў лодку, даехалі да шлюза і тут пакінулі яе пад ахову шлюзавога вартаўніка, а самі накіраваліся ў Лепельскую беларускую сямігодку, каб тут добра адпачыць і набрацца сіл на новую дарогу да Барысава.

У Лепелі мы прабылі два дні і гэты час выкарысталі на азнаямленьне з горадам і на адпачынак перад доўгай і цяжкай дарогай. Лепель—невялікі раённы горад Полацкай акругі з агульным лікам насельнікаў у 6776 чалавек па перапісу 1926 году — ляжыць на паўднёвым пескавым беразе Лепельскага возера. Горад на $^{9}/_{10}$ складаецца з драўляных аднапавярховых будынкаў, з шырокімі, чыстымі, у большасьці небрукаванымі вуліцамі. У цэнтры гораду знаходзіцца гарадзкі сад, так званы „Пятачок", а на адлегласьці 2-3 хвілін хадзьбы ад яго каменны аднапавярховы будынак Лепельскай беларускай сямігодкі, дзе мы знайшлі гасьціны прыём на два дні. За гэты час мы пасьпелі аглядзець багаты сваімі экспонатамі прыродазнаўчы габінэт школы, вельмі добра пастаўленыя шматпольныя севазвароты на школьным паказальным вучастку, пазнаёміліся з Лепельскім краязнаўчым музэем.

На другі дзень нашага прабываньня ў Лепелі мы зьвярнуліся ў кіраўніцтва Начальніка Бярэзінскага Тэхнічнага Вучастку Унутраных Вадзяных шляхоў і атрымалі пісьмовы дазвол на праход нашай лодкі праз усе шлюзы на Бярэзінскім канале.

Настала 26 чэрвеня. Значна папоўніўшы з дазволу Р. В. К. у Лепельскім рабочым коопэратыве нашы харчовыя запасы хлебам, цукрам, каўбасамі і інш., мы каля першай гадзіны дня разьвіталіся з Лепельскай сямігодкай і накіраваліся к шлюзу № 11, дзе стаяла наша лодка. Малы хлапец, сын шлюзавога сужачага, разам з некалькімі экскурсантамі правялі нашу лодку праз шлюз № 11 і давялі яе да маста праз р. Вуллу. Тут мы ўсе селі ў лодку, паклалі свае клункі ў пярэдняй частцы лодкі, закрылі іх посьцілкай на выпадак дажджу і паплылі разам з хлопчыкам да другога шлюзу. Прышлося нам пераплыць Лепельскае возера, дзьмуў моцны вецер, цёмныя хмары заткалі неба, вялікія хвалі сталі падкідваць нашу лодку. Падплыўшы да шлюза № 10, мы вышлі з лодкі на бераг, а хлопчык і двое экскурсантаў засталіся ў лодцы і правялі праз шлюз. Мы ўсе з зацікаўленасьцю глядзелі, як адчыняліся вароты шлюза, як нашу лодку ставілі ў камэру паміж двох варот, як адчыняліся другія вароты ў шлюзе, і лодка са шлюзу вышла на свабодную паверхню р. Эссы. Мы тут падзякавалі нашага правадыра, разьвіталіся з ім і паплылі далей адны.

Р. Эсса ўпадае ў Лепельскае возера, і зноў, як і па Вулле, нам прышлося плысьці супроць вады. Скора мы прайшлі возера Прошу і зноў паплылі па Эссе. Насустрач нам праз увесь час гналі плыты, прайшла лайба на бічаве.

Пачынала цямнець. Мы пад'ехалі да берагу, прывязалі ўздоўж берагу лодку, каб яе не закранулі плыты, якія гналі па Эссе, а самі з сваімі рэчамі вышлі на бераг.

У некалькі хвілін мы нацягнулі ўзятую ў Лепелі палатку і расклалі касьцёр. Весела пілі мы гарбату, седзячы перад кастром каля палаткі. Сёньня першы раз за ўсю дарогу мы сьпім у палатцы (здабылі ў Лепелі). Цэлую ноч гарыць касьцёр, праз кожную гадзіну зьмяняецца варта. Каб было весялей,— стаяць на варце па двое. Апошняя варта павінна была прыгатаваць гарбату і пабудзіць усіх у 4 гадзіны раніцы. Так і было зроблена. Каля 5 гадзін раніцы мы, напіўшыся гарбаты, рушыліся ў дарогу. Дзень быў ціхі, сонечны. Хутка мы зноў сустрэлі перашкоды: спачатку мялізну, а далей плыты, якія загарадзілі нам усю дарогу. Доўга прышлося нам працаваць, пакуль правялі мы сваю лодку каля плытоў. Добра яшчэ, што адзін з нашых экскурсантаў, вясковы хлапец, параіў нам адвязаць плыты і перавесьці іхна некалькі сажняў ніжэй. Бяз гэтага мы, пэўна, доўга прастаялі-б тут, бо плытагоншчыкі, пасьля таго, як плыты абмялелі, разышліся па вёсках. Было тут нам даволі працы, але ўсе былі вясёлыя, бо мы змаглі самі асіліць перашкоду.

Наляглі на вёслы, і зноў пайшлі перад нашымі вачыма прыгожыя краявіды, адзін лепшы за другі; берагі Эссы тут скрозь былі лясістыя і ўзгоркаватыя.

Каля поўдня мы падышлі да шлюзу ў Верабкох. За гэтым шлюзам мы паплылі ўжо па р. Бярэшчы, якую мясцовае насельніцтва заве Бузянкай.

Бярэшча скрозь пазарастала травой, але лодка ідзе лёгка і хутка, дзякуючы дастатковай глыбіні. Берагі балоцістыя. Заначавалі мы ў гэты дзень каля шлюзу ў Гарадку на сенавале ў шлюзавога майстра. Праўда, тут ня было ні сена, ні саломы. Прышлося спаць на голых дошках.

На другі дзень мы прайшлі вазёры Плавіо, Манец, р. Сэргуч, Сяргучоўскі канал і падышлі да апошняга шлюзу на Сяргучоўскім канале. Пакінуўшы тут лодку, мы накіраваліся ў вёску Акрайцы і заначавалі ў хаце лясьніка.

На другі дзень раніцай мы спадзяваліся iсьці ў Дзяржаўны Паляўнічы Ахоўнік, але надвор'е зусім ня спрыяла гэтаму. Цэлую раніцу ішоў дождж, і толькі я ды яшчэ двое экскурсантаў адважыліся iсьці з лясьнікам у пушчу, а рэшта засталіся ў хаце пісаць і перапісваць даклады, рабіць зарысоўкі і г. д.

Ад шлюзу № 1 у Беларускі Дзяржаўны Ахоўнік дарога вядзе праз вёску Акрайцы, хутар Малахоўскага, вёску Пострэж (8 хат), хутары Могілкі, Плясенкі і нарэшце хутар Вялікую Раку, дзе знаходзіцца галоўнае кіраўніцтва ахоўнікам. Вялікая Рака знаходзіцца на адлегласьці 16 кілёмэтраў ад шлюзу № 1.

Па дарозе вельмі прыгожыя краявіды. Чорны ліставы з дамешкай сасны або елі лес, невялічкі кавалакі сенажаці, палоскі залацістага жыта, — усё гэта надзвычайна прыгожа злучаецца адно з адным. Часамі магутны глухі лес зьмяняецца вучасткамі забалочаных сенажацяй і тонкага маладняку. У Ахоўніку шмат усякага лому. Гніюць

цэлыя пні, паваленыя бурай. Прайсьці праз такі лес надзвычайна цяжка.

Дарога ад шлюзу № 1 да Вялікай Ракі вясёлая і цікавая і праз увесь час ажыўляецца ідучымі бязупынку адзін за адным хутарамі і вёскамі. А вось перад намі і Вялікая Рака — галоўнае кіраўніцтва Ахоўніка, абнесенае высокім, каля 2 сажняў вышыні, і моцным частаколам з падвойнымі і ўмацаванымі варотамі. Вялікая Рака—гэта моцны культурны асяродак сярод лясной глушы і балот.

Беларускі Дзяржаўны Ахоўнік організаваны пастановай Саўнаркому БССР ад 30 студзеня 1925 году з мэтай захаваць ад канчатковага зьнішчэньня некаторыя віды зьвяроў, напрыклад бабра. У Дзяржаўным Ахоўніку лічыцца на 1 кастрычніка 1928 году 35553,9 га плошчы, пакрытай лесам, 589,4 га вырубленага і 395,3 га пагарэлага лесу.

Акрамя вышэйпаказанай лясной плошчы ў Ахоўніку лічыцца 1864,23 га сенажацяй, часткова пазарастаўшых мохам і лазой, але кіраўніцтва Ахоўніка імкнецца да таго, каб пасьля асушэньня абярнуць гэтую плошчу ў ліставы лес. Імшараў у ахоўніку налічваецца 10334,8 га.

У заходняй і ўсходняй частцы Ахоўніка пераважаюць шыльнікавыя лясы, а на поўдні, каля возера Пялік, 75% ліставога лесу, рэшта—ігластыя лясы. Усяго ў Ахоўніку лічыцца 9738,0 га хвоі, 11093,7 га елкі, 4953,9 га вольхі і 9768,3 га іншых ліставых дрэў—бярозы, ясеня, клёну, дубу (вельмі мала), ліпы (мала).

Склад служачых, які абслугоўвае Ахоўнік, такі: загадчык, яго два памоцнікі, 7 аб'езчыкаў і 37 лясьнікоў. Асабовы склад лясной варты набраны з беднаты і дэмобілізаваных чырвонаармейцаў, але варта яшчэ не дастаткова кваліфікаваная. На абавязку лясной варты ляжыць сачыць за тым, каб ня было ў лесе парубак, паляваньня і весьці вучот зьверу. Кожны лясьнік у сваім дзеньніку павінен штодня адзначаць, у якім месцы і якога зьвера ён бачыў. Праз два тыдні лясьнік здае свой дзеньнік аб'езчыку, які падагульнівае працу лясьнікоў і накіроўвае ўсе весткі ў канцэлярыю Ахоўніка, дзе вядзецца вучот зьверу ва ўсім Ахоўніку.

Вынікі вучоту зьвера за 1927-28 год наступныя:

| | |
|---|---|
| Мядзьведзяў . . | 13 |
| Ваўкоў (узімку) . . | 9 |
| Лісоў—значная колькасьць | |
| Рысяў . . . . | 9 |
| Куніц . . . . | 60 |
| Выдраў . . . | 45 |
| Норак. . . . | 16 |
| Баброў . . . | 27 (а летам 1929 г.—32) |
| Ласёў . . . . | 40—60 |
| Дзікіх коз . . . | 200; жывуць статкамі па пяцьшэсьць галоў. |
| Дзікоў. . . . | — |
| Барсукоў . . . | — |
| Глушцоў каля . . | 60 вывадкаў |

Рабкоў—вельмі значная колькасьць,
Белых курапатак—дастатковая колькасьць,
Цецярукоў—вельмі многа,

Чорных буслоў—невялікая колькасьць, каля возера Пялік налічваецца 4 пары чорных буслоў.

Калі мы зробім параўнаньне гэтых лічбаў з тымі, якія былі апублікаваны проф. Фядзюшыным („Наш Край“ 1926 г. № 1(4), дык павінны будзем адзначыць значнае павялічэньне ліку зьвяроў у Ахоўніку.

Якія мерапрыемствы ўжываюцца ўладай дзеля лепшай аховы зьвяроў у Дзяржаўным Ахоўніку?

1) забаронена эксплёатацыя лесу за выключэньнем задавальненьня патрэб мясцовага насельніцтва, якое жыве на тэрыторыі Ахоўніка;

2) абмежавана паша жывёлы ў межах Ахоўніка — дзеля гэтай мэты адведзена па 4 га на 1 галаву жывёлы для мясцовага насельніцтва;

3) устаноўлена на пяць год з усіх бакоў Дзяржаўнага Ахоўніка паласа шырынёй у 3 кілёмэтры пад назвай заказьніка, дзе забараняецца паляўніцтва на зьвяроў дзеля таго, каб іх не палохаць;

4) праведзена праца па вывучэньню хутароў і вёсак у межах Ахоўніка і пастаўлена перад Дзяржплянам БССР пытаньне аб водпуску сродкаў на перасяленьне тых, якія перашкаджаюць дабрабыту зьвяроў. Усяго намечана да высяленьня 120 сямей.

5) пабудаваць уласныя будынкі для лясной варты, часткова выкарыстаўшы будынкі тых гаспадароў, якія будуць выселены за межы Ахоўніка;

6) пашырыць існуючы гадавальнік для пушных зьвяроў, выпісаць для гадавальніка чорнабурых лісоў і пясцоў;

7) устанавіць спэцыяльны штат служачых пры гэтым гадавальніку, падпарадкаваўшы яго асобнаму загадчыку.

Вось тыя мерапрыемствы, якія намечана зьдзейсьніць на працягу пяцігодкі дзеля лепшага дасягненьня тых мэт, якія стаяць перад Дзяржаўным Паляўнічым Ахоўнікам.

Дзяржаўны Паляўнічы Ахоўнік—справа новая, маладая. Вакольнае насельніцтва яшчэ ня зусім зразумела навуковую і эканомічную вартасьць аховы зьвяроў і часта варожа адносіцца як да самай справы, так і да ўсяго асабовага складу Дзяржаўнага Ахоўніка. Тым з большай энэргіяй адміністрацыя Ахоўніка павінна праводзіць растлумачальную кампанію сярод насельніцтва. І трэба адзначыць, што адміністрацыя гэта робіць. Адміністрацыя падтрымлівае самую цесную сувязь з Р. В. К.—Бягомльскім, Лепельскім, Барысаўскім, Халопеніцкім і 11 сельсаветамі, ставіць свае даклады на раённых зьездах саветаў і пленумах РВК і сельсаветаў і такім чынам пашырае сярод вакольнага насельніцтва думку аб карыснасьці і неабходнасьці організацыі Дзяржаўнага Ахоўніка.

На адлегласьці прыблізна 1 клм. ад канторы Ахоўніка сярод дзікага лесу пабудаваны гадавальнік для найбольш каштоўных пушных зьвяроў. Дзеля гэтай мэты адведзены вучастак дзікага лесу, плошчай каля 1 га; гэта надзвычайна прыгожы куток. Тут за спэцыяльнай драцянай агарожай у трох вальерах выхоўваюцца лісы, у кожнай вальеры па аднэй сям'і. Каб лісы не змаглі вылезьці з вальер праз норы, у зямлю на глыбіню 1 мэтра апушчана агарожа з дошчак. Верхнія берагі гэтай драцянай агарожы выгнуты ўнутр вальер, і не даюць лісам магчымасьці пераскочыць праз верхні край агарожы.

Так у дзікай глушы, сярод лесу і часта непраходных балот вядзецца вялікая культурная праца. Умовы жыцьця асабовага складу Ахоўніка вельмі цяжкія, аніякіх ільгот або прывілеяў гэтыя сама-

ахвярныя працаўнікі ў параўнаньні з служачымі звычайных лясьніцтваў ня маюць,—на гэта трэба было-б зьвярнуць увагу адпаведным установам.

На кожным кроку ў Дзяржаўным Паляўчым Ахоўніку чакае экскурсанта так многа цікавага, што нельга не параіць кожнаму пазнаёміцца з ім тым больш, што экскурсанта, які запраўды зацікавіцца справай, чакае самы гасьцінны прыём з боку адміністрацыі Ахоўніка.

## Ад Дзяржаўнага Ахоўніка да Барысава.

Вярнуўшыся з Дзяржаўнага Ахоўніка, мы зноў рушыліся ў дарогу, цьвёрда пастанавіўшы быць на другі дзень вечарам у Барысаве. Нашыя пустыя харчовыя мяшкі і немагчымасьць здабыць харчы па дарозе, з прычыны забалочанасьці берагоў Бярозы і адсутнасьці вёсак, прымушаюць нас прайсьці 100 кілёмэтраў у адны суткі. А шостай гадзіне вечара мы адплылі ад шлюза № 1 і праз паўгадзіны вышлі з каналу ў р. Бярозу. Каля 8 гадзіны вечара мы мінулі хутар Лубніцкі і крыху ніжэй яго на левым беразе Бярозы пабачылі бабровую хатку; увесь бераг быў зрыты норамі. Мы высадзіліся на бераг. Непадалёку селянін касіў сенажаць. На наша пытаньне: што гэта такое? ён адказаў: „Ну, вядома, гэта-ж яго хатка“.—Каго?—„Да бабра-ж!“ З цікавасьцю мы аглядзелі бабровую хатку, зложаную з доўгіх і досыць тоўстых галін, і паплылі далей.

Мы плылі, ня гледзячы на цемру, да 1-й гадзіны ночы і спыніліся ў некалькіх кілёмэтрах ад возера Пялік, калі пабачылі, што берагі Бярозы страцілі сваю яснасьць і вызначанасьць. Прыняўшы залітыя вадой сенажаці ўздоуж Бярозы за пачатак воз. Пялік, мы адплылі прыблізна на 1 км назад, шукаючы сухога месца на берагох, каб зрабіць астаноўку. Хутка такое месца знайшлося. Разаслалі палатку, палажылі рэчы пад галаву, прыкрыліся другой паловай палаткі і хутка заснулі. Я і яшчэ двое экскурсантаў засталіся начаваць у лодцы.

Кароткая ноч у чэрвені: а пятай гадзіне раніцы мы ўжо зноў плылі, а праз гадзіну вышлі на воз. Пялік.

Цэлую гадзіну мы ішлі на 4-ох вёслах упоперак возера, а потым яшчэ больш гадзіны ўздоўж паўднёва-заходняга берагу, шукаючы выйсьця ў р. Бярозу. Трэба пашкадаваць, што выйсьце з Пяліка ў Бярозу нічым не адзначана, як гэта было на іншых вазёрах, дзе пастаўлены машты-маякі.

Шырыня і даўжыня возера настолькі значныя, што ніводзін вучань ня мог убачыць на процілеглым беразе рума, на які нам трэба было кіраваць сваю лодку. Мы не змаглі пабачыць рум нават і з сярэдзіны возера. Праз дзьве гадзіны плаваньня па возеры мы нарэшце знайшлі выйсьце ў Бярозу.

## Возера і вёска Пялік.

Возера Пялік мае ў даўжыню з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад 5 км і каля 3 км у шырыню. Паўночна-ўсходнія берагі возера каля вёскі Пялік зусім мелкія, і прыстаць да берагу нават у нашай лодцы было надзвычайна цяжка. Сярэдняя і заходняя часткі возера значна глыбейшыя. Паводле даных спэцыяльнай камісіі, камандыраванай Кіеўскім Кіраўніцтвам Вадзяного Транспорту па Дняпры і яго прытоках для вывучэньня возера Пялік і ракі Бярозы найболь-

шая глыбіня возера 250 см., а глыбіня Бярозы пры выхадзе яе з Пяліка даходзіць да 600 см. У часе буры возера робіцца страшным і небясьпечным. Нават пры невялікім ветры плытагоншчыкі не адважваюцца гнаць плыты праз возера. Самы ціхі, самы спрыяючы час для пераправы праз возера—гэта ноч, позны вечар і раніца.

Возера Пялік досыць багата рыбай. Тут ловяцца шчупакі да 1 пуда вагой, судакі да 12 фунтаў, ляшчы да 12 ф., самы да 3 пудоў вагой, язі, плоткі, вокуні, ліны, карасі, гусьцёркі і інш.

Рыбацтва на возёры Пялік і наогул у межах заказьніка магчыма толькі па спэцыяльнаму дазволу. Лавіць рыбу на Пяліку невадамі, мярожамі, застаўнымі сеткамі забаронена. Лясная варта Дзяржаўнага Ахоўніка адбірае гэтыя рыбалоўныя прылады. Затое не забараняецца лавіць рыбу трыгубіцай і таптунамі.

Вудачка на Пяліку не карыстаецца аніякай пашанай.

На паўночна-ўсходнім беразе возера стаіць вёска Пялік, яна складаецца з дзьвёх частак: адна частка вёскі стаіць пры самым беразе возера, а другая крыху далей каля лесу. Усяго ў абедзьвюх частках налічваецца 16 хат і каля 120 чалавек насельніцтва. Зямельныя вучасткі сялян вагаюцца ад $1^1/_2$ да 6 дзесяцін на хату, і наогул ральлі вельмі мала. Сеюць сяляне бульбу, ячмень і яравое жыта, але апошняе сеюць ня ўсе.

Часта здараюцца неўраджаі, і земляробства дае мала сродкаў тутэйшаму насельніцтву. Трымаюць коняй і буйную рагатую жывёлу. Ня глядзячы на невялікія зямельныя надзелы і неўраджайную глебу, насельніцтва жыве ня бедна дзякуючы таму, што і ўзімку і ўлетку—заўсёды можна знайсьці добрыя заробкі па рубцы, возцы і сплаву лесу; гэтак сама ўсе пакрыху займаюцца і рыбацтвам, — амаль што ў кожнай хаце знойдуцца трыгубіца і таптуны. Ёсьць у вёсьцы Пялік і два рыбаловы-профэсыяналы—Арцём Драгун і Грышкевіч Лука.

Прадаецца рыба на Пяліку па 10—12 кап. за фунт.

У вёсцы можна знайсьці пакой для начлегу, купіць малака, рыбы; сяляне—людзі гасьцінныя.

*Ад возера Пялік да Барысава.* 30-га чэрвеня раніцай мы вышлі з Пяліка на Бярозу. Было пахмурна, а каля паўдня лінуў дождж, ішоў блізка што праз кожныя паўгадзіны, але рака жыла сваім звычайным жыцьцём. Вось насустрэчу нам ідзе буксір „Вперед“ і цягне за сабой ад Барысава да возера Пялік дзьве лайбы, цягнуцца плыты за вадой да Барысава. Бяроза тут ужо стала настолькі шырокай, што зусім ня трэба клапаціцца аб тым, як разьмінуцца з плытамі. А рыбацкіх чаўноў! Уся рака, пачынаючы ад Пяліка, усеяна рыбацкімі чаўнамі, і гэта ня гледзячы на дрэннае надвор‘е.

А дождж ідзе цэлы дзень. Ад Пяліка да Крычына ўздоўж берагоў Бярозы няма ніводнага хутара, ніводнай вёскі, дзе можна было-б прыстаць і крыху абсушыцца. Яшчэ каля Пяліка мы запыталіся ў аднаго рыбака, колькі вёрст да Крычына? Адказвае: „пятнаццаць“. Плывем тры гадзіны пытаемся: колькі вёрст да Крычына? Зноў адказ: „пятнаццаць“. Зноў плывем тры гадзіны і зноў чуем адказ: пятнаццаць“.

Была палова трэцяй гадзіны калі мы пад праліўным дажджом падплылі да Крычына, але даведаўшыся, што загадчык саўгасу жыве ў Весялове, што там знаходзяцца рабочы клюб і бібліотэка, мы рашылі

ехаць далей, тым больш, што дождж патроху пачаў сьціхаць. Ад Крычына да Весялова вадой дзьве вярсты. У Весялове мы былі гасьцінна прыняты загадчыкам саўгасу т. Межараўбам. У нашым вялікім імбрычку ў хуткім часе быў прыгатавана гарбата, зварылі $^1/_2$ пуда бульбы, прынесьлі сьмятаны, торагу, масла, хлеба.

Калі я запытаўся ў загадчыка саўгасу, колькі мы павінны заплаціць за ўсё гэта, ён катэгорычна адмовіўся ад ўсякай платы.



Мал. № 2. Будынак Весялоўскага комбінату (Крухмальный завод, млын, лесапілка, сукнавалка).

Малюн. вучня 5 кл. Кракасэвіча, К.

Сагрэўшыся, абсохшы і гадзіны дзьве перадыхнуўшы, мы разам з т. Межараўбам пайшлі знаёміцца з савецкай гаспадаркай.

Аб'яднаны саўгас Крычына-Весялова стварыўся з двох панскіх маёнткаў: Весялова, які належаў да абшарніка фон-Панцэра, і Крычына, які належаў да абшарніка Дзюндзевіцкага.

Усяго ў саўгасе 1038,7 га зямлі. Пры гэтым зьвяртае на сябе ўвагу вялікая колькасьць зябалочаных сенажацяй (374,8 га), што тлумачыцца забалочанасьцю берагоў Бярозы, на якіх разьмяшчаецца саўгас.

У саўгасе вядзецца досыць добра пастаўленая зярнёвая гаспадарка, жывёлагадоўля і правільная малочная гаспадарка. Ёсьць 41 конь і трое жарабят — усе палепшанай мясцовай пароды. Кароў—76 племянных дойных ярасклаўскай і сэментальскай парод і 74 галовы маладняку тых-жа парод, 8 племянных быкоў, 14 сьвіней і 23 падсьвінка, усё іоркшырскай пароды.

Сталых рабочых у саўгасе 48 чалавек, сярод іх ёсьць партыйцы і комсамольцы. Падзённых рабочых у розныя поры бывае розны лік, напрыкл., у час выбаркі бульбы наймаецца ў дзень да 300 чал.

Сярод рабочых саўгасу вядзецца вялікая культурная праца. У Весялове ёсьць клюб і бібліотэка, выпісваецца 9 газэт і часопісаў.

Кватэрныя ўмовы рабочых добрыя, усяго пад рабочыя кватэры адведзена 11 дамоў.

Саўгас аказвае вялікую дапамогу мясцоваму насельніцтву ў галіне сельскай гаспадаркі з мэтай падняцьця яе роўню. Для апрацоўкі сялянскіх палёў сялянам выдаюцца бароны, плугі, культыватары, даюцца коні, ачышчаецца насеньне, прадаецца і абменьваецца пасеўная бульба і лепшыя гатункі насеньня. Для палепшаньня мясцоваѓа сялянскага быдла ў саўгасе трымаюцца два быкі — яраслаўскай і сэментальскай пароды, два жарабцы палепшанай мясцовай пароды і адзін крак — іоркшыр. Апрача гэтага прадаюцца беднякам і колгасьнікам на племя цяляты і парасяты.

З тэй-жа самай мэтай падняцьця роўню сялянскай гаспадаркі з 1-га студзеня па 1-ае чэрвеня б. г. прачытана сялянам 10 дакладаў па пасеўнай компаніі і ў сакавіку праведзены двохтыднёвыя сельскагаспадарчыя курсы для саўгаскіх рабочых і вакольнага насельніцтва. Лектарамі на курсах былі слухачы Стара-Барысаўскага с.-гасп. тэхнікуму.

Некалькі гадзін хадзілі мы разам з загадчыкам па саўгасе. Аглядзелі жыта ў полі, любаваліся яго буйным узростам і цяжкімі каласамі, аглядзелі будынкі крухмальнага заводу, паравога млына і лесапілкі — дапаможных прамысловых прадпрыемстваў саўгасу. Крухмальны завод мэханізаваны і перапрацоўвае за сэзон каля 22000 пудоў бульбы (за 1928-29 год).

Было 6 гадзін вечара, калі мы, пры добрым сонечным надвор'і, зложылі свае пажыткі ў лодку і рушыліся ў Студзёнку, паставіўшы сабе мэтай яшчэ сёньня аглядзець гэтую, багатую сваімі гістарычнымі ўспамінамі аб 1812 годзе, вёску.

Ад Весялова Бяроза робіцца вузейшай, берагі яе больш паднятыя і сушэйшыя, бліжэй да Барысава яны часта робяцца ўзгоркаватымі, пазарасталымі хваёвымі лясамі.

Зноў сустракаюцца прыгожыя краявіды, нагадваючыя нам узьбярэжжы Вуллы і Эссы.

На гэты раз нам ня доўга прышлося ісьці на вёслах. Толькі праміналі мы мост, перакінуты праз Бярозу, як пабачылі буксір, які хутка даганяў нас. Мы асьцярожна адплылі ў бок, бліжэй, да берагу, каб хвалі ад парахода не залілі нашай лодкі і астанавіліся. Калі параход параўняўся з намі, нашы экскурсанты пачалі прасіць каманду парахода ўзяць лодку на буксір. Капітан згадзіўся і прапанаваў усім нам перайсьці на параход, а нашу лодку аддаў загад узяць на буксір.

Хутка пранесьліся перад нашымі вачыма Студзёнка, Стахава, Стары-Барысаў. Каманда параходу давала тлумачэньні аб гістарычных успамінах, якія зьвязаны з тым ці іншым месцам.

## Сплаў лесу па Бярозе.

Такім чынам, мы ў адны суткі прайшлі ад каналу да Барысава і пазнаёміліся з надзвычайна цікавым жыцьцём Бярозы і працай чалавека, зьвязанай з гэтай карміцелькай-ракой.

Ад самай раніцы да познай ночы адзін за адным ідуць плыты. Плыты зьвязваюцца з паасобных глейн. Першая глейна завецца галавой плыта, на другой глейне звычайна робіцца горан. Спачатку насьцілаюцца ў адзін рад тоўстыя брусы, на іх кладзецца дзёран, а зьверху ўжо раскладаецца агонь; на трэцяй глейне — знаходзіцца будка, зробленая з саломы або сена, каб яна не працякала ў выпадку дажджу, яе часта зьверху яшчэ пакрываюць карой. На пабудову будкі плытагоншчыкам адпускаецца $1^1/_2$ рублі, а для горна даюцца дровы. Некалькі

глейн зьвязваюцца ў адну лаву. Ёсьць лавы ў 26 глейн, у 19 глейн і г. д. Тоўстыя бярвеньні ад 7—15 вяршкоў вяжуцца ў адзін рад, бярвеньні ў 4, 5, 6 вяршкоў таўшчынёй вяжуцца ў два рады, бярвеньні ў $1^1/_2$, 2, 3 вяршкі вяжуцца ў тры рады, у залежнасьці ад гэтага і глейны (а так сама і плыты) завуцца аднарадкамі, двохрадкамі, трохрадкамі. Лаву ў 19 глейн гоняць два чалавекі, а ў 26 глейн — чатыры плытагоншчыкі.



Мал. № 3. Шлюз на Бярэзінскім канале.

Малюн. Класінскага В.

Дровы сплаўляюцца лайбамі; адна лайба бярэ 11-12 куб. саж. дроў. Будаўнічы лес і падтаварнік ідзе сплавам.

Заробак плытагоншчыкаў вагаецца ад 2 да 4 руб. у дзень і ў значнай меры залежыць ад стыхійных умоў, напрыклад ад напрамку ветру. Бывае, што плытагоншчыкі па некалькі дзён стаяць пры ўваходзе ў возера Пялік, чакаючы добрага надвор'я.

Каля Барысава мы сустрэлі арцель плытагоншчыкаў з 7 чалавек, якія гналі кардон ад возера Пяліка да Барысава. За сплаў 60 куб. сажняў кардону яны атрымалі 300 р. на 7 чалавек, пры гэтым на вязку глейн і лаў пайшло $1^1/_2$ тыдні і на сплаў ад Пяліка да Барысава $1^1/_2$ тыдні, што дае ў сярэднім па 2 рублі ў дзень на 1 чалавека на сваіх уласных харчох.

Праца вельмі цяжкая і напружаная—увесь час на вадзе, цэлы дзень без яды, часамі і пад дажджом. Увечары плыты спыняюцца на ноч, распальваецца касьцёр, і ўсе зьбіраюцца наўкола горна, каля чыгунка з кашай. Харч просты. На $1^1/_2$ тыдні ўжо знаёмыя нам плытагоншчыкі бралі 1 булку хлеба фунтаў 18, 5 фунтаў крупы, 1 пуд бульбы, 5 ф. сала—на 1 чалавека і вядро кіслага малака на двох. Так складаецца поэтычнае з надворнага выгляду жыцьцё плытагоншчыка. На працягу

ўсяго цячэньня Бярозы ад каналу да Барысава ня спыняецца самы ажыўлены сплаў лесу.

Адзін за адным цягнуцца румы: Копцы, Чарнавіраўка, Мрайскі рум, Абескія Пожні, рум на беразе Пяліка, рум на Лісьсім возеры, жоўтыя пяскі, Студзёнка і іншыя. Тут ідзе вязка плытоў, нагрузка дроў на лайбы, сплаў лесу.

Каб даць магчымасьць уявіць сабе працу румаў, я прывяду тут некалькі лічбаў аб працы руму на возеры Пялік за 1927-28 год.

За навігацыйны пэрыод адпраўлена з гэтага руму:

| | |
|---|---|
| Будаўнічага лесу хвойных парод . . | 15136 штук. |
| „ „ лісьцьв. парод . . | 2169 штук. |
| Бачкаркі (вольхі і бярозы) . . . | 15,55 куб. саж. |
| Стойкі для шахт . . . . . . | 88 куб. саж. |
| Кардону пілаванага . . . . | 47 куб. сант. |
| Дроў мяшаных . . . . . . | 888 куб. саж. |

Рум на Пяліку абслугоўваецца пэрсоналам у складзе 1 старшага дзесятніка, 1 младшага дзесятніка і 2-х вартаўнікоў. Пасьля сканчэньня опэрацый на службе застаецца толькі адзін вартаўнік.

Але зьвернемся зноў да нашага падарожжа. Ужо на зямлю разыходзіцца цемра, калі мы на буксіры падышлі да Барысава. Няпрыкметна для саміх сябе мы прайшлі праз тры Барысаўскія масты і апынуліся каля прыстані.

Падзякаваўшы каманду парахода, мы забралі свае рэчы і пайшлі шукаць прытулку ў 8 працоўнай школе ў Нова-Барысаве, а нашу лодку пакінулі да раніцы пад ахову буксіра.

* * *

Ацэньваючы вынікі праведзенай экскурсіі, трэба адзначыць яе дадатныя і адмоўныя бакі.

Пры організацыі экскурсіі ўдзельнікам яе прышлося патраціць шмат часу на наладжэньне сувязі з цэлым шэрагам устаноў як у Менску, так і па акругах. Гэтыя зносіны аднялі шмат часу, але ўсё-ж такі бюро краязнаўчага гуртка зрабіла ня ўсё, што было патрэбна зрабіць у гэтым напрамку. Так, напрыклад, экскурсія не зьвязалася сваечасова з кіраўніцтвам работ на Асінбудзе, са школамі ў Воршы і Дуброўне, што потым часткова ставіла часовыя перашкоды пры правядзеньні экскурсіі. Тут трэба асабліва падкрэсьліць, што кіраўніцтва Асінбуду прасіла абавязкова рабіць папярэднія паведамленьні аб экскурсіях, якія накіроўваюцца на Асінбуд.

З другога боку трэба адзначыць і такія перашкоды, якія не залежалі ад бюро краязнаўчага гуртка.

Экскурсія атрымала 9 літароў на права праезду па чыгунцы ад Менску да Лепеля са скідкай у 50%. Але калі мы з гэтымі літарамі накіраваліся на Менскую Гарадзкую станцыю па білеты і сказалі, што мы павінны будзем зрабіць на вузлавой станцыі ў Воршы астаноўку прыблізна на 3 дні, то нам адказалі, што білеты, выдадзеныя па экскурсійных літарах, маюць годнасьць на працягу таго-ж самага тэрміну, як і звычайныя пасажырскія білеты, і затым доўгіх астановак рабіць нельга, бо білеты страцяць сваю вартасьць. Гэткія абставіны прымусілі экскурсію застацца ў Менску на адзін лішні дзень, перапісаць літары замест Лепеля на Воршу, а ад Воршы да Лепеля ехаць бяз усякай скідкі.

Трэба існуючы парадак карыстаньня літарамі пераглядзець, бо пры немагчымасьці рабіць астаноўкі ў дарозе на больш-менш значны тэрмін, гэтыя літары будуць больш карысны асобам і групам, якія едуць куды-небудзь на адпачынак ці па сваіх уласных справах, чым краязнаўчым організацыям, якія адпраўляюцца ў падарожжа з мэтамі вывучэньня краіны.

Дзякуючы вышэйпаказаным умовам, наша экскурсія атрымала па літарах 50% скідку толькі на перагонах ад Менску да Воршы і, пры звароце ў Менск, на перагоне ад Барысава да Менску, а ўсе іншыя паездкі па чыгунцы трэба было аплачваць на ўсе 100%.

Што дала экскурсія яе ўдзельнікам?

На працягу 17 дзён вучні на кожным кроку бачылі вялікі размах соцыялістычнага будаўніцтва ў БССР. На „Дняпроўскай Мануфактуры“ ў Дуброўне ідзе энэргічнае пераабсталяваньне фабрыкі машынамі навейшай конструкцыі. З 309 ткацкіх станкоў фабрыкі мы бачым ужо 114 станкоў-аўтоматаў сыстэмы „Нортроп“, якія ўстанаўліваліся на фабрыцы на нашых-жа вачох.

З Воршы мы прыяжджаем на Асінаўскія балоты і тут на абшарах у 17 кілёмэтраў даўжынёю вядуцца напружаныя работы па пабудове волата нашай прамысловасьці — Асінбуду, які зьменіць увесь твар паўночна-ўсходняй часткі БССР.

Плывем па Бярозе і ў саўгасе Весялова-Крычына мы бачым мерапрыемствы Савецкай улады на шляху індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі краіны—цэлы шэраг прадпрыемстваў па тэхнічнай перапрацоўцы с.-гаспадарчай продукцыі: тут і млын, і крухмальны завод, і лесапілка, і сукнавалка, і маслабойка і інш.

Перад нашымі вачыма разгортваецца шырокае соцыялістычнае спаборніцтва паміж паасобнымі прадпрыемствамі. Якраз у часы нашага прабываньн на Чашніцкай фабрыцы адбывалася пасяджэньне партколектыву фабрыкі Чырвоная Зорка, на якім удзельнічалі і прадстаўнікі Нова-Барысаўскай папяровай фабрыкі Профінтэрн і на якім у нашай прысутнасьці ішло абгаварэньне дагавору аб соцыялістычным спаборніцтве паміж гэтымі фабрыкамі.

Калі дадаць да гэтага цудоўныя краявіды ўздоўж узьбярэжжаў Вуллы, Эссы, шэраг вялізарных вазёр, часамі нізкія і забалочаныя, часамі высокія і стромкія, пазарастаўшыя лясамі, узьбярэжжы Бярозы і тое вялікае ажыўленьне і рух, якія адбываюцца па ёй,—калі ўспомніць усё гэта, то мы павінны будзем прызнаць, што экскурсія дала яе ўдзельнікам вельмі многа.

Але гэта экскурсія ня была гульня ці адпачынак, гэта была праца і прытым праца напружаная. Праз увесь час ідзе шчырае і добрасумленнае вывучэньне экскурсантамі розных об‘ектаў, падлягаўшых нашаму азнаямленьню, і фіксацыя здабытых ведаў у выглядзе пісьмовых дакладаў і малюнкаў і гэтая праца вядзецца бязупынна: і ў часы спынак нашых ў школах, і на начлезе на падлозе ў сялянскай хаце, і на борце лодкі, як пры добрым надвор‘і, так і пад дажджом.

А колькі працы трэба было пакласьці на змаганьне з фізычнымі перашкодамі! Экскурсанты прайшлі ня менш 50 км пехатой, на працягу 8 дзён плылі ў лодцы, зрабіўшы каля 200 км вадой, прычым па некалькі гадзін адразу, часта пад праліўным дажджом, ім прыходзілася змагацца з мялізнамі на Вулле і Эссэ, праходзіць сваімі ўласнымі сіламі паміж плытоў, загарадзіўшых дарогу.

Змаганьне і перамога над усімі гэтымі перашкодамі—усё гэта загартоўвала характары, выхоўвала волю, прывівала колектывістычныя звычкі ўдзельнікам экскурсіі.

Ці выканала праведзеная экскурсія пастаўленыя перад ёю задачы, і, калі выканала, то наколькі,—гэта відней чытачу, але ўдзельнікі экскурсіі ведаюць адно: што і цэлыя гады абывацельскага, мяшчанскага жыцьця не дадуць таго, што дала нам гэтая 17-дзённая экскурсія, ня гледзачы на ўсе недахопы ў яе організацыі.

Вось чаму маладыя краязнаўцы сьмела заклікаюць усіх на гэты багаты сваім зьместам і перажываньнямі шлях, па якім яны ідуць самі.

---

**Мікалай Войтко.**

# Блакітныя далі.

## САЎГАС КОСІНА (ЛАГОЙСКІ РАЁН).

### Край наш — жытні.

Край, значыць, наш узгаркаваты, блакітны, жытні... Ледавік папрацаваў у гэтым краі: нанёс каменьняў, утварыў лагі і ўзгоркі. Цяжка падымацца з возам на ўзгоркі, трэба нукаць на коняй: „косі, но-о-о! Чаго сталі?! А, ну яшчэ разок! Гоп-ля!..“—гукалі людзі. Адсюль і пайшла назва для гэтай мясцовасьці „Косіна“, паводле тлумачэньня дзядоў.

Характэрныя назвы ў нас.

Узгоркаў тут шмат. Ня глыбока ў зямлі знаходзіцца гліна добрай якасьці — таму сяляне саматужным чынам робяць шмат неапаленай цэглы, якая распрадаецца сярод сялян аколічных вёсак.

На гэтых вось узгорках сярод балот і палёў шырока і прыгожа раскінулася савецкая гаспадарка Косіна.

Недалёка ў балоце маленькая рачулка хутка коціць свае сьветлачыстыя воды ў цёмную Усяжу. Гэта мясцовасьць уваходзіць у склад Лагойскага раёну, Падонкаўскага с/с., што на Меншчыне.

Глеба — суглінак — добрая глеба. І таму гэты край — бульбяны, жытні! Ападкаў тут выпадае дастаткова, каля 640 мм.; тэмпэратура дазваляе добра расьці бульбе, жыту, ячменю і інш. культурам (у ліпні гарачыня даходзіць да +28°С; зімой маразы да —27°С).

Балоты тарфяныя, парослыя хмызьняком, сасонкамі, бярозамічачоткамі, альшэўнікам. Водзяцца ў гэтых балотах ваўкі, на якіх кожнае лета робяць аблавы. Не зьвяліся і дзікія козы,—ня рэдка можна сустрэць казюлю ў Мыльніцкім балоце, ды на „вастравах“ (на Чыстым). Ня так даўно тут былі і мядзьведзі, што хадзілі па лясох і балотах. Цяпер іх няма, толькі апавяданьні лясьнікоў ды паляўнічых напамінаюць краязнаўцу аб „Мішку“, якога абмануў чалавек, даўшы мядзьведзю пшанічныя карэнчыкі і вяршкі рэпы. Няма мядзьведзя; схаваўся недзе на Дальнія лугі і лось-барадач. З птушак у балоце саўгасу ёсьць цяцеры, кнігаўкі, філіны, совы і інш.

Па жытнім полі раскіданы курганы. Іх шмат каля саўгасу, каля в. в. Косіна, Мачужычы, каля Юзэпофа. Адна вёска Курганом празываецца.

Каля Юзэфова („Юзэпова“) і курган знаходзяцца яскравыя рэшткі вялікай крэпасьці ў выглядзе літары П. Калі правесьці роўную лінію ад гэтай крэпасьці ў кірунку на поўдзень праз балота, дык праз 5 кілёмэтраў мы напаткаем рэшткі другой вялікай крэпасьці. Гэтую другую крэпасьць людзі называюць „Замкі, што за Млынком“.

Спытайце ў селяніна, што гэта за насыпы, ён адкажа: „крэпасьць ад швядоў“.

Цяпер курганы — сьведкі будаўніцтва соцыялізму.

Перад рэволюцыяй гэтым краем уладаў пан Пётра Вільгельм Шмідт. Сяляне называлі яго „Чмыт“. Належалі яму маёнтак Косіна, Юзэпова ды яшчэ ўрочышча Кладкі, дзе жыў яго швагра Петрога.

Па суседзтву з Шмідтам была зямля аднаго з Гогэнлоэ, якую ў апошні час (да 1917 г.) трымаў генэрал Бэкман. І цяпер яшчэ не зарасла трэль-граніца, якая разьдзяляла зямлю гэтых паноў.

Зямля пана Шмідта клінамі ўразалася ў сумежную з ёю сялянскую, лес моцнай сьцяной абступаў сялянскае поле. Сялянскую беднасьць вабіў да сябе лес і, уміраючы ад страху, селянін ехаў „красьці“ бярэзіну на дровы, сасонку на хлеўчык. Гора, ды якое яшчэ гора, калі аб‘езчык, або лясьнік пана Шмідта зловіць яго: прыб‘е да паўсьмерці, ды яшчэ завядзе да пана ў двор, а той:

— Как смел воровать мой лес, ско-о-ти-на-а?!

— Паночак, даражэнькі, залаценькі, такое ўжо наша жыцьцё паганскае!.. — стоячы на каленах плакаў селянін-бядак.

Але хто мог упрасіць крывапіўца-павука Шмідта? Прышоў 1917 г. Полымем рэволюцыі загарэўся і гэты цёмны куток. Пан Шмідт уцёк. Сяляне бралі ўсё тое, што было вымыта іхнім потам. Бралі брычкі, сячкарні, плугі, вазкі і інш. Думалі дзяліць панскую зямлю, але насуналася чорная хмара кайзараўскіх войск.

Пачаліся суды, турмы.

Пан Шмідт разам з немцамі пачалі адбіраць коняй у сялян в. Мглё, Косіна для нямецкай арміі.

Прайшоў час окупацый, засталіся горкія ўспаміны аб іх. Там дзе працавалі парабкі на пана Шмідта, — цяпер бурліць новае жыцьцё!..

З двара саўгасу на некалькі кілёмэтраў навакол бачыш аксамітназялёныя балоты, лугі, лясы, што прарываюцца жаўтавата-залацістымі абрусамі палёў жыта, ячменю...

Па-над імі блакітны туман. Іскрацца блакітныя савецкія далі!..

## Гаспадарка.

Саўгас Косіна пачаў сваё жыцьцё ў 1921 годзе. Дні разбурэньня, пасьляваеннай галадоўкі — былі днямі нараджэньня і далейшага жыцьця саўгасу. Першыя крокі саўгасу вельмі слабыя: ён меў толькі пару „кляч“ і некалькі захудалых кароў. Але вялікая дапамога Савецкай улады, а таксама праца, затрачаная на ўзмацненьне саўгасу, зрабілі сваё.

Цяпер саўгас займае тэрыторыю ў *761,55* дзесяцін, з якой *208,24* дзесяціны прыпадае на ворную зямлю, *267,07* — дзесяцін балота, *254,21* дзесяціны незаліўнога лугу, рэшта прыпадае на сялібу, сад і іншае.

Колькасьць жывёлы ў параўнаньні з 1921 годам павялічылася ў 15 разоў. Яшчэ ў 1928 г. саўгас меў 26 рабочых коняй і 19 дойных кароў. У 1929 годзе саўгас меў 30 працоўных коняй, і 23 дойных кароў, тры быкі - вытворцы.

У 1924 годзе ў саўгасе быў уведзены 9-ці польны севазварот з двума палямі канюшыны, бульбы і жыта ў некаторых гадох, што відаць з наступнай табліцы севазвароту на 1927-35 г. г.:

| Гады | Зьмены ў севазвароце 1927-1935 г. г. | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII | IX |
| 1927 | Канюш. | Жыта | Жыта | Канюш. | Чорны пар | Яр.+ канюш. | Авёс | Бульба | Бульба |
| 1928 | „ | Бульба | Бульба | Жыта | Жыта | Канюш. | Папар | Авёс | Яр.+ канюш. |
| 1929 | Жыта | Авёс | Яр.+ канюш. | Бульба | Бульба | Канюш. | Жыта | Папар | Канюш. |
| 1930 | Бульба | Папар | Канюш. | Авёс | Яр.+ канюш. | Жыта | Бульба | Жыта | Канюш. |
| 1931 | Авёс | Жыта | Канюш. | Чорны папар | Канюш. | Бульба | Яр.+ канюш. | Бульба | Жыта |
| 1932 | Папар | Бульба | Жыта | Жыта | Канюш. | Авёс | Канюш. | Яр.+ канюш. | Бульба |
| 1933 | Жыта | Яр.+ канюш. | Бульба | Бульба | Жыта | Папар | Канюш. | Канюш. | Авёс |
| 1934 | Бульба | Канюш. | Авёс | Яр.+ канюш. | Бульба | Жыта | Жыта | Канюш. | Папар |
| 1935 | Яр.+ канюш. | Папар | Канюш. | Авёс | Бульба | Бульба | Жыта | Жыта | Жыта |

Будынкаў саўгас мае 37 карпусоў, з якіх жылых 9 штук, а 28—нежылых, уключаючы сюды розныя стрэшкі і іншыя дробныя будынкі.

Агулам будынкі саўгасу каштуюць 15536 руб. 80 кап. Некаторыя з будынкаў старыя патрабуюць капітальнага рамонту; некаторыя закончаны рамонтам. Трэба зазначыць, што саўгас поўнасьцю будынкамі не забясьпечаны—адчуваецца недахоп.

Мёртвага інвэнтару саўгас мае даволі. Так, на сёнешні дзень ёсьць: плугоў адналямешных 12 штук, двохлямешных—7 (год назад іх было 5 шт.); бароны: дыскавыя—1, лугавыя—2, барон „Зіг-Заг"—18, пружынных—5 (у 1927 г. саўгас меў у 2 разы меней барон, як цяпер). Ёсьць культыватар, 8 акучнікаў, 2 раскідальныя і 1 канюшынная сеялкі; тры касілкі, жняярка-самавязка і 2 жняяркі-самаскідкі, паравая малатарня (складаная з лёкомобілем у 8 м. конскіх сіл, які каштуе 2500 рублёў. Ёсьць трыер, сячкарня, арфа. Агульны кошт вышэйпералічаных прылад раўняецца 5202 руб. 44 кап. Акрамя гэтых машын саўгас мае шмат прылад для маслабойні, як сапаратар ды інш.

У час палявых або лугавых работ машыны маюць нагрузку на ўсе 100%.

Як ужо было зазначана вышэй, глеба ў саўгасе Косіна досыць добрая, так званы, суглінак, калі дадаць сюды выстарчальную колькасьць вільготнасьці, добрую апрацоўку зямлі, што ўжываецца ў гаспадарцы, угнаеньне глебы, дык і ўраджайнасьць культур павінна быць досыць высокаю.

Так яно і ёсьць, за выключэньнем некаторых культур у 1926 годзе.

Ураджайнасьць жыта ў 1926 г., якога было засеяна 59 гэктараў была малая—усяго 45-50 пудоў з 1 гэк., ячменем у тым-жа годзе было засеяна 10,93 га, з ураджайнасьцю 80—85 пуд. з га; аўсом

было засеяна 34,96 га плошчы; ураджайнасьць 35—40 пудоў з гэктара. Канюшына разам з цімафееўкай займала плошчу ў 14,17 га з ураджайнасьцю 200 пудоў корму з гэктара. Бульба 52,32 га пасеву з ураджайнасьцю 600 пудоў з га. З кожным годам павялічваецца плошча пасеву за кошт зьнішчэньня няўдобіцы і частковай мэліорацыі балот. Так у 1626 годзе было ўсяго засеяна 170 гэктараў, а у 1927 г.—177 гэктараў.

Разам з пасевам павялічылася і ўраджайнасьць культур, што відаць з наступнай табліцы:

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| жыта | было засеяна | 48 | гэктараў, | ураджайн. | 85—90 | пуд. |
| аўсу | „ | 34,96 | „ | „ | 50—55 | „ |
| ячменю | „ | 10,93 | „ | „ | 50 | „ |
| бульбы | „ | 59 | „ | „ | 750 | „ |
| канюш. | „ | 24 | „ | „ | 220—250 | „ |

У 1928 г. пасевы былі наступныя: жыта—59 га, аўсу—38,59 га, ячменю — 8,74 га бульбы—52,44 га канюшыны з цімафееўкай — 42,61 гэктараў.

Ураджайнасьць 1928 году мала чым адрозьніваецца ад ураджайнасьці 1927 году.

Агулам пад пасевамі 1928 г. занята было 200 гэктараў, значыць, амаль уся ворная зямля. Таксама павялічваецца плошча пасеву пад тэхнічныя культуры, якія ў саўгасе маюць вялікае значэньне.

У 1926 годзе—14 гэктараў; 1927 г.—24 га; 1928 г.—42,61 га. Сабекошт продукцыі таксама паступова зьніжаецца; у 1927 годзе ён быў наступны: 1 тона жыта (61 пуд)—сабе каштавала 59 руб. 61 кап.; аўсу—55 р. 7 к.; бульбы—14 р. 51 к.

### Прадпрыемствы і тэхнічныя спосабы апрацоўкі зямлі.

Глеба і кліматычныя ўмовы саўгасу Косіна і аколічных вёсак дазваляюць шмат развадзіць бульбы. Бульба добра родзіць—каля 750 пудоў з гэктару. Каб больш рацыянальна скарыстаць бульбу, каб ана дала больш прыбытку для гаспадаркі—з яе гоняць сьпірытус. Яшчэ даўней, калі гэтай зямлёй уладаў П. Шмідт, тут, у Косіне, быў пабудаваны бровар, які з бульбы і з прывазной кукурузы вырабляў сьпірытус. Гэты промысел даваў вялікі прыбытак пану. У час адступленьня і заняцьця гэтай мясцовасьці нямецкім войскам,—машыны і наогул абсталяваньне заводу часткаю было вывезена, а часткаю разбурана. Пасуда з сьпірытусам была ўшчэнт разьбіта і хваля сьпірытусу па канаве ўлілася ў рачулку. Людзі вёдрамі выбіралі яго з рэчкі. Пілі, буянілі і ўміралі з перапою.

Некалькі год бровар зусім не працаваў. Толькі 28 студзеня 1928 году бровар быў пушчаны і пачаў стала працаваць. За першае паўгодзьдзе 1928 году завод выгнаў 685404 градусаў сьпірытусу, на што затрачана было 4961,68 цэнтнераў бульбы і 6661,17 цэнтнераў кукурузы. Летам завод не працуе, бо няма запасу бульбы і кукурузы.

Да кастрычніка 1927 г. саўгас меў вялікі вадзяны млын „Галынка“ на рацэ Усяжы. Гэты млын у 1926 г. даў 5 тысяч рублёў прыбытку. Цяпер гэты млын належыць Смалявіцкаму РВК і хутка пяройдзе ў колгас Праца (в. Мглё).

Тыповым угнаеньнем у саўгасе зьяўляецца гной. У апошнія гады пачалі засяваць лубін, якога ў 28 годзе было 21,8 гэктараў. Акрамя

гэтага высеяна пад жыта пасеву 1928 году 450 пудоў фасфарыту, што заняло плошчу на 21,08 гэктараў.

Большасьць культур, якімі карыстаецца саўгас, чыста гатунковыя. Так, жыта — шацкага сорту, бульба — „вольтман“. Усяго пад чыста-гатунковым насеньнем у 1628 г. занята 170 гэктараў. Каб апрацаваць 1 гэктар пасеву затрачваецца 6,5 конскіх і 9 чалавечых працоўных дзён.

## Культурная праца.

Шырока разгорнута культурна-асьветная праца ў саўгасе. Усе 30 чалавек рабочых саўгасу пісьменныя. Выпісваецца шмат газэт і часопісаў. Сярод працаўнікоў саўгасу ёсьць 6 сяброў ЛКСМБ і 4 сябры КП(б)Б. Драмгурток часта ставіць спэктаклі, як у сваім клюбе, так і па ваколіцы. У сваю чаргу драмгурткі ваколічных вёсак наведваюць саўгас (напр., драмгурток в. Мглё).

Дапамога сялянству вялікая. Яшчэ вясною 1927 году саўгас пазычаў сялянству (беднаце) 2600 пудоў бульбы; праз трыер дармова было прапушчана 600 пудоў сялянскага збожжа. У 1928 г. беднаце праз крэдытныя таварыствы адпушчана было 98 цэнтнераў аўсу і ячменю. Сялянства (бедната і серадністы) 15 дзён карысталіся плугамі; узорана дармова 5 гэктараў сялянскай зямлі. Саўгаская кузьня для сялян працуе напалову таней рынкавай цаны.

У наш час — час вялікага пералому на вёсцы, калі вёска ўжо зрабіла першыя крокі ў соцыялізм, — саўгас Косіна дапамагае гэтаму. Па яго ініцыятыве і пад яго кіраўніцтвам у в. Замасточча і суседніх з ёю ўтвараюцца колгасы. Ударная група саўгасу працуе ў гэтых паселішчах. Саўгас карыстаецца сярод сялянства вялікай пашанай, а як вынік гэтага — запазычваньне культурных спосабаў гаспадараньня, што відаць з карыстаньня гатунковым насеньнем, павялічэньня плошчы пад тэхнічнымі культурамі, якіх тры-чатыры гады таму назад зусім ня было ў в. в. Косіна, Мачужычы, Замасточча і інш., з ужываньня лубіну, як угнаеньня. Замена старасьвецкіх сох для абворваньня бульбы акучнікамі-плужкамі ў ваколічных вёсках — уплыў саўгасу.

Адсюль і ўраджайнасьць культур ў вёсках Косіна, Мачужычы, Замасточча, Падонкі павялічылася: для жыта ад 40 пудоў да 70 п. з гэктара, бульбы з 350 пудоў да 600—700 пудоў і інш.

## Агульныя заўвагі.

За культурнае землекарыстаньне саўгас атрымаў пачэсны дыплём на сельска-гаспадарчай выстаўцы ў м-ку Лагойск у 1925 г. У м-ку Лагойск знаходзіцца агранамічны вучастак, адкуль агроном наведвае саўгас. У гэтае-ж мястэчка, якое дзесяць кілёмэтраў ад Косіна, саўгас збывае свае продукты. У 1926 годзе саўгас даў 5 тысяч рублёў прыбытку. У цяперашнім годзе і ў будучых прыбытак ад саўгасу значна ўзрасьце. Гэтаму спрыяць будзе бровар.

Што тычыцца далейшага, дык трэба сказаць, што гаспадарка з кожным годам разгортваецца, багацее, узмацняецца — гэтаму садзейнічаюць культурна-тэхнічныя спосабы, уведзеныя ў гаспадарцы, а таксама прыбыткі ад заводу.

Разам з гэтым стаіць на чарзе вялікая праца — паляпшэньне сенажаці, мэліорацыя балота, аднаўленьне саду, які цяпер знаходзіцца ў запушчэньні; знаходжаньне і ўвядзеньне новых культурных спосабаў

гаспадаркі, выходзячы з мясцовых умоў; скарыстаньне прыродных багацьцяў, як гліна, дзеля чаго трэба будаваць завод для вырабу цэглы з мэханізацыяй працы.

Аднэй з галоўных задач для саўгасу ў наш вялікі пераломны пэрыод гэта — агітацыя, уцягненьне сялян у колгаснае будаўніцтва, організацыя вялікіх колектываў у суседніх вёсках.

Усё гэта будзе ў вядомай меры спрыяць падвышэньню ўраджайнасьці і набліжаць той час, калі ўраджайнасьць нашых асноўных зернавых культур будзе гэткай, як ураджайнасьць іх у нямецкіх і дацкіх гаспадарках.

І тады закрасуем на савецкіх блакітных далях!..

---

# ХРОНІКА.

## Трэцяя Ўсебеларуская краязнаўчая конфэрэнцыя.

(25-26 студзеня 1930 г.)

Ад імя Прэзыдыуму БАН і Прэзыдыуму ЦБК віцэпрэзыдэнт БАН т. Бялуга абвяшчае пленум адчыненым.

*Бялуга.* Чарговы пленум ЦБК і краязнаўчая конфэрэнцыя-курсы зьбіраюцца ў момант, калі перад Партыяй і Савецкай уладай стаяць вялікія і складаныя задачы перабудовы на соцыялістычны лад нашай краіны перабудовы ўсяе нашае прамысловасьці, сельскае гаспадаркі, культуры. Усё гэта ўскладняе задачы навукова-дасьледчае працы БССР. І нашы навукова-дасьледчыя інстытуцыі перабудоўваюць свае пляны працы ў напрамку дапамогі соцыялістычнаму будаўніцтву. Гэта датычыцца як Акадэміі, гэтак і Навукова-Дасьледчага Інстытуту імя Леніна і Інстытуту Прамысловасьці. Вялікія, складаныя задачы стаяць і ў напрамку перабудовы краязнаўчай працы ў БССР, бо гэта праца ёсьць першая ступень навукова-дасьледчай працы наогул. Напрамак навукова-дасьледчай працы, які быў раней, нас ня можа задаволіць. І нам трэба зьмяніць як напрамак, так і тэмпы навукова-дасьледчай працы. Гэта не азначае, што мы павінны пакінуць вывучаць об'екты, якія раней дасьледваліся. Мы павінны толькі адсунуць назад тэрміны іх вывучэньня. Мы павінны памятаць, што наша вёска шпарка перабудоўваецца, шпарка ідзе ў напрамку колектывізацыі. Між тым наша навукова-дасьледчая праца пачынае адставаць ад тэмпаў перабудовы на соцыялістычны лад. Гэтага не павінна быць, бо наша навукова-пасьледчая праца сваім вынікам павінна мець перабудову нашай вёскі на соцыялістычны лад. Навука не павінна адставаць ад жыцьця. Гэта справядліва і адносна нашых краязнаўчых організацый. Яны павінны быць штурхачамі, ячэйкамі, дзе навукова-дасьледчая праца непасрэдна дапамагае соцыялістычнаму будаўніцтву. Каб разьвіцьцё нашай краязнаўзай працы адпавядала тэмпам нашага соцыялістычнага будаўніцтва, неабходна выканаць асноўную задачу уцягнуць у краязнаўчую працу новыя кадры, уцягнуць рабочых, сялян, усіх тых працаўнікоў, якія маюць вялікую практыку ў соцыялістычным будаўніцтве. Вырашаючы гэтую задачу, нашы краязнаўчыя організацыі павінны заўсёды трымаць сувязь з навукова-дасьледчымі ўстановамі. Матар'ялы, якія будуць зьбірацца краязнаўчымі організацыямі, у пэўнай сваёй частцы будуць дапамагаць пашырэньню працы навукова-дасьледчых інстытуцый. Нашы навуковыя ўстановы ня могуць адрывацца ад краязнаўчых організацый. На 3 Усебеларускай Краязнаўчай Конфэрэнцыі мы даб'емся пералому ў нашай краязнаўчай працы і будзем здольны выканаць задачы, якія ставяцца перад намі Компартыяй і Савецкай уладай.

Т. Бялуга прапануе для вядзеньня пленуму абраць прэзыдыум, сакратарыят і павестку пленуму.

Прэзыдыум абіраецца ў складзе 9 асоб: Бялуга, Пятровіч, Казак (БАН), Гарэцкі (НДІ), Карпаў (Гарадзец, Агрокомбінат), Каршук (Гомель), Гранкоўскі (Полацак), Калодкін (Магілеў), Бэркінд (Орша).

Сакратарыят у складзе 3 асоб: Крукоўскі (Мазыр), Шашалевіч (ЦБК) і Варпаховіч (Віцебск).

**Парадак дня III Усебеларускай Краязнаўчай Конфэрэнцыі (Пленум ЦБК).**

1. Навукова-дасьледчая праца ў пяцігодцы. Акад. Пятровіч.
2. Справаздача ЦБК і чарговыя задачы краязнаўства. т. Казак.
3. Аб І Усебеларускай Выстаўцы сельскай гаспадаркі і прамысловасьці. Прадстаўнік Галоўвыстаўкому т. Таўкач.
4. Рознае.

### І. Навукова-дасьледчая праца ў пяцігодцы.

*Даклад акад. Пятровіча.*

Організацыя навукова-дасьледчай працы набывае цяпер вялікую актуальнасьць. Яна зьвязана з тым, што ўжо другі год мы вядзем рэконструкцыю народнай гаспадаркі. Рэконструкцыя азначае паглыбленьне барацьбы за соцыялізм, ліквідацыю капіталістычных элемэнтаў у нашай краіне, тэхнічна-экономічную перабудову народнай гаспадаркі, якая

да рэволюцыйнага часу была на вельмі нізкім роўні. Гэтая агульная прынцыповая ўстаноўка патрабуе вялікіх тэмпаў, бо ў выніку рэконструкцыі мы павінны дагнаць і перагнаць капіталістычныя краіны, вымагае вялікага напружаньня ў навукова-дасьледчай працы. Стан нашай навукова - дасьледчай працы ня зусім здавальняючы. Наш асноўны недахоп у тым, што няма адпаведнасьці між культурным фронтам і навукова-дасьледчай працай. Між тым перад намі ў бліжэйшыя гады стаяць вельмі вялікія актуальныя задачы. Выкананьне 5-гадовага пляну патрабуе мобілізацыі ўсіх сродкаў навукі. Каб доўга ня спыняцца на 5-гадовым пляне, бо ён больш-меньш нам вядомы, я закрану толькі асноўныя задачы пяцігодкі: першая і асноўная задача—правесьці соцыялістычную рэконструкцыю гаспадаркі праз індустрыялізацыю краіны і ўздым сельскай гаспадаркі, якая да гэтага часу адставала ад прамысловасьці, праз больш поўнае разьвіцьцё коопэрацыі і колектывізацыю, якая на працягу 2-х год будзе амаль закончана. Другая задача—павялічэньне пролетарскага ядра ў вытворчасьці і кіруючая роля пролетарыяту ў с. гаспадарцы. Трэцяя задача—павялічэньне матар'яльнага роўню працоўных мас. Чацьвертая—разьвіцьцё соцыялістычных элемэнтаў у нашым быце, узмацненьне абароназдольнасьці краіны. Пятая — няўхільнае правядзеньне клясавай лініі на вёсцы, узмацненьне саюзу з серадняком, бязьлітасная барацьба з кулаком, поўнае зьнішчэньне кулацтва, як клясы. Апошняя задача—ажыцьцяўленьне культурнай рэволюцыі ў нашай краіне.

Як мы выконваем гэтыя задачы?

Трэба сказаць, што ў мінулыя гады народная гаспадарка БССР слаба разьвівалася. Тэмпы далейшага разьвіцьця нашай гаспадаркі будуць такімі, што пяцігодкаператворыць нашу пераважна сялянскую краіну ў індустрыяльна-аграрную краіну. Уся цэнзавая прамысловасьць БССР з 103 мл. руб. к канцу 5-годкі павінна ўзрасьці да 663 мл. руб. Такое разьвіцьцё прамысловасьці і ўсяе народнае гаспадаркі БССР павінны ў нас базавацца на належнай організацыі энэргетычнай базы БССР. У ранейшы час Беларусь мела вельмі прымітыўныя конструктыўныя капіталы. Яна ня мела кваліфікаванай энэргетычнай базы. З гэтае прычыны цяпер мы і прыкмячаем рашучы ўздым электрабудаўніцтва. Да вайны разьвіцьцё электрабудаўніцтва на Беларусі было надзвычайна слабым. Праўда, мы і цяпер маем слабыя рэсурсы ў гэтым напрамку. К канцу 5-годкі наша электраэнэргія будзе роўна 106000 кілават. У нас узрасьце і спажываньне электраэнэргіі. Калі цяпер гэтае спажываньне ў прамысловасьці роўна толькі 31%, дык у канцы 5-годкі 87% прамысловых прадпрыемстваў будуць пераключаны на электраэнэргію. Разьвіцьцё электрафікацыі будзе скарыстана як у прамысловасьці, так і ў сельскай гаспадарцы. Сельская электрыфікацыя да гэтага часу была мізэрная. У нас будаваліся станцыі ў 40—50 кілёват. Цяпер у сувязі з колектывізацыяй, калі сельскія электрастанцыі будуць абслугоўваць агроіндустрыяльныя комбінаты, нам прыдзецца будаваць станцыі ў 6-7 тысяч кілават. Наколькі гэта грандыёзна, можна бачыць з таго факту, што Менская станцыя разьлічана толькі на 3½ тыс. кілёват. Такім чынам мы бярэм курс на пабудову буйных электрастанцый.

У галіне сельскай гаспадаркі 5-гадовы плян намячае павялічэньне аграмаджанага сэктару. У гады аднаўленчага пэрыоду рост продукцыі прамысловасьці быў у 20%, а продукцыя сельскай гаспадаркі давала прырост толькі 5-6%. Між тэмпамі разьвіцьця прамысловасьці і тэмпамі разьвіцьця с. гаспадаркі былі разыходныя лініі, разрыў, які мог быць небясьпечным і для сельскай гаспадаркі, і для прамысловасьці. Гэты разрыў трэба было ліквідаваць. Трэба было ў політычных мэтах узяцца за ліквідацыю капіталістычных элемэнтаў. Гэта зусім зразумела. У прамысловым будаўніцтве мы мелі буйныя тэмпы, бо прамысловасьцю ад першага моманту рэволюцыі кіравала дзяржава. А ў галіне распыленай сельскай гаспадаркі гэтага ўплыву нельга было правесьці. А таму трэба абагуліць сельска-гаспадарчыя прадпрыемствы, каб яны ў сваёй продукцыі наблізіліся да прамысловых прадпрыемстваў. У гэтым політычныя і экономічныя падставы, патрабуючыя абагульненьня сельскай гаспадаркі. Бядняцка-серадняцкія пласты разумеюць гэта і ў колектывізацыі бачаць шлях палепшаньня свайго дабрабыту.

З гэтае прычыны мы ў гэтым годзе бачым рост аграмаджанага сэктару с. гаспадаркі на 13%, а к канцу 5-годкі гэты рост намячаецца ў 40%.

Расьце і разьмер аграмаджаных сельскіх гаспадарак. Калі нават у 1927-28 г. (пасьля XV зьезду) мы мелі сярэдні разьмер колгасу ў 64 га, дык цяпер ёсьць колгасы да 10000 га. На падставе гэтага тэмпу можна думаць, што колектывізацыя бядняцка-сялянскіх гаспадарак да канца 5-годкі будзе скончана.

Разам з соцыялістычнай рэконструкцыяй сельскай гаспадаркі 5-гадовы плян намячае і вытворча-тэхнічную рэконструкцыю. Урадам СССР было прынята заданьне ўзьняць ураджайнасьць у Саюзе на 35%. Па БССР мяркуецца праз 5 год узьняць ураджайнасьць на 45% супроць 1928 г. Гэта азначае, што кожны га павінен даваць замест 6 цэнтнэраў—9 цэнтнэраў зернавых культур. Другое заданьне трэба выканань—пашырыць пасеўныя плошчы. Цяпер нашы пэрспэктывы ў гэтым напрамку значна зьмяняюцца. Раней пашырэньне пасеўных плошчаў было цяжка, бо яно адбывалася ў напрамку інтэнсыўнага скарыстаньня плошчаў. Цяпер адчыняюцца пэрспэктывы ў гаспадарчым скарыстаньні нягодных зямель. У нас ёсьць каля

2 мл. забалочанай зямлі. Балоты будуць намі скарыстаны. Зернатрэсту аддаецца Паганянскі і Мар'інскі балотныя масывы пласторай да 70000 га і там будуць закладзены буйныя савецкія гаспадаркі. Льнатрэст таксама прэтэндуе на балотныя масывы і яму аддаецца возера Асьвея і іншыя балотныя масывы. Гэтыя месцы будуць мэліараваны і там будуць арганізаваны культурныя гаспадаркі. Адзін працаўнік Льнатрэсту ў газэце „Праўда“ пісаў, што ў БССР магчыма арганізаваць на балотах такую культуру ільну, што яго будзе больш зьбірацца, як ва ўсім СССР.

Прамысловасьць БССР к пачатку 5-годкі мела 54 мл. асноўнага капіталу. На працягу 5-годкі намячаецца ўкласьці 231 мл. і ўся сума асноўнага капіталу будзе 285 мл. Павялічэньне намячаецца ў 6 разоў. У сельскай гаспадарцы мы павінны зьмяніць структуру вытворчасьці і мэханізаваць яе: разгарнуць электрабудаўніцтва, замяніць цягавую сілу (у гэтым годзе будзе ўвезена 331 трактар), арганізаваць шэраг прадпрыемстваў па апрацоўцы с. г. сыравіны, па апрацоўцы бульбы, мяса, заснаваць яечна-птушыныя комбінаты. Індустрыялізацыя с. гаспадаркі, электрыфікацыя, замена с. г. інвэнтару, машыназабясьпечаньне—усё гэта зробіць пераварот у тэхніцы нашай сельскай гаспадаркі.

Па 5-гадоваму пляну намячаецца ўздым і культурнага стану краіны. Нам патрэбны будуць вялікія кваліфікаваныя кадры. Перад 5-годкай налічвалася 244000 рабочых, у канцы 366000, з іх ²/₃ падае на буйную прамысловасьць. У гэтым годзе лік рабочых на 5% перавышае пэрспэкцыйны плян. Наогул 1928-29 г. даў перавышэньне пляну 5-годкі ў галіне электрабудаўніцтва, капітальнага будаўніцтва, соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, у дзяржаўным і мясцовым бюджэце. Узрост прамысловасьці на другі год 5-годкі вызначаецца ў 78%—гэта ўжо ёсьць выкананьне 4-га году пяцігодкі. Па лініі індустрыялізацыі мы на працягу першага і другога году 5-годкі перавышаем плян (10½ мл.) і конкрэтным зьяўляецца лёзунг „выкананьне 5-годкі ў чатыры гады!“

Слабыя месцы ў нашым будаўніцтве гэта адставаньне якасных паказчыкаў працы. Паніжэньне сабекаштоўнасьці мае нізкі ровень. За 1-шы год 4-годкі дынаміка сабекаштоўнасьці мае ня добрыя вынікі, зьніжэньне 4¹/₂, а трэба было ня менш 7. І якасьць продукцыі часта была пагоршаная. Другое слабае месца ў нашым будаўніцтве ў тым, што наша будаўніцтва (чыстае) складаючы ў гэтым годзе 100 мл. руб. (у мінулым 80 мл.) мае індэкс 2¹/₂—найбольш высокі з усіх індэксаў. Нам трэба сур'ёзна падумаць аб патаненьні нашага будаўніцтва. Няспрыяльныя зьявы мае і сельская гаспадарка. Пры адсутнасьці адзнакаў, якія сьведчаць аб дэградацыі сельскай гаспадаркі, пры штогодным падвышэньні продукцыі сельскай гаспадаркі, тым ня менш рыначныя суадносіны зьмяняюцца ў горшы бок. Сярэдні індэкс с. г. продукцыі за адзін год узрос на 16%, а індэкс прамысловых цэн зьнізіўся. Дзе прычына? У сельскай гаспадарцы мы маем і вытворчыя процэсы і процэсы колектывізацыі. Трымальнікамі сельскагаспадарчай продукцыі зьяўляюцца вярхушачныя пласты вёскі, якія цяпер зьяўляюцца зьлейшымі ворагамі колектывізацыі. З іх боку вядзецца злосная агітацыя сярод серадняцтва, з іх ініцыятывы зьнішчаецца жывёла. Усё сьведчыць аб тым, што рыначныя зьявы зьвязаны з абвостранай клясавай барацьбой, якая адбываецца на вёсцы.

Кажучы аб навукова-дасьледчай працы ў БССР, трэба падкрэсьліць, што асноўнымі прычынамі, якія затрымоўваюць разьвіцьцё народнай гаспадаркі—зьяўляецца недастача кваліфікаваных сіл у БССР. Калі прыходзіцца абсьледваць нашыя прамысловыя прадпрыемствы, дык заўважваецца наліча інжынерна-тэхнічнага пэрсоналу ў 25% патрэбы, а часта гэты пэрсонал і зусім адсутнічае. Другія галіны культуры і гаспадаркі таксама неўкомплектаваны кваліфікаванымі сіламі. У навукова-дасьледчай справе мы асабліва адчуваем востры недахоп працаўнікоў. Такім чынам пытаньне аб кадрах для прамысловых прадпрыемстваў і культурных установ надзвычайна важнае і апошні пленум ЦК КП(б)Б пытаньне аб кадрах паставіў і цяпер яно вырашаецца. Мы павінны падрыхтаваць навуковыя кадры, палепшыць іх якасны склад, бо да гэтага часу ў нашых кваліфікаваных працаўнікоў ёсьць нейкае безразьлічча, няма поўнай адданасьці задачам соцыялістычнага будаўніцтва.

Якія асноўныя задачы навукова-дасьледчай працы і краязнаўчай працы на працягу 5-годкі?

Асноўная задача ў тым, што плянаваньне народнай гаспадаркі, 5-годкі трэба нам конкрэтызаваць. Буйныя прадпрыемствы ў іх разьвіцьці можна прадугледзець па тытульнаму сьпісу, але дробныя прадпрыемствы, як напр. гандаль сыравінай, нельга прадугледзець. Трэба пляны, даныя ў агульных лічбах, кожны год конкрэтызаваць. Такім чынам перад навукова-дасьледчымі ўстановамі і краязнаўчымі організацыямі стаіць задача дэталізацыі нашых плянаў. Навукова-дасьледчая праца ў нас была вельмі адсталай. Адзін працаўнік гаварыў нам, што ён сабраў вельмі поўныя матар'ялы аб глебах БССР, але на працягу 4 год ён ня будзе мець магчымасьці апрацаваць іх. Ясна, што навукова-дасьледчая праца адстае ад тэмпаў разьвіцьця народнай гаспадаркі. Па-другое, да гэтага часу яна была ізолявана ад шырокіх працоўных мас. Раней дасьледчык у часе бягучага жыцьця ня мог рабіць сваіх вывадаў. Між экономічнымі вывадамі (фактамі) і фактам організацыі самага экономічнага досьледу быў вялікі прарыў у шмат год. Была теорэтызацыя навукі. Цяпер нашы навукова-дасьледчыя ўстановы бяруць напрамак, каб па-першае навукова-дасьледчая

праца па тэмпу і зьместу адпавядала тэмпам соцыялістычнага будаўніцтва, каб тэорэтычныя вывады былі скарыстаны на практыцы. Па-другое, трэба будзе так організаваць навукова-дасьледчую працу, каб была сувязь з шырокімі бядняцка-серадняцкім масамі і працоўнай інтэлігенцыяй. Трэба, каб навукова-дасьледчая праца знайшла месца на самых прадпрыемствах, у колгасах, практычна-паказальных школах і г. д. Трэцяя задача—у навукова - дасьледчай працы праводзіць адпаведную мэтодолёгію—дыялектычны матар'ялізм. Нам трэба змагацца з вельмі пашыраным сярод навуковых працаўнікоў *ідэолізмам* і эклектызмам. Апошняя задача нашай навукова-дасьледчай працы—дамагацца комплекснага вывучэньня паасобных раёнаў, каб у выніку працы быў нарыс аб раёне, як экономічным цэлым.

Намячаючы конкрэтныя пляны, мы павінны адказаць на пытаньне: ці змогуць нашы навукова-дасьледчыя ўстановы выканаць гэтыя пляны. Зразумела, усе задачы цяжка выканаць. Нам трэба будзе вельмі пашырыць лік устаноў і організацый навукова-дасьледчага характару і яны павінны сваю працу абаперці на краязнаўчых організацыях. Нашы краязнаўчыя таварыствы павінны максымальна садзейнічаць выкананьню пяцігадовага пляну, пляну электрыфікацыі і энэргафікацыі. Наш плян электрыфікацыі БССР намячае пабудову буйных станцый Асінаўскай, Гомельскай, Менскай. Але гэтым электрабудаўніцтва не акрэсьліваецца. На чарзе стаіць вырашэньне пытаньня аб сельска-гаспадарскай электрыфікацыі. У гэтым напрамку вельмі цяжка вызначаць адпаведнае месца для будаваньні сельскіх электрастанцый. Краязнаўчыя організацыі павінны выканаць гэтую працу, павінны вывучыць энэргетычныя рэсурсы на месцы: вывучаць тарфяныя запасы, руховую сілу вады і г. д. Ад вывучэньня ўсяго гэтага і будзе залежаць разьмяшчэньне электрастанцый.

У галіне індустрыялізацыі народнай гаспадаркі краязнаўчыя т-вы могуць зрабіць вялікую працу па разьмяшчэньню дробных прадпрыемстваў, па экономічнаму раёнаваньню БССР. У гэтых мэтах краязнаўчыя організацыі павінны ўлічваць запасы мясцовай сыравіны, карысныя выкапні, мясцовую энэргію і г. д. У зьвязку з тэмпамі будаўніцтва вялікая тэрміновая задача стаіць перад намі—адшукаць будаўнічы матар'ял. У нас часта бываюць затрымкі, што гравія няма, што ня ведаюць, дзе ён знаходзіцца, дзе ёсьць каменьне і іншы будаўнічы матар'ял.

Краязнаўчыя організацыі дапамогуць нашай прамысловасьці з боку вывучэньня сыравінных рэсурсаў, з боку вывучэньня і адшуканьня карысных выкапняў, расьліннай і жывёльнай сыравіны. У зьвязку з гэтым будзе праводзіцца і спэцыялізацыя нашых буйных колгасаў (ільнаводныя, канаплёводныя, магчыма і цукраводныя на поўдні). Кожны раён вывучаць шляхам экспэдыцый—справа зацяжная і дарагая, патрабуюцца вялікія кадры працаўнікоў. А таму нашы краязнаўчыя організацыі разам з дасьледчымі станцыямі і экспэдыцыямі павінны ўзяць на сябе вырашэньне проблемы сыравіны. Вывучаючы экономіку і прамысловасьць, трэба абмяжоўвацца дэтальным вывучэньнем тых прадпрыемстваў, якія дзейнічаюць у раёне дзейнасьці краязнаўчых т-ваў ці гурткоў.

Вывучэньне саматужнай прамысловасьці ў сувязі з буйным разгортваньнем дзяржаўнай прамысловасьці таксама неабходна ўзяць на сябе краязнаўчым організацыям. Цяпер самы зьмест і месца саматужнай прамысловасьці перажывае трансформацыю. Саматужніцтва перажывае пералом, асабліва швэйная, абутковая саматужная прамысловасьць. Трэба вывучаць гэты пэрыод з усіх бакоў.

На працягу апошняга году ў нас моцна разьвіваецца колгасны рух. Статыстыка не пасьпявае яго ўлічваць. Ён павінен быць у цэнтры ўвагі краязнаўчых організацый. Колектывізацыя азначае ліквідацыю капіталістычных адносін на вёсцы. Вывучэньне колгаснага руху навукова-дасьледчымі організацыямі сваім вынікам павінна мець ня толькі колькасныя паказчыкі разьвіцьця колгасаў, але вырашаць пытаньне аб організацыі колгасаў. Дасьледчыя ўстановы павінны даць узор і патрэбныя матар'ялы, якія пакажуць, як павінна быць організавана вытворчасьць колгасу, праца і аплата яе, як павінен быць організаваны быт колгасу. Усе матар'ялы павінны паказаць, у якім напрамку будуецца колгас, як гаспадарчы комплекс. Перад нізавымі краязнаўчымі організацыямі стаіць актуальнае пытаньне аб зьбіраньні матар'ялаў з жыцьця кожнага колгасу.

Апрача гэтага ў галіне сельска-гаспадарчай вытворчасьці перад намі стаіць пытаньне аб падвышэньні ўраджайнасьці. Краязнаўчыя організацыі павінны вывучыць мясцовыя прадпасылкі, якія дапамагаюць і перашкаджаюць падвышэньню ўраджайнасьці. Трэба дасканала вывучаць беларускія глебы, бо для правільнага пабудаваньня організацыйнага пляну колектыўных гаспадарак трэба ведаць глебы самых дробных тэрыторый. Краязнаўчыя т-вы павінны весьці глебазнаўчую працу: вывучаць геоботанічныя адзнакі глебы, агрохэмічны і морфолёгічны склад глебы. У проблеме падвышэньня ўраджаю гэта першае заданьне.

Таксама шмат трэба зрабіць краязнаўчым організацыям у вывучэньні нашых насенных фондаў, у спосабах ужываньня сэлекцыйнага насеньня, у вывучэньні мясцовых угнаеньняў, лубінізацыі, тарфаваньньня, вапнаваньня і іншых мясцовых рэсурсаў угнаеньня. Трэба вывучаць проблему мэханізацыі сельскай гаспадаркі, трэба вывучаць склад с. г інвэнтару і патрэбу ў машынах. Уся кампанія, якая зьвязваецца з проблемай падвышэньня ўраджайнасьці, павінна знаходзіць актыўнае падтрыманьне з боку краязнаўчых організа-

цый. Асаблівую ўвагу яны павінны аддаць вывучэньню і тых перашкод, якія зьніжаюць ураджай, павінны вывучаць шкоднікаў сельскай гаспадаркі, тыя кліматычныя ўмовы, ад якіх залежыць ураджай і г. д.

Першыя два гады пяцігодкі падкрэсьлілі важнасьць жывёлагадоўлі. Ёсьць тэндэнцыя да зьніжэньня колькасьці жывёлы ў краіне. Асноўная прычына—клясавая барацьба, якая ідзе на вёсцы. Другая прычына—няспрыяючыя кармавыя ўмовы для жывёлы. Краязнаўчыя організацыі павінны вывучаць пытаньне аб паляпшэньні стану нашай жывёлагадоўлі, павінны заняцца вывучэньнем палепшаных пород хатняй жывёлы і птушак, павінны вывучыць кармавыя рэсурсы для жывёлы ў БССР, способы паляпшэньня нашых сенажацяў, папулярызаваць культуру кораньплодаў, сілосаваньне і іншыя мерапрыемствы, зьвязаныя з проблемай жывёлагадоўлі і с. г. наогул: вапнаваньне, лубінізацыю, мэханізацыю і г. д.

Мы пачынаем праводзіць веснавую пасеўкампанію. У мінулым годзе было ачышчана 60% насенных матар'ялаў. У гэтую кампанію трэба зрабіць куды больш інтэнсыўную працу, каб усе мерапрыемствы зьвязаныя з перабудовай сельскай гаспадаркі, былі выкананы ў часе гэтай кампаніі.

Вельмі важным зьяўляецца пытаньне аб удзеле краязнаўчых організацый у мясцовых с. г. выстаўках, Усебеларускай выстаўцы с. гаспадаркі і прамысловасьці і ў музэйным будаўніцтве. Пажадана, каб краязнаўчыя організацыі праз РВК дабіліся організацыі сталых краязнаўчых музэяў, якія павінны быць паказчыкамі соцыялістычнай рэконструкцыі нашай сельскай гаспадаркі. Краязнаўчыя організацыі павінны не забываць агульную ўстаноўку ва ўсёй краязнаўчай працы: пры вырашэньні і вывучэньні ўсіх пытаньняў выходзіць з клясавых задач, якія ставіць перад краінай Партыя і Савецкая ўлада. А таму трэба, каб вытворчасьць нашай с. гаспадаркі падвышалася не наогул, але трэба дабіцца падвышэньня вытворчасьці аграмаджанага сэктару сельскай гаспадаркі.

Апрача агульна-палітычных задач краязнаўчай працы краязнаўчыя організацыі ў сваёй працы павінны ставіць агульна-палітычныя задачы і рашуча адкінуць лёзунг „Краязнаўства для краязнаўства". Краязнаўчая праца толькі тады будзе карысна, калі яна ўздзе дапамагаць соцыялістычнаму будаўніцтву, найбольш поўна абслугоўваць запатрабаваньні нашага часу. З гэтае прычыны ўсе другія об'екты краязнаўчай працы, як напр. археолёгія, вывучэньне культуры краю павінны мець такую прынцыповую ўстаноўку, каб вывучэньне гэтых пытаньняў давала-б карысьць для соцыялістычнага будаўніцтва. Трэба ва ўсіх галінах краязнаўчай працы стаць на шлях дыялектычнага матар'ялізму!

**II. Справаздача ЦБК і чарговыя задачы краязнаўства.**—*даклад т. Казака.*

Мы перажываем надзвычайны момант. Колгасны рух прыняў цяпер такія разьмеры, якія абганяюць усе пляны. Асноўная фігура сельскай гаспадаркі серадняк усьвядоміў сэнс колектывізацыі і ўсьлед за бедняком вялікімі масамі пашоў у колгасы. Гэта дало магчымасьць па новаму вырашаць пытаньне аб адносінах партыі да кулака. Раней мы імкнуліся выцясьняць кулака, цяпер сталі на шлях зьнішчэньня кулака, як клясы, замены кулацкай вытворчасьці вытворчасьцю савгасаў і колгасаў. Кожны савецкі грамадзянін павінен дапамагаць гэтай задачы. Уся маса працоўных павінна быць уцягнена ў соцыялістычнае будаўніцтва. Гэта ўцягненьне павінна ісьці праз савецкія, профсаюзныя і грамадзкія організацыі. Удзел у краязнаўчых організацыях таксама ёсьць удзел у соцыялістычным будаўніцтве. Да гэтага часу нашы грамадзкія організацыі ў тым ліку і краязнаўчыя не перабудавалі свае працы адпаведна тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва. Краязнаўчыя організацыі вельмі адстаюць. $^1/_3$ частка краязнаўчых організацый далей організацыйнага пэрыоду ў сваёй працы не пайшла. Другая частка займаецца краязнаўствам па лініі найменшага супраціўленьня—вывучэньне старажытнасьці і наогул гуманітарных пытаньняў. Толькі $^1/_3$ частка вывучае вытворчыя пытаньні—гэта Мазыршчына і 2-3 краязнаўчыя організацыі ў кожнай акрузе. Чым тлумачыцца той факт, што краязнаўчыя організацыі не перайшлі да вытворчага краязнаўства? Ці ня мэтавай устаноўкай? Трэба адказаць, што мэтавая ўстаноўка, якая была дадзена 1-м Усебеларскім Краязнаўчым зьездам, была правільная: дапамагчы соцыялістычнаму будаўніцтву. Цяпер мы дадаем: дапамагаць соцыялістычнаму будаўніцтву праз удзел у ім. Краязнаўства ёсьць і павінна быць краябудаўніцтвам. Прынцыпы і дабраахвотнасьць, масавасьць павінны праводзіцца і надалей. Таксама і надалей правільным застаецца зьмест краязнаўчай працы—усебаковае вывучэньне раёну. Краязнаўчыя організацыі займаліся галоўным чынам культурна-гістарычнымі пытаньнямі, а далей трэба ўсю ўвагу накіраваць на экономічныя пытаньні.

Якія вынікі мы маем ад краязнаўчай працы за ўвесь гэты час. Складзены і выдадзены апісаньні Асіпавіцкага раёну ў 2-х частках, апісаньне Горацкага раёну, апісаньне Лагойскага раёну, апісаньне Азарыцкага раёну, падрыхтавана да друку апісаньне Слуцкага раёну і г. д. Мы маем 4 акруговыя краязнаўчыя музэі і 15 раённых. Краязнаўчымі організацыямі сабраны вялікі лік слоў жывой мовы (131000) і фольклёрнага матар'ялу (46000№), але ўсё гэта ня тыя актуальныя матар'ялы, якія вымагаюцца жыцьцём. Намі вельмі мала зроблена з боку вывучэньня экономікі, прыродных і вытворчых сіл. Гэта тлумачыцца тым, што наш краязнаўчы рух

разгортваўся па агульнаму шляху навукова-даследчай справы БССР, па шляху пераважнага разьвіцьця гуманітарных навук. Аддзел Гуманітарных Навук ІБК першы пачаў даваць краязнаўчыя інструкцыі. Аддзел прыроды і гаспадаркі, а таксама НДІ толькі за апошнія часы пачалі разгортваць сваю працу. Да гэтага часу з краязнаўчым рухам яны ня лічыліся, не дапамагалі нашым мясцовым арганізацыям у вывучэньні пытаньняў вытворчага характару. Толькі цяпер Аддзел Прыроды і Гаспадаркі БАН пачаў увязвацца з намі. Цяпер укладзена т. Смолічам програма вывучэньня экономічнага раёнаваньня.

Але ў вывучэньні гаспадарчых пытаньняў жыцьцё вымагала хутчэйшай дапамогі з боку ЦБК мясцовым арганізацыям. І ў сьпешным парадку была намі складзена програма вывучэньня колгасаў. Яна мае шмат недахопаў. Краязнаўчая конфэрэнцыя павінна паказаць іх і зрабіць пералом у гэтай справе.

Другія прычыны, якія перашкаджалі пераводу краязнаўчай працы на вытворчы характар: недахоп добрых краязнаўцаў на мясцох, частыя перакідкі краязнаўцаў з аднаго раёну ў другі, малая ўвага з боку вышэйшых устаноў да пытаньня аб кадрах для краязнаўчага руху і інш.

З організацыйнага боку краязнаўчая праца на сёньня мае такі выгляд: 8 акруговых т-ваў краязнаўства — з іх Бабруйскае акруговае т-ва аб сабе ня дала ніякіх статыстычных вестак, 84 раённых т-ваў краязнаўства (16 раённых т-ваў ня дала падлікосых вестак), 103 сельсавецкіх гурткоў, 130 школьна-краязнаўчых гурткоў — усяго 333 краязнаўчых організацый з лікам 8819 членаў. Прасоўваньне краязнаўчага руху ў сельсаветы ідзе слаба. Паводле пляну мы павінны былі-б мець 300 сельсавецкіх гурткоў, а маем 103. Партыйных у організацыях 9% (у мінулым годзе 8%), комсамольцаў—15% (у мінулым—11,7%), рабочых—2%, сялян—4%, лік настаўнікаў—50%—зьменшыўся параўнальна з мінулым годам за лік вучнёўскай комсамольскай моладзі. Апрача паказаных 5 акруговых музэяў і 15 раённых нашы організацыі маюць яшчэ 12 школьна-краязнаўчых музэяў, 8 краязнаўчых куткоў і 1 ботанічны пітомнік. Лік экспонатаў у нашых музэях 16735. За мінулы год краязнаўчымі організацыямі пастаўлена навуковых дакладаў 50, праведзена экскурсій 112 і 4 экспэдыцыі, сабрана экспонатаў 5745, дадзена апісаньняў 232 і ў географічны слоўнік 1306, фэнагляданьняў—892, гідранагляданьняў—111, мэтнагляданьняў—3046, запоўнена програм асаблівасьцяй мовы—155, выдадзена рукапісных зборнікаў і часопісаў—4, краязнаўчых газэт—2 і г. д. Больш за ўсё краязнаўцы вялі анкетную працу (847), і запісвалі фольклёр (978), потым зьбіралі музэйныя экспонаты (730), вялі фэнагляданьні (470), давалі апісаньні рознага характару (267) і г. д. Каб краязнаўчую справу палепшыць, ЦБК для падрыхтоўкі краязнаўцаў у мінулым годзе організавала курсы, у гэтым годзе зноў цяпер наладжвае, організавала курсы пры БДУ, распрацавала інструкцыі па вывучэньню рэўруху, колгаснага будаўніцтва, фабрык і заводаў, выдала зборнік програм і інструкцый.

Недахопаў у нашай працы шмат. Да гэтага часу нашы краязнаўчыя організацыі не разгарнулі новых мэтодаў працы, не праводзяць соцспаборніцтва. Мы маем толькі 3 выпадкі заключэньня дагавораў соцспаборніцтва: Мазырскае Т-ва—Гомельскае, Віцебскае—Полацкае, Слуцкае—Грэскае. Об'екты соцспаборніцтва між краязнаўчымі організацыямі ЦБК паказала ў перадавым артыкуле „Нашага Краю". Другі недахоп нашай працы—мы не дагаварыліся з Наркамасьветы аб кіраўніцтве школьна-краязнаўчым рухам, які вельмі шпарка расьце. Да гэтага часу няма ў нас пэўных установак і мэтодаў школьна-краязнаўчай працы. Трэці недахоп: краязнаўчая праца сярод нацменшасьцяў паслабла, а ў некаторых акругах і зусім спынілася.

Чарговыя задачы, якія стаяць перад нашымі краязнаўчымі організацыямі: заняцца вывучэньнем колгаснага руху, правесьці перарэгістрацыю і перагляд складу організацый, наладзіць кіраўніцтва школьна-краязнаўчым рухам, прыняць удзел у І Усебеларускай Выстаўцы С.-Гаспадарцы і Прамысловасьці—дапамагчы ў працы мясцовых выстаўкомаў. ЦБК заклікае краязнаўчыя організацыі выканаць гэтыя задачы, а сёньня пажадана, каб дэлегаты конфэрэнцыі разгарнулі шырокую самакрытыку ўсяе нашае краязнаўчае працы.

*Прамова заг. аддзелу пропаганды і культуру ЦК КПБ т. Сянкевіча.*

Ад імя аддзелу пропаганды і культуры вітаю 3 Беларускую краязнаўчую конфэрэнцыю. Я хачу спыніцца на задачах, якія стаяць перад конфэрэнцыяй. Гэтыя задачы ў дакладах тав. Пятровіча і т. Казака намечаны правільна. Я хачу падкрэсьліць, што мы перайшлі ў новы этап жыцьця і будаўніцтва, соцыялістычнай рэконструкцыі, этап, які патрабуе новых форм, новых мэтодаў працы. І ня толькі краязнаўчыя організацыі павінны гэта зрабіць, але і савецкія, і партыйныя, і профэсіянальныя організацыі.

У першы пэрыод нэпу, пры існаваньні слабага соцыялістычнага сэктару, мы дапусьцілі сужыцьцё з капіталізмам. Той пэрыод быў пэрыодам зьбіраньня сіл, аднаўленьня гаспадаркі, падвядзеньня індустрыяльнай базы пад соцыялістычнае будаўніцтва. Гэтаму пэрыоду адпавядалі пэўныя формы і мэтоды нашай працы. За гэты час і характар працы краязнаўчых організацый мае сваё гістарычнае апраўданьне.

Цяпер мы перайшлі ў пэрыод рэконструкцыі прамысловасьці і с.-гаспадаркі. Першы год 5-годкі паказвае, што ў умовах дыктатуры пролетарыяту, шырокага плянаваньня і энтузыязму ў працы мы можам ісьці нябачнымі тэмпамі па шляху соцыялістычнага

будаўніцтва. Гэты этап не праходзіць супакойна. Мы будуем у атмосфэры абвостранай клясавай барацьбы. Калі мы цяпер робім другі крок для канчальнага выкарчоўваньня капіталістычных элемэнтаў, мы будзем наглядаць яшчэ больш абвостраную барацьбу клясаў. Мы цяпер бярэмся за зьнішчэньне кулакоў, як клясы. Гэта справа значна цяжэйшая за зьнішчэньне буржуазіі. У гэтыя месяцы і дні мы на вёсцы будзем бачыць жорсткую барацьбу. Кулак будзе пазбаўлены асноўных сродкаў вытворчасьці — насеньня, зямлі, інвэнтару. Цяпер шмат хто цікавіцца чамусьці лёсам гэтага кулака. Шмат ёсьць людзей, якія пытаюцца, што мы будзем з ім рабіць, якія праліваюць кракадылевы сьлёзы над хаўтарамі гэтага кулака. Між тым у нас 80,000 батракоў і ніхто ня цікавіцца, як яны жывуць, ці сыты, ці адзеты. Але ўсе марнуюць свой час на разважаньні, што зрабіць з кулаком.

Калі кулак будзе выступаць супроць нас, мы будзем конфіскаваць усю яго маемасьць. Мы дадзім зямлю толькі тым, хто ня будзе актыўна змагацца з намі, і дадзім ня больш 5 га. Гэта будзе жорсткая клясавая барацьба, якая разьвіньціць гайкі і сярод беспартыйных і магчыма сярод некаторых членаў партыі. Мы будзем мець рэцыдывы і нацыяналшовінізму, і нацыянал-дэмократызму. Супраціўленьне будзе даходзіць да адчыненай барацьбы з намі. У Сьмілавіцкім раёне настаўніцу пабілі за агітацыю колектывізацыі. І мы павінны прадбачыць, што барацьба будзе даходзіць і да праяў бандытызму. І мы павінны жалезнай рукой зламаць супраціўленьне кулацтва, зьнішчыць індывідуальную с.-гаспадарку і пераключыць яе ў буйную, колектыўную.

Праца культурных організацый ня можа быць аполітычнай. Усе сілы гэтых організацый трэба накіраваць на соцыялістычную перабудову вёскі. Краязнаўчыя організацыі павінны выканаць важную задачу — пакончыць з аполітычнасьцю ў сваёй працы, вывучаць свой край не для вывучэньня, а ў імя перабудовы жыцьця. Вывучэньне колгасаў і колгаснага руху—вялізарная задача. Немагчыма плянава будаваць распыленую с.-гаспадарку краіны, у якой налічваецца мільён незалежных гаспадарчых адзінак. Трэба пераходзіць да суцэльнай колектывізацыі і трэба будзе пры гэтым пераглядаць экономічную карту раёну і кожную колгасную адзінку раёнаваць адпаведна глебавым, фізычным і географічным умовам, высьветліўшы, дзе лепш сеяць лён, дзе бульбу, дзе лепш заняцца жывёлагадоўляй. Краязнаўчыя організацыі павінны дапамагчы расплянаваньню колгасаў. І паколькі краязнаўцы—пераважна зьяўляюцца настаўнікамі — не экономістымі, трэба ў краязнаўчыя організацыі ўцягнуць агрономаў, лесаводаў, каморнікаў. Таксама трэба наладзіць сувязь між нашымі дасьледчымі ячэйкамі і краязнаўчымі організацыямі. Трэба, каб праца дасьледчых станцый праз краязнаўчыя організацыі была вядома насяленьню. Організацыі павінны сваёй практыкай, сваёй праверкай популярызаваць працу станцый. Так, напр., Менская дасьледчая станцыя вырошчвае гібрыд пшаніцы, якая дае з 1 га 250 пуд. Краязнаўцы павінны быць агітатарамі за гэта. Няхай з іх дапамогай дасьледчыя станцыі выйдуць на шырокае поле.

Культурную працу па вывучэньню сучаснага быту, па дасьледваньню рэўруху краязнаўчыя організацыі павінны праводзіць ня толькі з акадэмічнымі мэтамі, але і з мэтамі барацьбы за новы быт, за новую ідэолёгію. Вывучэняне старога быту павінна мець мэту—давесьці ўсю агіднасьць старога быту. Таксама вывучэньне рэлігійных настрояў павінна праводзіцца разам з барацьбой супроць рэлігіі. Бязбожны рух не заўсёды праходзіць нормальна. Часта ён мае напалову адміністрацыйны характар. А трэба ведаць, што чыста адміністрацыйнае зачыненьне сінагог ці цэркваў можа прывесьці да пашырэньня сэктанцтва, калі мы не правядзем належную культурную працу, належную пропаганду бязбожжа. У Жлобінскім раёне, пры правядзеньні суцэльнай колектывізацыі, пачалі распаўсюджвацца чуткі, што ўжо антыхрыст прышоў, што трэба з малітвамі, з крыжамі ісьці супроць. І высьветлілася, што ў 8 вярстах ад Жлобіна было гняздо гэтай агітацыі— жылі 3 манашкі, ад якіх распаўсюджваліся гэтыя чуткі. Такім чынам барацьба з рэлігіяй павінна ісьці разам з вывучэньнем яе мясцовых карэньняў.

Вельмі важна цяпер-жа вывучаць гісторыю барацьбы за колгасы. Запісваць факты гэтай барацьбы, формы яе. А факты і формы барацьбы бываюць вельмі яскравыя. Напр., прыяжджае брыгада, склікае сход. На ім выступае адзін селянін і кажа, што ўжо ёсьць закон, надпісаны т. Галадзедам аб суцэльнай колектывізацыі, а таму ня трэба абіраць ніякага прэзыдыуму ці камісіі. Кулакі часта самі ня йдуць на сход, а пасылаюць жанчын. Апісаць, рэгістраваць, вывучаць такія факты— першая задача краязнаўчых організацый цяпер.

Наогул, баявая задача краязнаўчых організацый у гэты пэрыод — усю сваю працу ўвязваць з соцыялістычным будаўніцтвам. Працуючы над перабудовай соцыяльна-экономічных падстаў, трэба перабудоўваць і псыхіку, перафармляць яе ад індывідуалістычнай да колектывістычнай. Праца краязнаўчых організацый павінна нам гарантаваць, што яны пойдуць па шляху дапамогі Савецкай уладзе і Компартыі ў процэсе соцыялістычнага будаўніцтва.

### Спрэчкі па справаздачы ЦБК.

*Паўлаў* (агрокомбінат). Наша краязнаўчая праца цяпер перабудоўваецца. Да гэтага часу нашы краязнаўчыя організацыі больш займаліся культурна-гістарычнымі пытаньнямі. Цяпер пры паглыбленьні краязнаўчай працы трэба галоўную нашу ўвагу зьвярнуць

на вывучэньне колгаснага руху. Правільна, што такі напрамак бярэ і ЦБК. Пры Гарадзецкім агрокомбінаце заснавалася першае Колгаснае Т-ва Краязнаўства. Пры ўдзеле краязнаўчага гуртку пры Гарадзецкай 7-цы наша Т-ва зрабіла такую працу: абсьледвалі і апісалі 2 яшчэ раней існаваўшых колгасы (яўрэйскіх), заснавалі краязнаўчы гурток пры колгасе Чырвоная Ветачка і зрабілі апісаньне гэтага колгасу. У далейшым мы намячаем зрабіць экспэдыцыю ў колгас Расьсьвет-Пабядзіцель. Пры кожным колгасе немагчыма заснаваць краязнаўчы гурток, але пры найбольш буйных, дзе ёсьць культасьветны актыў, неабходна заснаваць. Нам гэта ў некаторых колгасах і ўдалося. Але трэба падкрэсьліць, што адносіны да краязнаўчай працы з боку мясцовых працаўнікоў вельмі халодныя. Краязнаўцы галоўным чынам настаўнікі, а дактары, агрономы і іншыя савецкія працаўнікі, як правіла, адмаўляюцца ад краязнаўчай працы. Праўда, мы свайго доктара і агронома ўцягнулі ў гэтую працу. Другой перашкодай для краязнаўчай працы зьяўляецца тое, што настаўніцтва цяпер вельмі занята рознымі відамі грамадзкай працы. Цяпер у нас нават ня бывае выходнага дня, бо ўвесь час прыходзіцца весьці працу па колектывізацыі. У нас краязнаўчая праца даручана 2-м настаўнікам. На працягу гэтага году мы намячаем зрабіць поўнае апісаньне агрокомбінату. Трэба каб часопіс „Наш Край“ популярызаваў краязнаўчую працу ў колгасах. Трэба з другога боку, каб кожны колгас выпісваў часопіс „Наш Край“. Яго мала ведаюць.

*Камінскі.* (Чавусы). Краязнаўчыя організацыі толькі вывучаюць, але не перабудоўваюць тое, што вывучаюць, адпаведна новым запатрабаваньням. Напрыклад, вывучаючы быт, наведваюць сялянскія вечарыны і пачынаюць самі прымаць удзел у іх. А каб замяніць стары быт новым—аб гэтым ня думаюць. Таксама вывучаюць шкоднікаў, але ня зьнішчаюць іх. Чарговай задачай краязнаўцаў зьяўляецца ня толькі вывучэньне колектывізацыі, але і садзейнічаньне ёй. Трэба перашкаджаць казённым адносінам да маемасьці, весьці барацьбу з разбазарваньнем жывёлы, трэба замяняць старую дробна-буржуазную ідэолёгію новай колектывісцкай. Трэба каб краязнаўчыя організацыі прынялі ўдзел у агульнай перабудове; адносіны да краязнаўчых організацый былі дрэнныя, бо да гэтага часу краязнаўчыя організацыі займаліся пераважна старажытнымі пытаньнямі.

*Вялішчанскі* (Рагачоў). Папрок, што мы не пасьпяваем за тэмпамі, што тэорыя адстае ад практыкі—папрок справядлівы. З боку ЦБК і дасьледчых установ ня зроблена ўсё тое, што можна і трэба было зрабіць. Т. Казак у сваім дакладзе заўважыў, што толькі цяпер ЦБК дагаварылася з Аддзелам Прыроды і з НДІ. Такі стан адзываецца і на краязнаўчых організацыях. Нашы краязнаўцы-настаўнікі не зьяўляюцца экономістымі, вывучэньне экономікі вымагае солідных ведаў, а таму для нас цяжка (калі ня зусім немагчыма) зрабіць комплекснае апісаньне экономікі раёну. Я думаю, што трэба зьвярнуць належную ўвагу на вывучэньне рэлігійнага руху ў раёне. Цяпер усе рэлігіі ідуць супроць нас, і ў антырэлігійнай барацьбе патрэбна ілюстрацыя на мясцовым матар'яле.

У краязнаўчай працы мы не скарыстоўваем увесь актыў. Школьнае краязнаўства ў нас дагэтуль ня мае сталых плянаў працы. Між тым асабліва цяпер вялікую краязнаўчую працу магчыма разгарнуць у школах. Гурткі юных натуралістых таксама могуць зрабіць вялікую працу. Усе нашы краязнаўчыя організацыі павінны пашыраць тэхнічныя культуры, як напр. лекавыя расьліны. Што датычыцца колгаснага руху, дык краязнаўцы павінны ўзяць актыўны ўдзел у ім. Вывучэньне іх з боку краязнаўчых організацый павінна зачапіць і такі цікавы бок гэтага пытаньня, як гісторыя барацьбы за колгасы. Мы перажываем паласу надзвычайнага ўздыму і гэты пэрыод ня фіксуецца ва ўсіх дэталях.

*Варпаховіч* (Віцебск). Ніхто з нас ня будзе спрачацца, што краязнаўцы павінны сваю працу паставіць на новыя рэйкі. Але трэба самаправерыць нашу працу, аб якой гаварылася ў справаздачы ЦБК. Мы вельмі часта гаворым адно і тое, што няма кадраў, перагружаны ўсе актыўныя працаўнікі і г. д. На мінулай конфэрэнцыі мы ўсе гаварылі, што трэба ўзяцца за вытворчае краязнаўства. Што зрабіла ЦБК у гэтым напрамку? Да гэтага часу мы нават ня маем распрацаваных програм па вывучэньні экономікі. Склад нашых краязнаўчых організацый пераважна інтэлігенцкі, настаўніцкі. Па вестках ЦБК настаўнікаў у краязнаўчых організацыях 50%. Гэта мусіць ня так.

ЦБК распрацавала програму сэмінараў краязнаўства і даслала гэты проект організацыям толькі месяц назад, а можна было-б гэта зрабіць яшчэ з восені. ЦБК рэкомэндавала програмай для сэмінараў узяць програму выкладаньня краязнаўства ў Вузах і тэхнікумах. Але гэтая програма ня мае вытворчага ўхілу, заблытаная і складаная. Якія задачы ў нашай далейшай працы? 1. Мы павінны прыняць удзел у складаньні раённых пяцігодак. 2. Дапамагчы выкананьню гэтай 5-годкі. У дакладзе т. Пятровіча вельмі многа паказана заданьняў для працы краязнаўчых організацый. Патрабуецца комплекснае вывучэньне раёну. Але гэта праца патрабуе доўгага часу. А таму ў першую чаргу мы павінны ўзяцца за вывучэньне колгаснага руху. Адносна краязнаўчай працы нацыянальных сэкцый нашых краязнаўчых організацый трэба сказаць, што падзел края-

знаўчай працы па нацыянальнаму прынцыпу немэтазгодны ў далейшым.

*Гранкоўскі* (Полацак). Пытаньне аб вывучэньні вытворчасьці займала нашу ўвагу і раней, але да гэтага часу нічога конкрэтнага намі ня зроблена. Агрономаў і экономістых у нашых організацыях няма. У нашай працы на мясцох шмат недахопаў. Кіраўніцтва ЦБК было слабое. Мы ня ўмеем організаваць грамадзкую працу ў галіне краязнаўства. Акрплян ня зьвязаны ў сваёй працы з краязнаўчымі організацымі. С. г. сэкцыі Рабземлеса займаюцца дзяляцтвам. Полацкае Акруговае Т-ва мае краязнаўчы музэй, Акрзем таксама мае. Між тым яны не аб'яднаны і паасобна малую карысьць даюць. ЦБК ня мае ўвязкі з НДІ, з Аддзелам Прыроды і Гаспадаркі, таксама гэта і ў нас мае выніңі. На мясцох з краязнаўцамі ня лічацца. Трэба каб Наркамзем больш зацікавіўся працай краязнаўчых організацый ня менш, чым Наркамасьветы.

„Наш Край" на сваіх старонках павінен даваць больш інструкцый. Адносна фэнагляданьняў спрэчным зьяўляецца, ці можна нагляданьні давяраць вучнёўскім краязнаўчым гуртком, бо іх весткі часта разыходзяцца. Акадэмік Пятровіч падкрэсьліў, што нас не здавальняе мэханічны аналіз глебы. Нам патрэбна мэтодыка простых морфолёгічных досьледаў глебы. Напр., на Полаччыне ёсьць супесі. Звычайна думаюць, калі расьце елка, дык там глеба супесь, а між тым і на лёэсавідным пяску расьце елка. Неабходна было-б уцягнуць у краязнаўчую працу спэцыялістаў—лесаводаў, агрономаў і каморнікаў, зацікавіць іх друкаваньнем іх краязнаўчых прац і г. д.

*Альбіцкі* (Гомель). Першым недахопам у нашай працы ёсьць тое, што акруговыя т-вы мала ўвагі зьвяртаюць на організацыю краязнаўчай працы, на пашырэньне патрэбнай краязнаўчай літаратуры сярод мясцовых працаўнікоў. У нас няма ніякай мэтодычнай краязнаўчай літаратуры. МК вызначае сродкі для набыцьця літаратуры, але ніхто ня вызначае ў сьпіс гэтай літаратуры краязнаўчыя падручнікі. „Наш Край" зусім не пашыраны сярод настаўніцтва. Для пашырэньня краязнаўчай працы трэба было-б краязнаўцаў вызваляць ад іншых абавязкаў грамадзкай працы. Бо трэба ня толькі сабраць матар'ял, але і апрацаваць яго, каб паслаць у друк. Краязнаўчую працу вучняў трэба ўвязаць з працай с.-г. гурткоў, якія існуюць пры школах і хатах-чытальнях. Толькі такім чынам можна краязнаўчым організацыям прыняць удзел у с.-г. выстаўцы і ўцягнуць у свой склад вясковых актывістых.

*Мялешка* (Полацак). Вялікае значэньне цяпер набывае краязнаўчая праца для дапамогі ў рэконструкцыі с. гаспадаркі. Пытаньні зьвязаныя з рэконструкцыяй народнай гаспадаркі будуць хутчэй ажыцьцяўляцца, калі будуць вывучаны об'екты, калі ўсе ўявяць сутнасьць краязнаўчай працы, калі будзе зьнішчана недаацэнка краязнаўчай працы, што было да гэтага часу. У складзе краязнаўчых організацый 95% настаўнікаў, але асьветнікі ня ўсе актыўныя краязнаўцы, большасьць іх мёртвыя душы. ЦБК павінны дабіцца, каб акруговыя т-вы ліквідавалі краязнаўчую няпісьменнасьць, уцягнулі ў кола сваёй чыннасьці рабочых, сялян, іншых працаўнікоў. Трэба правесьці для рабочых курсы па краязнаўству.

Дрэнна ў нас справа і ў школьным краязнаўстве. У школьным выкладаньні адсутнічае краязнаўчы ўхіл. Вывучаючы географію, прыродазнаўства, ня ведаюць свайго краю.

Асноўны недахоп працы ЦБК, што да гэтага часу мы ня маем програм па актуальных пытаньнях сучаснасьці. Гэта трэба зрабіць у самы бліжэйшы час!

*Бялькевіч* (Слоўнік. Камісія БАН). Я хачу спыніцца на пытаньні аб вехах між краязнаўчай працай і грамадзкай працай. Краязнаўчую працу ня лічаць грамадзкаю, бо пра яе мала ведаюць і чуюць. Нават асноўная настаўніцкая маса ня ведае сутнасьці краязнаўчай працы. Мы мала робім у напрамку популярызацыі краязнаўчай працы. Вядуцца розныя нагляданьні, досьледы, але яны застаюцца досьледамі для сябе. Грамадзкасьць ня ведае аб іх мэтах. Мы говарым аб краязнаўчай працы на вёсцы, але аб гэтай працы ў горадзе мы не гаворым. Краязнаўчую працу трэба з вёскі перанесьці ў горад. Таксама занядбана пытаньне аб вядзеньні краязнаўчымі організацыямі слоўнікавай працы, гэта праца спынілася. Цяпер рыхтуецца да друку акадэмічны слоўнік беларускай мовы і адсутнічае ў нас цэлы шэраг слоў, асабліва тэхнічнага характару. З гэтым нельга мірыцца. Краязнаўчыя організацыі павінны прысылаць слоўнікавыя матар'ялы. Акадэмічны слоўнік—вялікае прадпрыемства. Трэба ўсё зрабіць, каб ён быў найбольш поўным.

*Кулакоў* (Азарычы). На 2-м Краязнаўчым зьездзе мы шмат гаварылі аб популярызацыі краязнаўства. Цяпер гавораць, што навокал краязнаўства няма грамадзкай думкі. Гэта сапраўды ёсьць там, дзе краязнаўцы замкнуліся ў самых сябе. Калі краязнаўчая праца выносіцца на суд грамадзянства, тады з ёй лічацца. Прыклад: організацыя с.-г. выстаўкі, нарады аб колектывізацыі не павінны адбывацца без прадстаўнікоў ад краязнаўчых організацый. Тое, што цяпер дзеецца вакол колектывізацыі (шмат цікавага і агіднага!) трэба зафіксаваць, каб можна было скласьці потым гісторыю клясавай барацьбы за колгасы. ЦБК да лістапада месяца нічога не рабіла ў справе вывучэньня колгасаў. Часта матар'ял аб колгасах друкаваўся на задворках час. „Наш Край". Гэты часопіс школамі рэдка выпісваецца. Ні краязнаўчыя організацыі, ні школы ня маюць сувязі з дасьледчымі ўстановамі ці станцыямі. Напр., у Азарычах організаваўся вадамерны пункт і раённае т-ва нічога аб гэтым ня ведала. Гэтую працу яно само рабіла б. Цяпер ста-

віць пытаньне аб вызваленьні краязнаўцаў ад грамадзкай іншай працы, цяпер, калі мы перажываем момант колектывізацыі—несваечасова. Трэба ўмела падыходзіць да кожнага раённага працаўніка, каб яго працу можна было скарыстаць у краязнаўчых досьледах абагульненьнях.

*Рыбакоў* (Каленкавічы). Нас заклікаюць выказацца пад лёзунгам самакрытыкі. У мяне такое ўражаньне, што дакладчык ня спыніўся на ролі бядняцка-батрацкай часткі ў колектывізацыі. А калі мы забудземся на гэтую ролю, дык і вывучэньне будзе мець палітычна-няправільную ўстаноўку. Нельга спыняцца на тым, што бядняк ня ідзе ў колгасы, што серадняк вядзе за сабою. Трэба вызначыць вехі, плян у вывучэньні паасобных галін. Пры нашых тэмпах колектывізацыі поўна высьветліць стан яе немагчыма. Мы можам даць толькі апісаньне і дасьледваньне старых колгасаў. У іншых выпадках трэба абмежавацца фіксацыяй, трэба сабраць сыры матар'ял і праз некаторы час магчыма будзе даць малюнак. Кажучы аб вытворчай працы краязнаўцаў, трэба распрацаваць у гэтай галіне інструкцыі. Роля краязнаўцаў у складаньні вытворчых плянаў колгасаў павінна быць вялікай. Напр., у падняцьці ўраджайнасьці краязнаўцы павінны так вывучыць мясцовыя ўмовы, каб даць належны ўхіл гаспадарцы таго ці іншага колгасу. Другія пытаньні таксама зьяўляюцца актуальнымі і павінны цікавіць краязнаўцаў. Напр., торф. Праўда мы ня маем прылад, з якімі трэба дасьледваць масывы торфу, але самі сяляне паказваюць як тэрыторыю, так і прыблізную моцць заляга户ня. Торф такая самая важная проблема, як і колрух. Краязнаўчыя кадры ствараюцца на практыцы. Трэба сярод культурных сіл вёскі вылаўляць тых, якія могуць быць карыснымі. Трэба ўцягнуць і тых, якія з гарадоў камандыруюцца на працу ў вёску.

*Касьпяровіч* (ЦБК). Краязнаўчы рух пасьля Кастрычніка заклікаў перадаць навуку працоўным масам. А таму мы маем шэраг партыйных пастаноў аб уцягненьні ў краязнаўчую працу савецкіх працаўнікоў, партыйцаў, рабочых, сялян. Ня гледзячы на гэта, мы часта маем адрыў ад краязнаўчай працы. Як напр., Бабруйскі музэй дзякуючы такому адрыву знаходзяцца ў дрэнным стане. Гэты разрыў трэба заўважыць між краязнаўствам і навукай. Тое самае заўважваецца цяпер у нас у навукова-дасьледчых інстытуцыях. А таму мы бачым зьніжэньне карысьці досьледаў краязнаўцаў і самых інстытуцый.

Вытворчае краязнаўства павінна быць накіравана на дапамогу социялістычнаму будаўніцтву. Таксама трэба зрабіць перелом у вывучэньні гуманітарных пытаньняў, улічыць тэрміновасьць і актуальнасьць таго ці іншага пытаньня. Мы маем прыклады, што ўсякім пытаньнем можна зацікавіць масы. Каля аднае чыгуначнае станцыі служачыя на працягу году рабілі адлічэньні ад свайго заробку на вядзеньне археолёгічных досьледаў.

Падрыхтаваных краязнаўцаў мала. І тэмпы разгортваньня працы ЦБК не адпавядаюць сучасным запатрабаваньням. ЦБК ня мае спэцыялістых-экономістых, а таму інструкцыі ў належнай галіне экономікі выпрацоўваюцца са спазьненьнем. Часопіс „Наш Край" трэба пашырыць—гэтага вымагае стан нашага краязнаўства. Пытаньне аб разгортваньні краязнаўчага руху ў колгасах новае. Пры вялікіх колгасах неабходна організоўваць краязнаўчыя т-вы, і на гэта колгасы павінны даваць сродкі.

Неабходна ліквідаваць нацыянальныя сэкцыі пры т-вах краязнаўства. Яны цяпер зьяўляюцца непатрэбнымі. Музэі трэба організаваць на новых прынцыпах. ЦБК павінна апрацаваць дакладную інструкцыю аб музэях, паказаўшы нават, якія экспонаты трэба даць у музэях.

*Крукоўскі* (Мозыр). Кожны год мы гаворым, што краязнаўства—штаб социялістычнага будаўніцтва. І некаторыя краязнаўцы ўспрыймаюць гэты лёзунг наіўна. А ў сапраўднасьці толькі $^1/_3$ краязнаўчых організацый пачынае ісьці па шляху социялістычнага будаўніцтва. Які склад краязнаўчых т-ваў? У некаторых мясцох краязнаўчы актыў—гэта тыя, якія адчуваюць за сабою грахі і якім трэба чым-небудзь замазаць свой неграмадзкі твар. І вось што можа выйсьці, калі такім краязнаўцам даручыць організацыю ці вывучэньне колгасу? А таму трэба пераглядзець наш краязнаўчы актыў.

Шмат нашых краязнаўчых організацый на мясцох ня прызнаны грамадзкімі. Віна ў гэтым з большага ляжыць на краязнаўцах. Трэба весьці барацьбу за прызнаньне. Мазырскае Т-ва мае ў гэтым некаторыя дасягненьні. Так напр. у Мазыры было разгорнута дарожнае будаўніцтва і плян дарожнага аддзелу прадбачыў завоз бруковага матар'ялу аж з Украіны. Акруговае Т-ва падало заяву, што можна гэты матар'ял знайсьці ў акрузе. Цэлы месяц мы біліся за мясцовы матар'ял і перамаглі, дзякуючы РСІ. Цяпер дарожны аддзел закідае нас паперамі. У нас часта бывае, што краязнаўцы зробяць добрую працу, але калі на месцы ня будзе сьмелых людзей, дык спэцыялісты гэтую працу зганьбяць. Спэцыялісты ня ідуць у організацыю. У нас яны ўступілі толькі пад націскам грамадзкасьці, бо мэргеля нашым спэцыялістам былі невядомы, а я паказваў ім у зборах т-ва. Трэба каб цэнтар урэшце ўключыў краязнаўства ў сыстэму будаўніцтва. Я хачу зьвярнуць увагу, якім чынам прыходзіцца працаваць. Яскравым прыкладам ёсьць шаўкоўніцтва, якім занялося Мазырскае т-ва. Мы пачалі разводзіць белую морву і паслалі ў Маскву здабытыя каконы. Сам далі заключэньне, што шоўк высокае

якасьці (3-4) і прапанавалі субсыдыю 1200 р. на далейшыя спробы. Раней нас асьмейвалі, звалі „людзьмі чарвівае працы“. А цяпер АВК бяз спрэчак дадаў па каштарысу 1500 р. і бюджэт акруговага т-ва цяпер узрос да 4700 р.+субсыдыя Масквы 1200 р. Мы мінулым летам зрабілі экспэдыцыю ў Нараўлянскі раён і ўзьнялі шэраг пытаньняў, якія трэба ня так разьвязваць, як на мясцох разьвязваюць працоўнікі—не краязнаўцы. Так, напр., мы дасьледвалі ў гэтым раёне лясны масыў і высьветлілі, што там ёсьць процэс забалачваньня. Між тым лясьніцтва замест мэліорацыйных прац праводзіць лесанасаджэньне. І мы цяпер вядзем бойку з Акр'ЗА.

*Дземяшкевіч* (Чэрвень). Мы чулі тут, як краязнаўчыя арганізацыі заваёўваюць свае грамадзкія правы. Але часам, ня гледзячы на жаданьне з боку т-ва, нічога не дасягаецца. Чэрвенскае т-ва існуе ўжо год. Шмат зроблена намі ў галіне зьбіраньня фольклёру і слоў жывой мовы. Шмат сабрана матар'ялаў па экономіцы раёну. Бяда, што агрономы і дактары дрэнна адносяцца да працы, а наш агроном нават компрометаваў краязнаўчую працу. У часе с.-г. выстаўкі ня даў т-ву выставіць свае экспонаты. Перашкодай у нашай працы зьяўляецца і адсутнасьць сродкаў. Наша т-ва праводзіла экспэдыцыі за сродкі сяброў. РВК і профсаюзныя органы не прызнаюць краязнаўчай працы. Менскае Акруговае Т-ва нічога ня робіць і мы больш сувязі маем з ЦБК. Большасьць настаўнікаў — асноўных краязнаўцаў — абходзіць краязнаўчую працу, ня гледзячы на тое, што програмы школ грунтуюцца на мясцовых матар'ялах. І тэма комплексу „Наш раён“ не распрацоўваецца. Усе стаячыя перад намі задачы можна тады выканаць, калі на мясцох будуць створаны моцныя краязнаўчыя ячэйкі, якім будзе дадзена матар'яльная і моральная дапамога з боку грамадзкіх організацый і савецкіх устаноў.

*Ластоўскі.* (Этн. катэдра БАН). Катэдра этнографіі Беларускай Акадэміі Навук мае найбольшы лік сваіх дапішчыкаў з краязнаўцаў. Да апошняга году гэты лік быў вялікім. Катэдра просіць краязнаўцаў і надалей не закідаць гэтай працы. Патрэба этнографічнай працы для сучаснага і будачага соцыялістычнага будаўніцтва бясспрэчна. Мы можам у прыклад прывесьці К. Маркса, які рабіў экономічныя досьледы і для гэтага часта карыстаўся этнографічнымі досьледамі. Апошнія трэба належна паставіць і тады досьледы аб перажытках старога жыцьця, якія існуюць у сялянскіх масах, будуць цікавымі і для соцыолёгі і для гісторыі культуры і для іншых навук. Таксама зьбіраньне фольклёру павінна весьціся з крытычнай устаноўкай, трэба ставіць сабе антырэлігійныя мэты, барацьбу са старым бытам, старой ідэолёгіяй і г. д. Этнографія ёсьць апісаньне народаў, іх жыцьця, звычаяў. Цяпер у нас выпрацоўваецца асобны від вясельля не падобны на старое. І мы ня маем добрага апісаньня, як яно цяпер адбываецца. Пераходны момант ад дробнага вясковага жыцьця да колгаснага дае шмат этнографічных матар'ялаў. Ад імя катэдры этнографіі я прасіў-бы краязнаўцаў зафіксоўваць увесь этнографічны матар'ял нашага часу: фольклёр, абрадовасьць, формы жыцьця, пераход у колгасы і г. д.

*Самцэвіч.* (Аддзел Прыроды і Гасп. БАН). Т. Пятровіч падкрэсьліў адставаньне навукова-дасьледчае працы ад будаўніцтва. У гэтым перашкода для працы краязнаўчых організацый. У плянах Аддзелу Прыроды і Гаспадаркі ня ўлічана праца краязнаўчых організацый. А краязнаўчыя організацыі ня ведаюць плянаў гэтых інстытуцый. Экспэдыцыі нашых дасьледчых устаноў праводзяцца бяз ведама і належнай падрыхтоўкі мясцовых краязнаўчых організацый. ЦБК павінна краязнаўчую працу інакш організаваць. Цяпер кожная краязнаўчая організацыя бярэ для вывучэньня, што захоча. Трэба было-б абраць некалькі найбольш актуальных пытаньняў, разьмеркаваць іх па раёнах і кіраваць гэтай працай. ЦБК павінна ўзяць на сябе вывучэньне быту рабочых. А для комплекснага вывучэньня раёнаў трэба пераглядзець устаноўкі, дадзеныя ў програме Вірскага, бо яны ўстарэлі на сёнешні дзень.

*Поляк.* (Віцебск). ЦБК вінавата ў тым, што ў 1926 г, у краязнаўчай працы была іншая ўстаноўка. Аднабаковасьць у краязнаўчай працы і цяпер ёсьць. Слоўнікавая праца, вывучэньне прыроды яшчэ вядуцца, а вывучэньне экономікі слаба. У ЦБК няма працаўніка, які заняўся-б гэтай працай. З другога боку ў краязнаўчай працы ёсьць засільле настаўнікаў, а таму і праца мае чыста інтэлігенскі ўхіл. Трэба іншыя кадры далучыць да гэтай працы. Нам трэба правесьці ня толькі перарэгістрацыю, але і чыстку сваіх шэрагаў. Мала ў нас сувязі з Акр. плянам. У Віцебску сувязь выявілася ў тым, што на пасяджэньне т-ва прышоў прадстаўнік Акрпляну і нават не падрыхтаваўся да дакладу. Нашы акруговыя і раённыя т-вы адарваны ад экспэдыцый, якія выяжджаюць з цэнтраў. Трэба каб мясцовыя працаўнікі ўключаліся ў склад экспэдыцый ці за кошт цэнтру ці ў крайнім выпадку за свой кошт. „Наш Край“ адзіны наш краязнаўчы часопіс трэба павялічыць.

*Рак.* (БАН). У БССР ёсьць 100000 саматужнікаў. Гэта азначае 200 чалавек на тысячу. На саматужную прамысловасьць розныя погляды. Пастановы партыйных органаў падкрэсьліваюць вялікую ролю саматужнай прамысловасьці нават у момант колектывізацыі. Праўда цяпер павінен зьмяніцца характар саматужнай прамысловасьці і з саматужнікаў-індывідуалаў ствараюцца колектывы. Маючы вялікі лік саматужных промыслаў, трэба правесьці вучот іх, мець іх на ўвазе пры колектывізацыі, пры складаньні плянаў колгасаў. У гэтым павінны прыняць удзел краязнаўчыя організацыі. Другая задача ў працы

краязнаўцаў—вывучэньне сыравіны раёну, адшуканьне новых промыслаў. Трэцяя задача—вывучэньне рэконструкцыйных зьмен, якія адбываюцца цяпер у саматужнай прамысловасьці.

*Юшчанка* (Цэнтрархіў). Некаторыя таварышы выказваліся, што непатрэбны матар'ял трэба ў архіў здаваць. Гэта ня правільны погляд. Архіў ёсьць установа, якая адлюстроўвае наша жыцьцё і працу. Аб ролі архіваў я буду гаварыць. Цэнтрархіў намеціў плян працы, каб наблізіць яе да пасьпяховага правядзеньня індустрыялізацыі краіны. У гэтым Цэнтрархіву могуць дапамагчы краязнаўчыя арганізацыі. На тэрыторыі БССР ёсьць шмат матар'ялаў, якія знаходзяцца ў прыватных руках (напр., у Чачэрску ёсьць матар'ялы, якія ілюструюць эканоміку пачатку XIX ст.), ёсьць матар'ялы, якія прадаюцца, як непатрэбныя (Чыгуначнае Праўленьне ў Гомелі). Дзьве шафы архіўных матар'ялаў у Камарынскім РВК зьнішчаны. Краязнаўцы на мясцох шмат ведаюць аб такіх фактах. У далейшым краязнаўцы павінны ахоўваць усё гэта. Гэтыя матар'ялы павінны краязнаўцамі апрацоўвацца, а не марнавацца. Архіўнае Кіраўніцтва БССР прапануе такія матар'ялы здаваць. На мясцох органы ўлады ня добра адносяцца да краязнаўства. У Камарынскім раёне вынікам працы краязнаўцаў быў музэй з 3-х аддзяленьняў—агрономічнага, вэтэрынарнага і археолёгічнага. Але коопэрацыя адчыніла сталоўку. Патрэбна было памяшканьне і не знайшлі лепшага выхаду, як выкінуць музэй. Мала мець сувязь т-ва з РВК, трэба каб РВК даваў і сродкі на гэтую працу.

*Глускіна* (Музэй рэволюцыі). Вывучэньне гісторыі рэўруху — адна з актуальных задач у нашай працы. Нам трэба высьвятліць шмат гістарычных падзей, напр.: сялянскія рухі XVIII ст., паўстаньне 1863 г., народніцтва, рэволюцыя 1905 г., пэрыод рэакцыі і г. д. Трэба каб краязнаўцы дапамаглі Гістпарту і Музэю рэволюцыі ў зьбіраньні і першай апрацоўцы матар'ялаў з гісторыі рэўруху. „Наш Край“ на сваіх старонках ня мае матар'ялаў рэўруху, а таму ён мала пашыраны сярод шырокіх мас. Часопіс толькі рэгіструе зьявы. Програмы вывучэньня колгасаў ня вытрыманы поўнасьцю.

*Славін* (Бабруйскі музэй). Я хацеў-бы пагаварыць аб працы мясцовых музэяў. Т. Касьпяровіч сказаў, што Бабруйскі музэй у хаотычным стане і робіць дрэннае ўражаньне. Я зьбіраў гэты музэй і нясу поўную адказнасьць за працу яго. Правільна, што партыйныя органы не ў належнай меры дапамагаюць Бабруйскаму музэю, але музэй вядзе культурную працу і гэта могуць сьцьвердзіць інструктары ЦБКі т. Казак.

*Жураўскі* (ЦБК). У дакладах т. Пятровіча і т. Казака вызначаны важнейшыя задачы социялістычнага будаўніцтва. Т. Пятровіч падкрэсьліў патрэбнасьць комплексных апісаньняў раёнаў. У некаторых краязнаўцаў зьявілася думка, што вызначаная праца непасільна. Я лічу, што яна пасільна. Будуць і слабыя працы. Мы ня ўвесь матар'ял, які атрымоўваем з месц, рэалізуем, але да кожнага паведамленьня адносімся ўважліва, дапамагаем пачынаючым краязнаўцам. На гэты шлях павінны стаць і мясцовыя краязнаўчыя арганізацыі. Няправільна думае т. Гранкоўскі, што фэннагляданьні вучнёўскіх гурткоў нікуды ня варты. З нагляданьняў мы бярэм найлепшыя і верагодныя. Артыкул аб фэннагляданьнях, зьмешчаны ў № 12 за 1929 г. вельмі цікавы. Геофіз цяпер з ЦБК трымае сувязь і будзе надалей дапамагаць краязнаўцам у вядзеньні фэнолёгічных нагляданьняў.

Фольклёрнымі матар'яламі завалены шафы, часткова з гэтага матар'ялу зроблен адбор і падрыхтавана праца ў друк, хоць некаторыя працаўнікі этнографічнае катэдры і называлі дасланы матар'ял брудам. Цяпер-жа погляд зьмяніўся.

Праца па інструктаваньню вялася і шляхам выездаў і пісьмова, але аб нашых інструкцыях няма выказаў з месц.

Наша програма па вывучэньню колгаснага руху ня зусім удалая, у ёй шмат увагі аддадзена агульнаму фону разьвіцьця колектывізацыі, а таму ў апісаньнях, якія дасылаюцца згодна гэтай програмы, гэта і мае перавагу.

Краязнаўчыя экспэдыцыі сябе апраўдалі. У часе іх праводзіцца і інструктаваньне мясцовых краязнаўцаў.

*Касьпяровіч* (ЦБК). У сувязі з маім выступленьнем два пытаньні набылі некаторую загостранасьць. Гэта пытаньне аб падрыхтоўцы краязнаўцаў і Бабруйскім музэі. Я лічу, што трэба зьвярнуць увагу на падрыхтоўку краязнаўцаў, на перабудову музэйнай працы. Краязнаўчыя музэі павінны быць катэдрай социялістычнага будаўніцтва.

*Заключная прамова т. Пятровіча.*

Працу краязнаўцаў нельга абмежаваць вельмі вузкім колам пытаньняў. Наш 5-гадовы плян ня ведае роўных сабе тэмпаў. Нават у Амэрыцы, якая сьцягнула ў часе вайны шмат багацьцяў, прырост быў ніжэйшым. Цяпер, калі мы сталі на шлях рэконструкцыі нашай гаспадаркі, дык зьявілася патрэба вызначыць генэральны плян па 15 год. За 15 год наш узрост гаспадаркі павялічыцца пры ўсялякіх няспрыяльных умовах у 50 разоў. Буржуазія ўзьнімае трывогу адносна нашых плянаў, а частка буржуазных экономістаў (напр., камісія Гувэра) прызнаюць правільнасьць гэтых плянаў. Тэмпы нашага шпаркага разьвіцьця—паказчыкі перавагі нашай сыстэмы над капіталістычнай. А таму ў сьвятле нашых задач няправільна гаварыць аб непасільнасьці гэтых задач для краязнаўства. Наша адставаньне навукі ад тэмпаў социялістычнага будаўніцтва трэба

ліквідаваць. Праўда, агрохэмічныя досьледы не для ўсіх краязнаўчых організацый пасільны, але геоботанічныя пасільны. Комплекснае вывучэньне раёнаў нам неабходна, бяз гэтага немажліва пасьпяховае разгортваньне і паглыбленьне рэконструкцыйнай працы. Пры вызначэньні агрокомбінатных раёнаў мы кіраваліся тым, каб адшукаць больш аднародныя ўмовы, аднолькавыя глебы і г. д. Бралі пад увагу і энэргетычныя рэсурсы раёнаў. Апісаньні раёнаў патрэбны комплексныя, але калі нельга адразу аўладаць комплексным вывучэньнем раёну, дык трэба вывучаць часткамі, каб потым у выніку можна было даць комплекснае апісаньне.

Адносна недаацэнкі краязнаўчай працы мясцовымі ўстановамі і організацыямі трэба сказаць, што аўторытэт краязнаўчай організацыі набываецца працай, а не загадамі. У прыклад можна паставіць плянавыя камісіі, якія спачатку ня мелі аўторытэту, але працай заваявалі яго. Тое самае будзе і з краязнаўчымі організацыямі. Трэба ім наблізіцца да конкрэтных задач соцыялістычнага будаўніцтва. Трэба прыглядзецца і да складу краязнаўчых організацый. У іх ёсьць людзі політычна-індыфэрэнтныя. З такім складам краязнаўчых організацый ніхто лічыцца ня будзе.

*Заключная прамова т. Казака.*

Мой даклад выклікаў некаторыя заўвагі політычнага характару. Т. Рыбакоў сказаў, што ў дакладзе не падкрэсьлена роля бядняцка-батрацкіх мас у колгасным будаўніцтве. Мой даклад ня быў дакладам аб колгасным будаўніцтве, а былі паказаны толькі паасобныя моманты колгаснага будаўніцтва, каб падкрэсьліць адпаведныя гэтаму задачы краязнаўчай працы. Т. Гранкоўскі і Поляк гаварылі, што ў краязнаўчым руху ня было выразнае ўстаноўкі. Гэта ня верна. Правільная ўстаноўка была дадзена яшчэ ў 1926 г. краязнаўчым зьездам, які асноўнай задачай краязнаўчай працы прызнаў дапамогу соцыялістычнаму будаўніцтву. Праўда рашучасьці ў выкананьні гэтага ня было. У першыя часы мы больш займаліся гуманітарнымі навукамі. Цяпер мы можам узяць і бяром рашучы курс на вытворчае краязнаўства. Мы можам у гэтым напрамку даць і належныя мэтодычныя паказаньні. Належнае сувязі між краязнаўчымі організацыямі і плянавымі органамі ня было. Яе трэба ўстанавіць. Некаторыя спэцыялісты, ня ведаючыя краязнаўчае працы, належным чынам не ацэньваюць ролі гэтае працы ў соцыялістычным будаўніцтве. Называюць краязнаўчую працу саматужніцкай. З гэтымі настроямі трэба весьці барацьбу. Працу краязнаўчых організацый трэба ўключыць у плян соцыялістычнага будаўніцтва. Краязнаўства яшчэ не паўсюды належна популярызавана, для адных т-ваў працу популярызацыйную трэба правесьці, для другіх т-ваў вытворчая краязнаўчая праца сама за сябе агітуе. Т. Камінскі правільна падкрэсьліў, што мы павінны ня толькі вывучаць край, але і будаваць яго. Т. Варпаховіч папракнуў ЦБК, што мы ня выканалі рэзолюцый мінулага году. Рэзолюцыю мы прыймалі орыентавальна на 2 гады, з гэтае прычыны мы яшчэ ня ўсё вызначанае ў рэзолюцыі выканалі. Ставіць пытаньне аб разгрузцы цяпер краязнаўцаў ад іншай грамадзкай працы немажліва. У пэрыод клясавай барацьбы кожнаму трэба працаваць там, дзе паставіць Савецкая ўлада і Партыя—нам трэба заняцца вывучэньнем форм краязнаўчай працы ў колгасах. Пытаньне аб нацсэкцыях у краязнаўчых організацыях своечасова ўзьнімаецца, але няправільна думае т. Касьпяровіч, што стварэньне гэтых сэкцый было ўступкай нацыяналістам. Вытворчых сэкцый пры ЦБК, як экономічная, прыродазнаўчая і г. д., ня трэба засноўваць, бо ЦБК існуе пры БАН і камісіі, катэдры БАН дапамагаюць ЦБК. Зьмест нашай краязнаўчай працы на бліжэйшы час вызначаны. Гэта—вытворчае краязнаўства. Нам трэба, апрача гэтага, заняцца вывучэньнем рэлігійных настрояў у мэтах антырэлігійнай барацьбы. Далей краязнаўчым організацыям трэба рашуча ачысьціць свае шэрагі ад варожых элемэнтаў. Трэба перабудаваць краязнаўчыя музэі, каб яны дапамагалі соцыялістычнаму будаўніцтву. Нашу краязнаўчую працу мы павінны аб'яднаць з працай дасьледчыкаў-колгасьнікаў. У гэтым напрамку мы пачалі працу. Далей неабходна разгарнуць соцспаборніцтва, крытыку і самакрытыку. Неабходна імкнуцца рэалізаваць сваю працу ў друку. Краязнаўчыя т-вы мала зрабілі ў гэтым напрамку. Кажучы аб неабходнасьці вытворчага краязнаўства, ня трэба закідаць іншыя галіны працы—лексыку колгасаў, прадпрыемстваў і г. д. Але павінна быць пропорцыя. На першым месцы павінна быць вытворчае краязнаўства.

Няправільна гаварылі, што „Наш Край" толькі рэгіструе факты. Часопіс робіць і вывады. Ёсьць артыкулы бяз вывадаў, бо ня ўсе краязнаўцы здольны рабіць вывады. Т. Касьпяровіч адносна Бабруйскага музэю выказаў сваю асабістую думку. Гэты музэй каштоўны і вядзе карысную працу. Падтрыманьньне музэйнай працы з боку партыі было. Т. Славін вельмі адданы справе Музэю, але ён ня ўцягваў масы ў краязнаўчую працу, сам адходзіў ад гэтай працы. У апошні час ён выправіў гэты недахоп.

## РЭЗОЛЮЦЫЯ
### аб становішчы краязнаўчай справы ў БССР.

Заслухаўшы справаздачу Ц. Б. Краязнаўства аб становішчы краязнаўчай справы ў БССР, III Ўсебеларуская Краязнаўчая Конфэрэнцыя констатуе:

I. Краязнаўчая справа ў БССР, разгарнуўшаяся ў пачатку свайго разьвіцьця ў шырокі грамадзкі рух, у апошнія гады па-

слабіла тэмп свайго разьвіцьця і стала значна адставаць ад агульных тэмпаў социялістычнага будаўніцтва.

II. Краязнаўчы рух у БССР, ня гледзячы на правільную і выразна вызначаную І-ым і асабліва ІІ-ім Усебеларускімі Зьездамі мэтавую ўстаноўку — дапамагаць социялістычнаму будаўніцтву — да гэтага часу ня змог перавесьці цалкам сваёй дзейнасьці на новыя рэйкі, вызначаныя ў пастановах названых зьездаў, г. зн. у бок вывучэньня вытворчага краязнаўства: частка краязнаўчых організацый ($^1/_3$) у сваёй дзейнасьці далей організацыйнага пэрыоду не пайшла, другая частка (прыблізна такая-ж) хоць і займаецца дасьледчай працай, але ў сваёй дзейнасьці ўдзяляе выключную ўвагу пытаньням малаактуальным для сучаснага моманту (вывучэньне старажытнасьці) і толькі трэцяя частка мясцовых краязнаўчых організацый наблізіла сваю працу да патрэб социялістычнага будаўніцтва і занялася вывучэньнем пытаньняў вытворчага краязнаўства.

III. Прычынамі такога становішча краязнаўчага руху ў БССР зьяўляюцца: 1) слабая популярызаванасьць значэньня краязнаўства сярод шырокай грамадзкасьці, 2) недастатковая ўвага да краязнаўчай працы з боку мясцовых грамадзкіх організацый, 3) слабая актыўнасьць у некаторых раёнах з боку вясковай інтэлігенцыі (дактароў, агрономаў, каморнікаў, лесаводаў і інш.), 4) слабая ўвага пастаноўцы краязнаўчай справы ў ВНУ і тэхнікумах, 5) недахоп добра падрыхтованых краязнаўцаў на мясцох, 6) частая перакідка краязнаўцаў з аднаго месца на другое.

IV. Апрача ўсяго гэтага, адной з прычын, якая затрымала перавод краязнаўчай сеткі ў бок вытворчага краязнаўства, зьяўляецца адсутнасьць мэтодычна-кіраўнічых указаньняў у гэтым напрамку: да апошняга часу ня было належных мэтодычных указаньняў і дапамогі ў справе пераводу краязнаўчай сеткі на новыя рэйкі (вытворчае краязнаўства) з боку навукова-дасьледчых устаноў БССР вытворчага характару (Аддзел Прыроды і Гаспадаркі БАН, і Навукова-Дасьледчы Інстытут сельскае і лясное гаспадаркі імя Леніна) навук. даследчыя ўстановы Наркамзему; ЦБ Краязнаўства і мясцовым краязнаўчым організацыям прыходзілася самім адшукваць зьмест і мэтоды працы.

V. Значным недахопам у працы краязнаўчых організацый зьяўляецца тое, што да гэтага часу не разгарнуліся ў краязнаўчай дзейнасьці агульныя мэтоды социялістычнага будаўніцтва, як социялістычнае спаборніцтва, гэтак і самакрытыка.

VI. Слабым месцам у краязнаўчай справе зьяўляецца адсутнасьць дагаворанасьці з НКА па лініі кіраўніцтва школьна-краязнаўчым рухам.

VII. Слабай таксама зьяўляецца краязнаўчая праца і сярод нацыянальных меншасьцяў.

VIII. Як недахоп, адзначаецца яшчэ тое, што да тэтага часу процант уцягненьня ў краязнаўчую працу рабочых і бядняцка-серадняцкіх мас сялянства вельмі нязначны (2% рабочых і 4% сялян).

IX. У мэтах зьнішчэньня адзначаных недахопаў і паляпшэньня краязнаўчае справы, III Усебеларуская Краязнаўчая Конфэрэнцыя п а с т а н а ў л я е:

1. Прапанаваць ЦБ Краязнаўства ў далейшай сваёй працы ўзяць рашучы курс у справе пераводу ўсяе краязнаўчае сеткі на новы напрамак, у бок організацыі вытворчага краязнаўства.

Прызнаць на бліжэйшы пэрыод асноўнымі пытаньнямі краязнаўчае дзенасьці мясцовых краязнаўчых організацый: вывучэньне пытаньняў, зьвязаных з індустрыялізацыяй краіны, вывучэньне энэргетычных рэсурсаў, вывучэньне колгасаў колгаснага руху, паасобных проблем падвышэньня вытворчасьці сельскай гаспадаркі, вывучэньне экономраёнаваньня і экономічнага стану раёну, вытворчых прыродных сіл, рэволюцыйнага руху, праяў новага быту рэлігійных настрояў і антырэлігійнага руху; тэму — вывучэньне і дасьледваньне колгаснага руху—зрабіць абавязковай па ўсёй краязнаўчай сетцы.

2. У мэтах найлепшага мэтодычнага накіраваньня працы краязнаўчых організацый па дасьледваньню і вывучэньню пытаньняў вытворчага характару прасіць НКЗ, Прэзыдыум БАН і Дырэкцыі НДІ, Інстытуту Прамысловасьці даць даручэньне сваім установам распрацаваць разам з ЦБК популярныя мэтодычныя ўказаньні па адпаведных пытаньнях і выкарыстоўваць краязнаўчы рух для распрацоўкі паасобных пытаньняў дасьледчай працы ў краіне.

3. Даручыць ЦБК дзеля ўвязкі працу мясцовых краязнаўчых організацый з пляна-вымі органамі, паставіць пытаньне гэтае перад Дзяржаплянам з мэтаю даць адпаведныя дырэктывы ў гэтым кірунку мясцовым пляна-вым органам.

4. Прызнаць правільным напрамак працы ЦБК па організацыі мэтодычных курсаў краязнаўства. Лічыць патрэбным у далейшым працягваць гэтую працу, стаўшы на шлях організацыі курсаў у акруговым маштабе.

5. Даручыць ЦБК дагаварыцца з НКА аб вызначэньні пэўнага зьместу і форм школьна-краязнаўчай працы, як у парадку програмным гэтак і па лініі грамадзкай. У мэтах лепшай пастаноўкі выкладаньня краязнаўства ў тэхнікумах ЦБК разам з НКА організаваць адпаведныя курсы для выкладчыкаў краязнаўства ў тэхнікумах. ЦБК дагаварыцца з НКА, каб курс мэтодыкі краязнаўства ў тэхнікумах, пры пераглядзе пляна ў тэхнікумаў у бок скарачэньня, ня быў выключаны з програмы тэхнікумаў. Дагаварыцца з рэдакцыяй час. „Асьвета“, каб больш зьмяшчаліся ў гэтым часопісу матар'ялы па школьнаму краязнаўству.

Адзначаючы недакладнасьць падлікавага матар'ялу аб стане краязнаўчай справы ў

БССС лічыць патрэбным правесьці перарэгістрацыю членаў да 1-га мая, а ўвосень к 1 сьнежня правесьці падлік стану краязнаўчай справы, з тым каб да новага году мець ясны малюнак стану краязнаўчай справы ў БССР. Пры правядзеньні перарэгістрацыі ўлічыць выяўленьне клясавага твару складу краяведаў і ачысьціць краязнаўчыя арганізацыі ад чужых і варожых элемэнтаў.

7. ЦБК вывучыць і ўдакладніць арганізацыйныя формы краязнаўчых адзінак у колгасах і ўзяць напрамак на пашырэньне краязнаўчае сеткі на ўсе буйныя колгасныя пункты, зьвярнуўшы ўвагу на наладжаньне краязнаўчай справы ў першую чаргу ў Рагачоўска-Жлобінскім агрокомбінаце і перанясеньне вопыту працы гэтых арганізацый на іншыя.

8. Прымаючы пад увагу, што ўжытыя ЦБК да гэтага часу захады па пашырэньню краязнаўчых гурткоў на прадпрыемствы не далі належных вынікаў і лічачы гэтае пытаньне ў сучасны момант насьпеўшым, даручыць ЦБК паставіць гэтае пытаньне на абгаварэньне культаддзелу ЦСПСБ з тым, каб пашырыць яго ў масы рабочых.

9. Зьвярнуцца да ўсіх краязнаўчых арганізацый БССР з заклікам стаць у сваёй працы на ўжываньне мэтоду социялістычнага спаборніцтва, уносячы ў об'екты соцспаборніцтва найбольш актуальныя пытаньні, выходзячы з мясцовых умоў.

10. Разгарнуць самакрытыку краязнаўчай дзейнасьці як на сходах па краязнаўству, гэтак і ў друку, выяўляючы ўсе недахопы ў працы.

11. Узяць курс у далейшай працы па краязнаўству сярод нацыянальных меншасьцяў на вывучэньне пытаньняў мовы, быту, культуры і іншых асаблівасьцяй тэй ці іншай нацыянальнасьці.

12. ЦБК заняцца вывучэньнем організацыі мясцовых краязнаўчых музэяў, выходзячы з сучасных абставін і выдаць не пазьней 1-га верасьня 1930 г. прыкладны плян і інструкцыю для організацыі раённага музэю і яго працы.

13. Адзначаючы, як дадатны бок, выпуск некаторымі краязнаўчымі організацыямі сваіх рукапісных часопісаў, зьвярнуць увагу ўсіх краязнаўчых організацый стаць на шлях абавязковай рэалізацыі сваёй продукцыі ў выглядзе выданьня часапісаў, організацыі музэя, збораў колекцый і інш.

14. ЦБК узяць курс на пашырэньне і ўзмацненьне сеткі членаў-корэспондэнтаў.

15. Конфэрэнцыя заклікае ўсе краязнаўчыя організацыі прыняць самы актыўны ўдзел у организуемай у Менску выстаўцы сельскае гаспадаркі і прамысловасьці як працаю ў мясцовых выставачных камісіях, гэтак і па адбору і дасылцы матар'ялаў на выстаўку, кіруючыся ўказаньнямі ЦБК зьмешчанымі ў нумары 10 часопісу „Наш Край“, а таксама дадатковымі паказаньнямі, што будуць зьмешчаны ў „Нашым Краі“.

16. Прызнаючы, што памеры „Нашага Краю“ ў сучасны момант не даюць магчымасьці скарыстаць усяго неабходнага матар'ялу мясцовых краязнаўчых організацый, лічыць безадкладным павялічэньне часопісу, аб чым паставіць пытаньне перад Прэзыдыумам БАН.

17. Заклікаюць усе краязнаўчыя організацыі прыняць актыўны ўдзел у правядзеньні трохмесячніка беларускай пролетарскай культуры і культуры нацменшасьцяў, кіруючыся пры гэтым паказаньнямі ЦБК, зьмешчанымі ў № 1 „Нашага Краю“ за 1930 г.

18. Прасіць, каб выданьні БАН, НДІ, Інстытуту Прамысловасьці, Т-ва па вывучэньню БССР пры Акадэміі Сельскае Гаспадаркі, Беларускай С.-Г. Акадэміі, неабходныя для працы краязнаўчых організацый, дасылаліся к раязнаўчым організацыям.

19. Популярызаваць найбольш важныя пляны навукова-дасьледчых інстытуцый сярод краязнаўчых організацый праз зьмяшчэньне ў аддзеле „Хроніка“ часопісу „Наш Край“.

20. Даручыць акруговым таварыствам краязнаўствам распрацаваць пяцігадовыя пляны краязнаўчай працы на акрузе і ўключыць іх у агульныя пяцігадовыя пляны соцыялістычнага будаўніцтва.

ЦБК даслаць мясцовым організацыям свой плян працы на пяць год.

### III. Аб I Усебеларускай Выстаўцы Сельскай Гаспадаркі і Прамысловасьці.

*Інформацыя прадстаўніка Выстаўкому т. Таўкача.*

Дзьве ідэі пакладзены падставаю для I Усебеларускай Выстаўкі С.-Гаспадаркі і Прамысловасьці: 1) паказаць ролю індустрыялізацыі ў пабудове сельскае гаспадаркі, яе ролю паказаць так, каб кожны селянін зразумеў, што адзіны выхад з жабрацтва—колектывізацыя сельскай гаспадаркі; 2) выпукліць значэньне аграмаджанага сэктару нашай гаспадаркі. У зьвязку з гэтым выстаўка будзе школай індустрыялізацыі і колектывізацыі, якая можа дапамагчы бядняцка-серадняцкім масам вёскі пасьпяхова выканаць пяцігадовы плян разьвіцьця гаспадаркі БССР, палепшыць культурна-бытавыя ўмовы жыцьця працоўных мас. Выстаўка павінна будзе паказаць і барацьбу з капіталістычнымі элемэнтамі, пераканаць, што ўтварэньне Савецкай улады забясьпечвае шпаркая разьвіцьцё нашай краіны, што толькі на базе індустрыялізацыі і колектывізацыі Савецкая Беларусь зможа вырашыць задачы пераможнага соцыялізму. Выстаўка мае вялізнае політычнае і экономічнае значэньне. Яна будзе прыстасавана да 10-годзьдзя вызваленьня Беларусі ад белапалякаў. Выстаўка пакажа нашы дасягненьні за 10 год. Месца для выстаўкі абрана па Барысаўскаму тракту, у асяродку дасьледча-паказальных станцый. На плошчы 75-га будуць дэманстрава-

ны жывыя засевы (18 севазваротаў—9 га), 2 га гародных расьлін, 6—пладовыя дрэвы, гадавальнікі яравых і азімых, уплыў розных штучных угнаеньняў і г. д. Па генэральнаму пляну на выстаўцы будзе 16 аддзелаў: 1) прамысловасьці, 2) соцыялістычнай гаспадаркі, 3) мэханізацыі і электрыфікацыі, 4) працы і быту, 5) лясной гаспадаркі і г. д. Усё будзе разьмешчана ў 40 павільёнах. Плошча для выстаўкі ўжо падрыхтавана. Выкарчавана 35000 пнёў. Засеяны азімыя, падрыхтавана поле для яравых. Пабудавана ўжо 22 павільёны і 6 павільёнаў сталага тыпу. Да адчыненьня трэба яшчэ пабудаваць 20 павільёнаў лёгкага тыпу. Па тэрыторыі праведзена вадаправодная сетка, трэба яшчэ правесьці электрычнасьць і пракласьці рэйкі для трамваю. Да гэтага часу падрыхтоўчая праца да выстаўкі марудна ішла. Апошні час справа троху палепшылася. Прыбылі сэзоньнікі. З будаўніцтвам мы справімся. З падрыхтоўкай экспонатаў у нас слабая праца вядзецца. Высьветлілася, што акругі і раёны амаль нічога ня робяць. Калі ня будзе пералому ў гэтым, дык мы можам своечасова не адчыніць выстаўку. Популярызацыя выстаўкі слаба праходзіць. Профсаюзы і культасьветныя ўстановы не дапамагаюць у гэтым. Краязнаўчыя організацыі таксама мала зьвярталі на гэта ўвагу. А ім неабходна было-б на выстаўцы паказаць вывучэньне вытворчасьці, прыродных сіл, новага быту і абмеркаваць конкрэтныя пляны ўдзелу краязнаўчых організацый на выстаўцы. Краязнаўчыя організацыі яшчэ не зьвязаліся з выстаўкомамі. Толькі Мазырскае Акруговае Т-ва мае сувязь з Акруговым Вастаўкомам. Выставачнай працы мы павінны надаць належныя тэмпы, у гэтым павінны дапамагчы краязнаўчыя організацыі. Яны павінны шчыльна зьвязацца з выстаўкомамі і разгарнуць падрыхтоўчую працу на мясцох. Толькі ў гэтых умовах I Усебеларуская Выстаўка своечасова адчыніцца.

*Смоліч* (Аддз. Прыроды і Гаспадаркі). Я хачу, каб былі спрэчкі па гэтаму пытаньню. Пасьля інформацыі ясна, што краязнаўчыя організацыі павінны прыняць удзел у выстаўцы. Гэты ўдзел можа быць пасыўным: дасылка фотографіі, выкапняў і г. д. Але на выстаўцы павінна сваё месца мець і краязнаўства і трэба было-б падсумаваць і паказаць, што зроблена краязнаўчымі організацыямі. Мы жывем у часе соцспаборніцтва і магчыма ў парадку спаборніцтва мобілізаваць краязнаўчыя організацыі для ўдзелу ў выстаўцы, трэба было-б даць вынікі вывучэньня якога-небудзь пытаньня, напр., складаньне экономічных карт, узоры карысных выкапняў, добра было-б паказаць, якой павінна была-б быць краязнаўчая праца ў бліжэйшым будучым, паказаць, як трэба пераключыць, прыстасаваць краязнаўчую працу на патрэбы колектыўнай гаспадаркі.

*Жураўскі* (ЦБК). Зачытвае плян удзелу ЦБК і краязнаўчых організацый у выстаўцы.

**Мэты ўдзелу:**

1. Пропагандаваць ідэю краязнаўства сярод рабочых і сялянскіх бядняцка-серадняцкіх мас.
2. Паказаць зьмест краязнаўчай працы ў сувязі з соцыялістычным будаўніцтвам.
3. Паказаць мэтоды краязнаўчай працы.

### Аддзел I.

Краязнаўчая сетка, зьмест і мэтоды краязнаўчай працы (схэмы, дыяграмы, картаграмы, таблiцы).

1. Схэма краязнаўчай сеткі БССР.
2. Картаграма разьмеркаваньня краязнаўчых організацый па БССР.
3. Таблiцы (з дыяграмамі) вынікаў конкрэтнай працы краязнаўчых організацый БССР з 1925 г.
4. Узоры розных матар'ялаў і краязнаўчых збораў. (Слоўнікавыя карткі, фольклёрныя запісы, колекцыі, анкеты і інш.).
5. Картаграма з вызначэньнем пунктаў і тэрыторый БССР, апісаных і вывучаных краязнаўчымі організацыямі.
6. Карта краязнаўчых маршрутаў па БССР з паказчыкам адпаведнай літаратуры.
7. Сьпіс літаратуры з апісаньнем паасобных частак БССР.
8. Школьнае краязнаўства: узоры прац вучнёўскіх гурткоў, часопісы і іншае.
9. Сэрыі краязнаўчых фотоздымкаў і зарысовак:
   а) з прыроды БССР (60—80),
   б) з працы і тэхнікі (100—120),
   в) з культуры і быту (80—100),
10. Краязнаўчая выданьні БССР
   а) Комплекты „Нашага Краю“
   б) Мэтодычны зборнік краязнаўства
   в) Паасобныя апісаньні (адбіткі з прац),
   г) Рукапісныя часопісы,
11. Краязнаўчая картатэка.

### Аддзел II.

Узорны раённы краязнаўчы музэй (Асіпавіцкі, Слуцкі).

1. Карты раёну. (Як іх множыць).
2. Розныя ўзоры, зарысоўкі і фотоздымкі з прыроды раёну.
3. Таблiцы, дыяграмы аб вытворчай дзейнасьці рабочых і сялян раёну.
4. Узоры вытворчасьці: модэлі прыладаў, колекцыі тканін, начыньня, гэрбары і інш.
5. Картаграмы і дыяграмы аб колектывізацыі с.-г. ў раёне.
6. Фотоздымкі і зарысоўкі з жыцьця і працы колгасаў.
7. Узоры будоўлі, вопраткі і хатняга начыньня.
8. Фольклёрныя запісы.
9. Краязнаўчыя часопісы гурткоў і т-ваў раёну.
10. Дасьледчыя прылады краязнаўцы, экспэдыцыйнае абсталяваньне і інш.

На выстаўцы мяркуецца атрымаць пэўнае месца дзеля разьмяшчэньня экспонатаў і му-

зэю краязнаўства (50 кв. мэтраў сьценкі і 20 кв. мэтраў падлогі).

Удзел мясцовых краязнаўчых організацый павінен выявіцца ў падборы і падрыхтоўцы ўсіх матар'ялаў, якія будуць накіроўвацца на выстаўку па розных галінах гаспадаркі і культуры данай мясцовасьці.

У час выстаўкі прадстаўнікі ЦБК і іншых краязнаўчых організацый наладжваюць на выстаўцы і ў г. Менску і яго ваколіцах краязнаўчыя экскурсіі, чытаюць даклады, праводзяць гутаркі, праводзяць консультацыю па краязнаўчых справах.

Да краязнаўчага аддзелу на выстаўцы ЦБК выдае популярую брошуру.

Па зачыненьні выстаўкі ЦБК абагульняе ўдзел краяведаў у выстаўцы.

## РЭЗОЛЮЦЫЯ

### III-й Усебеларускай Краязнаўчай Конфэрэнцыі па дакладу аб 1-й Усебеларускай Выстаўцы сельскае гаспадаркі і прамысловасьці.

Заслухаўшы даклад Дырэкцыі 1-й Усебеларускай Выстаўкі с/г. і прамысловасьці, III-я Ўсебеларуская Краязнаўчая Конфэрэнцыя адзначае:

1) 1-ая Ўсебеларуская Выстаўка, якая прыстасована да 10-годзьдзя аслабаненьня Беларусі ад белапалякаў, мае вялізарнейшае значэньне ў перабудове народнае гаспадаркі БССР на новы соцыялістычны лад. Выстаўка адыграе вялікую ролю штурхача ў справе выкананьня пяцігадовага пляну, у справе індустрыялізацыі і колектывізацыі краіны, а таксама ў справе выяўленьня прыродных багацьцяў Рэспублікі, ступені іх скарыстаньня і перспэктыў далейшае эксплёатацыі.

2) Вельмі дрэнна ўцягнуты ў падрыхтоўчую працу навуковыя працаўнікі і наогул спэцыялістыя, у тым ліку і краязнаўцы, якія сваю працу не зьвязалі з падрыхтоўкай да выстаўкі. Недастаткова асьвятляецца ў друку, як ідзе падрыхтоўчая справа да выстаўкі.

Для забесьпячэньня пасьпяховасьці падрыхтоўчай працы да выстаўкі, лепшае яе організацыі і адчыненьня ў вызначаны тэрмін, III-я Ўсебеларуская Краязнаўчая Конфэрэнцыя лічыць неабходным:

1) Дырэкцыі выстаўкі ўжыць належныя захады да зьнішчэньня недахопаў у правядзеньні работ па організацыі выстаўкі, якія затрымліваюцца дзякуючы няўвязцы, ці нядбайных адносін з боку асобных організацый, ці працаўнікоў.

2) Даручыць ЦБ Краязнаўства распрацаваць конкрэтны плян удзельнічаньня ў падрыхтоўчай працы да выстаўкі, даўшы паказаньні акруговым Бюро прыняць самы актыўны ўдзел у працы выставачных камітэтаў, як акруговых, так і раённых, дапамагаючы ім сваімі ведамі і вопытам, як найлепш падрыхтавацца да выстаўкі, каб поўнасьцю выявіць усе мясцовыя мажлівасьці. Асаблівую ўвагу трэба ўдзяліць у пляне пытаньню новага быту.

3) Даручыць ЦБ і акруговым Бюро больш асьвятляць у друку падрыхтоўчую працу краязнаўчых організацый да выстаўкі.

4) Прасіць Дырэкцыю выстаўкі разаслаць краязнаўчым організацыям програму выстаўкі.

### IV. Інформацыі.

1) Інформацыя Інстытуту Мовы — т. Гарэцкі.

Ад імя Тэрмінолёгічнай Камісіі я прашу дэлегатаў конфэрэнцыі зьвярнуць увагу на зьбіраньне тэхнічных тэрмінаў. Рабочыя БССР маюць сваю тэхнічную тэрмінолёгію, трэба сабраць усе тэрміны на фабрыках і розных прадпрыемствах. Гэтая праца вельмі актуальная, бо цяпер Інстытут Мовы ўкладае тэхнічную тэрмінолёгію. Запісваць тэрміны трэба так, як вымаўляюць. Наша камісія праз ЦБК будзе дасылаць анкеты тэрмінолёгічнага характару. Сабраць тэхнічную тэрмінолёгію — ударная праца.

2) Інформацыя Дзяржаўнай Бібліотэкі — т. Бібіла.

3) Інформацыя Археолёгічнай Камісіі БАН т. Ляўданскі.

Археолёгічная Камісія просіць краязнаўчыя організацыі прыняць крокі да аховы археолёгічных помнікаў, якія могуць быць зруйнаваны пры колектывізацыі. Аб зарэгістраваных ужо помніках і складзеных археолёгічных картах просьба нас паведаміць. Камісія мае намер летам наладзіць у Жлобінска-Рагачэўскі раён экспэдыцыю, злучыўшы яе з антырэлігійнай пропагандай.

Ухвалілі:

Інформацыі ўстаноў БАН прыняць да ведама, даручыўшы ЦБК па гэтых пытаньнях распрацаваць адпаведныя паказаньні.

### II. Частка мэтодычная.

27/I Заслуханы даклады:

1. Організацыя вывучэньня раёну — даклад С. Жураўскага.
2. Экономічнае раёнаваньне Беларусі — даклад А. Смоліча.
3. Аб вывучэньні колгаснага руху — даклад В. Самцэвіча і садаклад С. Жураўскага.

Спрэчкі па дакладах.

(Дасьледчы Інстытут імя Леніна).

*Ярашчук.* Даклад т. Самцэвіча мяне не здаволіў, бо ў ім няма конкрэтных момантаў. Дасьледчая праца адстае ад колектывізацыі, адстае і тэорэтычная думка. Дакладчык дзеліць вывучэньне колгаснага руху на 2 моманты: вывучэньне паасобных колгасаў і вывучэньне паасобных галін колгаснага руху. Гэта памылкова. Паасобныя галіны нельга вывучаць ізолявана ад самых колгасаў. Вывучэньне буйных колгасаў пачынаецца толькі цяпер. Густая сетка краязнаўчых організацый спрыяе гэтаму вывучэньню. Трэба вывучаць, як праламляюцца задачы партыі ў

фактычнай працы па колектывізацыі, і сыгналізаваць аб усіх небясьпеках на гэтым фронце. Трэба зьбіраць такія матар'ялы: 1) аб прыродзе і экономічных умовах раёну, 2) аб глебе і рэльефе мясцовасьці, 3) аб прыродных умовах, 4) аб колькасьці насяленьня і шляхах зносін, 5) аб энэргетычных рэсурсах, 6) аб дробна-прамысловых прадпрыемствах, 7) аб коопэрацыі і яе прадпрыемствах і г. д. Трэба вывучаць ня гісторыю, а процэсы ўтварэньня колгасаў, як пераход простых коопэрацыйных форм у больш складаныя. Неабходна вывучаць і організацыю вытворчасьці, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на 1) вывучэньне організацыі працы, 2) разьмеркаваньне прыбыткаў, 3) характар і ступень аграмаджанасьці, 4) моманты клясавай барацьбы. Па ўсіх гэтых пытаньнях трэба апрацаваць падрабязную програму.

*Парэчын.* У сучасны момант горад павінен вучыцца ў вёскі ў пытаньнях колектывізацыі. Дакладчыкі гаварылі аб вывучэньні колгасаў з пункту гледжаньня гаспадарчага і культурнага, але нічога не казалі аб вывучэньні колгасаў у політычным напрамку: якое становішча будуць займаць сельсаветы ў раёнах суцэльнай колектывізацыі, ці магчыма іх замяніць праўленьнем колгасаў і г. д. Наконт клясавай барацьбы вельмі лёгка вылучыць адкрытыя контрэволюцыйныя выступленьні і больш цяжка замаскаваныя выступленьні, асабліва калі ў колгасах усё абагулена. Трэба падрабязна вывучаць, як сяляне вырашаюць пытаньне організацыі колгаснага жыцьця.

*Шлёзберг.* Раёны суцэльнай колектывізацыі павінны вывучацца ўсебакова. Асабліва важным пытаньнем ёсьць вывучэньне організацыі працы ў колгасах.

*Карпаў.* Кажучы аб краязнаўчай працы ў колгасах, думаюць, што наша праца разьвіваецца эволюцыйным шляхам. Гэта памылка. У колгасным будаўніцтве не эволюцыя, а рэволюцыя. Трэба вывучаць прыродныя і экономічныя ўмовы, але ня трэба забываць гісторыі організацыі колгасаў. Трэба дакладна вывучыць і клясавае пытаньне ў колгасах, а таксама рэлігійныя настроі і антырэлігійную барацьбу. Неабходна, каб вынікі ўсебаковага вывучэньня колгасаў праз друк былі вядомы працоўным масам.

*Крукоўскі.* Зьмены падзей ідуць вельмі хутка і ўсе факты колектывізацыі цяжка зарэгістраваць. У раёнах суцэльнай колектывізацыі краязнаўчым організацыям трэба вывучаць у першую чаргу колектывізацыю. Калі ў програме вывучэньня колектывізацыі шмат пунктаў—гэта непатрэбна, лепш даць няпоўныя моманты. Сабраныя матар'ялы трэба апрацоўваць. Трэба завесьці дзеньнікі ў кожным колгасе.

*Кулакоў.* Даклады мала далі. Цяпер праходзіць рэорганізацыя ўсяе с. г. Неабходна ўсе матар'ялы гэтага пэрыоду захаваць і распрацаваць. У вывучэньне колгаснага руху трэба ўцягнуць колгасныя масы і школу. У програмах багата філёзофіі і яе трэба выкінуць.

*Балцін.* (Колгасцэнтар). Краязнаўчая праца набывае вялікае значэньне. Пры кожным буйным колгасе павінен быць краязнаўчы гурток, трэба там організаваць музэй, які-б наглядна паказваў дасягненьні колгаснага будаўніцтва і перавагу колектыўнай гаспадаркі над індывідуальнай.

*Акінчыц.* Колгаснае будаўніцтва ідзе рэволюцыйным шляхам. У дакладах не заваострана ўвага на пытаньні вывучэньня політычных момантаў у колгасных будаўніцтве. Трэба падрабязна вывучаць факты клясавай барацьбы.

*Казак.* Аб вывучэньні новых момантаў у колгасных будаўніцтве намі прынята адпаведная рэзолюцыя. Мы прызналі неабходным організаваць краязнаўчыя адзінкі ў агрокомбінаце і практыку перанесьці на іншыя раёны. Трэба ўсе факты колектывізацыі фіксаваць і лепшым мэтодам будзе весьці дзеньнікі ў кожным колгасе. Адносна ўзаемаадносін між сельсаветамі і колгасамі трэба гэты пункт унесьці ў програму вывучэньня колгасаў. Програму вывучэньня колгасаў у асноўным трэба прыняць, а на мясцох дапаўняць новымі момантамі. Трэба даручыць ЦБК, Колгасцэнтру і катэдры колектывізацыі ў далейшым распрацаваць сталую програму на падставе практыкі краязнаўчых організацый у Гарадзецкім агрокомбінаце.

28/I Заслуханы даклады:

1. Вывучэньне рэволюцыйнага руху—даклад т. Раманчука.

2. Вывучэньне фабрык і заводаў—даклад т. Аляксандрава і садаклад т. Ярмашэвіча.

3. Вывучэньне быту рабочых — даклад т. Касьпяровіча.

4) Вывучэньне карысных выкапняў — даклад т. Крукоўскага.

Па дакладу аб вывучэньні рэўруху конфэрэнцыя пастанавіла прасіць Інстытут па вывучэньні гісторы партыі і рэўруху апрацаваць анкету па вывучэньні гэтых пытаньняў і складзеную програму надрукаваць і даслаць усім краязнаўчым організацыям.

29/I Заслуханы даклады:

1. Укладаньне слоўнікаў—даклад т. Бялькевіча.

2. Школьнае краязнаўства—даклад т. Касьпяровіча.

3. Мэтоды ўкладаньня краязнаўчых артыкулаў—даклад т. Бядулі.

4. Агляд мэтодычна-краязнаўчай літаратуры за 1928/29 г. А. Шашалевіч.

Абмен думкамі дэлегатаў конфэрэнцыі.

*Вольфсон.* (Катэдра марксызму і ленінізму). Я карыстаюся выпадкам, каб паставіць пытаньне аб неабходнасьці вывучэньня краязнаўчымі організацыямі рэлігійных настрояў. Раней праводзілася аналёгічная анкета і на

падставе 890 анкет мы мелі вельмі цікавыя вынікі, якімі зацікавіліся і ў Маскве. Катэдра марксызму і ленінізму пастанавіла правесьці анкетнае абсьледваньне ў больш шырокіх маштабах. Трэба высьветліць дынаміку рэлігійных настрояў, дзе хаваецца рэлігійная ідэолёгія. Гэта анкета будзе мець значэньне ня толькі для БССР, але для СССР. Катэдра ня мае апарату, для распаўсюджваньня анкет у масах. ЦБК адклікнулася і ўзяло на сябе распаўсюджваньне 7000 анкет. Мы просім усіх дэлегатаў дапамагчы нам у гэтым пытаньні, а тых таварышоў, якія маглі-б узяць на сабе дасьледваньне пэўных об'ектаў, просім непасрэдна зьвярнуцца да катэдры.

*Леванёнак* (Гарадок). Конфэрэнцыя прынесла карысьць краязнаўцам, якія працуюць на мясцох. Ня толькі Акадэмія і ЦБК адстаюць ад жыцьця, але і мы на мясцох адстаем. Апрача гэтага, мы і перагружаны. Мы адстаем і ў мэтодах. Трэба конфэрэнцыі часьцей праводзіць. Недахопы праведзенай мэтодычнай конфэрэнцыі—менш часу трэба было даваць дакладчыку, а больш абмяркоўваць даклады.

*Шлёзберг.* (Дрыса). Конфэрэнцыя дала мэтавую ўстаноўку. Недахоп: ня быў пастаўлены даклад „Вывучэньне раёну суцэльнай колектывізацыі".

*Пяцэвіч.* (Слуцак). Конфэрэнцыя паказала, што краязнаўчая праца тады палепшыцца ў раёнах, калі ЦБК узьдзейнічае на саюзныя організацыі, каб іншыя працаўнікі прынялі ўдзел у краязнаўчай працы, а ня толькі настаўнікі. Трэба, каб ЦБК пагадзілася з Наркамземам адносна музэяў, каб нашы краязнаўчыя музэі мелі аб'яднаны характар, а ня так, як у Слуцку, дзе існуе паасобны музэй бязбожніка, агромузэй і наш—краязначы музэй раённага т-ва. Адносна школьнага краязнаўства трэба абавязкова дагаварыцца з Наркамасьветы, каб інспэктары асьветы актыўны ўдзел прынялі ў краязнаўчай працы. Неабходна ўрэшце пашырыць часопіс „Наш Край", каб больш рэалізаваць краязнаўчых матар'ялаў. На кожным зьезьдзе і конфэрэнцыі гаворым аб гэтым і няўжо няма магчымасьці зьдзейсьніць настойныя просьбы краязнаўцаў.

*Ткачоў* (Петрыкаў). На гэтай конфэрэнцыі мэтазгодна было-б паставіць справаздачу якога-небудзь раённага т-ва. А то нас толькі накачвалі. А нам трэба было падрабязна пагаварыць аб умовах працы раённай краязнаўчай організацыі. Аб вывучэньні колгасаў трэба было даклад даць мясцовым прадстаўніком.

*Сыс* (Плешчаніцы). Конфэрэнцыя мела тэорэтычны характар—давалі некаторы матар'ял для падрыхтоўкі краязнаўцаў. Некаторыя даклады цягнуліся некалькі гадзін і нічога ня далі (даклад аб вывучэньні прамысловасьці). Тэмы дакладаў распылены. ЦБК трэба вызначыць першачарговыя задачы ў працы раённага т-ва. Аб гэтым трэба сказаць у заключным слове.

*Рыбакоў* (Каленкавічы). На конфэрэнцыі мы шмат слухалі, а едзем бяз нічога. З чаго мы пачнем краязнаўчую працу, як прыедзем. На 75% мы ня вядаем. Ясна і дакладна мы ня высьветлілі. Дзьве асноўных задачы нашай працы: вывучэньне колгаснага руху і прамысловасьці. Зараз, праглядзім програму вывучэньня колгасаў і бачым, што няма ў ёй клясавай барацьбы, сэктанцкай барацьбы, барацьбы з папоўствам. Конфэрэнцыя была мала падрыхтавана. Асноўныя дакладчыкі даўно былі ў вёсцы. Асноўныя даклады павінны былі быць у тэзісах і разасланы па мясцох. Конфэрэнцыю трэба было разьбіць на групы і вывучаць інструкцыі па пэўных пытаньнях. Недахоп у тым, што шмат было дакладаў.

*Жураўскі* (ЦБК). Сродкі і час, вызначаныя на конфэрэнцыю не дазволілі падрабязна абмяркоўваць усе пытаньні. Для гэтага трэба было-б 2 тыдні. Прэзыдыум Акадэміі вызначыў першачарговыя пытаньні. Бязумоўна, памылка ў тым, што трэба было больш часу аддаць пытаньню аб вывучэньні колгаснага руху і вырашаць яго ў іншай форме. Лябораторная прапрацоўка дакладаў была-б больш карысна, але на гэта трэба было 3 тыдні.

*Саламыкін* (Гомель) Няправільна гаварыць, што конфэрэнцыя нічога ня дала. Слабыя даклады былі аб колгасным руху і прамысловасьці. Усе іншыя далі карысьць.

*Матышаў* (Сянно) У мэтодычным напрамку конфэрэнцыя мае вынікі. Даклады Смоліча, Раманчука, Бядулі далі ўстаноўкі. У дакладзе аб вывучэньні колгасаў пэўных установак няма. Трэба ЦБК яшчэ папрацаваць над пытаньнем аб вывучэньні колгаснага руху. Усе мэтодычныя даклады добра-б было выдаць асобным краязнаўчым зборнікам і разаслаць мясцовым організацыям.

*Казак* (ЦБК). Трэба ўлічваць, пры якіх умовах была організавана конфэрэнцыя. На організацыйную і мэтодычную частку было дадзена ўсяго 1200 руб. Організацыйная частка заняла $1^1/_2$ дня. Гэта мала і таму ня было справаздач з месц. Становішча на мясцох добра вядома—трэба перабудаваць усю нашу працу. Большая частка дакладаў дала вынікі. Толькі два даклады мала далі: аб вывучэньні колгаснага руху і прамысловасьці. Але добра, што гэтыя пытаньні мы паставілі. У гэтых пытаньнях няма спэцыялістых — усе баяліся брацца за гэтае пытаньне. Цяпер, пасьля спрэчак, катэдра колектывізацыі абяцае ў месячны тэрмін апрацаваць програму. Катэдра штандорту займецца вывучэньнем прамысловасьці. т. Рыбакоў кажа, што ня ведае, з чаго пачаць краязнаўчую працу. З абмену думкамі ясна, што асноўнай задачай далейшай краязнаўчай працы будзе вывучэньне колгаснага руху. Акруговым т-вам трэба склікаць акруговыя краязнаўчыя конфэрэнцыі і ЦБК вышле на іх сваіх прадстаўнікоў. З новымі сіламі трэба прыняцца за выкананьне актуальных сучасных задач

На гэтым дазвольце ад імя ЦБК 3-ю Усебеларускую Краязнаўчую Конфэрэнцыю лічыць зачыненай.

**Сьпіс удзельнікаў 3 Усебеларускай Краязнаўчай Конфэрэнцыі.**

1) Варпаховіч Я. (Віцебск), 2) Леванёнак Ю. (Гарадок), 3) Сумнікаў С. (Высачаны), 4) Саламыкін М. (Гомель), 5) Шаўкуноў К. (Ветка), 6) Ліпаў А. (Рэчыца), 7) Новікаў М. (Чачэрск), 8) Альбіцкі М. (Гомель), 9) Папкоў І. (Хойнікі), 10) Буцько І. (Віцебск), 11) Басільлева В. (Расона), 12) Самахвалаў П. (Шклоў), 13) Карпаў К. (Гарадзец), 14) Паўлаў А. (Гарадзец), 15) Цыбульніка Г. (Менск, 20—7-ка), 16) Кандыбовіч З. (Копыль), 17) Соруль А. (БАН, польсэктар), 18) Пяцэвіч Р. (Слуцак), 19) Раськіна Р. (Уваравічы), 20) Славін Ц. (Бабруйск), 21) Бардзінскі Я. (Бабруйск), 22) Валуёў М. (Бешанковічы), 23) Калодкін Я. (Магілеў), 24) Цытовіч С. (Магілеў), 25) Гранкоўскі Д. (Полацак), 26) Сыс Т. (Плешчаніцы), 27) Урбановіч С. (Чырвоная Слабада), 28) Дзямяшкевіч Ул. (Чэрвень), 29) Мялешка С. (Полацак), 30) Раманенка П. (Касьцюковічы), 31) Рой П. (Касьцюковічы), 32) Чаржынскі Ул. (БАН), 33) Мачульскі М. (БАН), 34) Каршук М. (Гомель), 35) Самцэвіч В. (БАН), 36) Вялішчанскі С. (Рагачэў), 37) Дружчыц В. (БАН), 38) Юшчанка І. (Цэнтрархіў), 39) Бібіла Ю. (Дзярж. Бібліотэка), 40) Палікарповіч К. (БАН), 41) Ярашчук А. (НДІ імя Леніна), 42) Харкоў В. (ЦК ЛКСМБ), 43) Тачыцкі Я. (НДІ імя Леніна), 44) Рыбачкін М. (Хоцімск), 45) Матышаў А. (Сянно), 46) Сінская Н. (Талачын), 47) Вялічка Х. (Копысь), 48) Зяньковіч А. (Ветрына), 49) Мароз С. (Лепель), 50) Васілеўскі Д. (Орша), 51) Бэркэнбліт Р. (Ляды), 52) Поляк І. (Віцебск), 53) Петрыкаў В. (Церахоўка), 54) Кільчэўскі Н. (Лоеў), 55) Камінскі Ю. (Чавусы), 56) Крукоўскі А. (Мазыр), 57) Таўкачоў А. (Петрыкаў), 58) Трoська Я. (Інстытут Прамысловасьці), 59) Рыбакоў А. (Каленкавічы), 60) Бахур Я. (Бялынічы), 61) Кадыш Б. (Любань), 62) Кісэль А. (Ветка), 63) Міляковіч А. (Заслаўе), 64) Кулакоў Т. (Азарычы), 65) Шыдлоўскі (Сьмілавічы), 66) Шлёзберг А. (Дрыса), 67) Акінчыц К. (Чачэвічы), 68) Тарлоўскі В. (Жыткавічы), 69) Лукашэвіч М. (Юравічы), 70) Казак А. (ЦБК), Бялуга М. (БАН), 72) Касьпяровіч М. (ЦБК), 73) Жураўскі С. (ЦБК), 74) Бядуля З. (ЦБК), 75) Шашалевіч А. (ЦБК), 76) Пятровіч І. (БАН), 77) Смоліч А. (БАН), 78) Бялькевіч І. (БАН), 79) Ластоўскі В. (БАН), 80) Аляксандраў (ЦБК), 81) Ляўданскі А. (БАН), 82) Баркоўскі С. (БАН).

---

## Да краязнаўчых організацый.

Беларуская Дзяржаўная Бібліотэка імкнецца, памагчымасьці, сабраць усё, што выдана па пытаньнях беларусазнаўства, а таксама ўсе мясцовыя выданьні незалежна ад іх зьместу. Аднак у значных зборах матар'ялаў Беларускага аддзелу бібліотэкі маюцца недахопы мясцовых выданьняў, асабліва за 1917—1925 г. г. У аддзел амаль што ня трапілі рукапісныя зборнікі і часопісы, якія выдаваліся на мясцох краязнаўчымі організацыямі, школамі і інш. На мясцох — у прыватных асоб, у бібліотэках — знаходзяцца часам матар'ялы, якія ня маюць актуальнага значэньня для іх, а для папаўненьня збораў бібліотэкі яны маглі-б быць карыснымі. Дзяржаўная Бібліотэка зварочваецца да краязнаўчых організацый з просьбай дапамагчы ёй у справе адшуканьня патрэбных каштоўных для бібліотэкі матар'ялаў.

Бібліотэка просіць:

1. Дапамагчы бібліотэцы ў справе адшуканьня асобных мясцовых выданьняў, №№ часопісаў і №№ газэт па сьпісах бібліотэкі.

2. Надсылаць у бібліотэку сьпісы мясцовых выданьняў (з паказаньнем аўтара, загалоўку, году выданьня), лістовак. газэт — асабліва за 1917-25 г. г., каб выявіць, чаго ў бібліотэцы няма. Рукапісныя зборнікі дасылаць без папярэдняга паведамленьня.

3. Інформаваць бібліотэку аб прыватных зборах, якія могуць быць праданы або перaданы бібліотэцы.

З свайго боку бібліотэка прыходзіць на дапамогу краязнаўчым таварыствам і асобным краязнаўцам, як сваім краязнаўчым фондам паштовага абонэмэнту, які ўжо функцыянуе, бібліографічнымі даведкамі па тых пытаньнях беларусазнаўства, якія цікавяць краязнаўцаў — так і консультацыяй у справе наладжаньня беларускіх аддзелаў пры бібліотэках і пастаноўцы працы па краёвай бібліографіі.

*Беларускі аддзел*
*Дзярж. Бібліотэкі.*
*Менск, Савецкая. 94.*

## Агляд надвор'я па БССР

**за студзень м-ц. 1930 г.**

*(паводле даных Аддзелу Сеткі Беларускай Геофізычнай Службы).*

Надвор'е на працягу м-ца ў сярэдніх выніках было сухое (з малой колькасьцю ападкаў) і цёплае.

*Тэмпэратура за 1-ую дэкаду* была вышэй нормы. Адзначаны наступныя перавышэньні сярэдніх дэкадных тэмпэратур пры параўнаньні з нормальнымі дэкаднымі:

| | |
|---|---|
| Новае Каралёва (Віцебск. акр.) на | 6,0° |
| Менск . . . . . . . . . „ | 5,1° |
| Горкі (Арш. акр.) . . . . „ | 5,3° |
| Чэрыкаў (Магілеўск. акр.) . . „ | 5,1° |
| Васілевічы (Гом. акр.) . . . . „ | 3,3° |

Сярэдн. дэкадныя т-уры за 1-ую дэкаду студзеня г. г. наступныя:

| | |
|---|---|
| Н. Каралёва | —1,7° |
| Менск | —1,5° |
| Горкі | —2,4° |
| Чэрыкаў | —2,5° |
| Васілевічы | —2,6° |

1-ая дэкада студзеня г. г. на 6—8° цяплей адпаведнай дэкады студзеня мінулага году.

*Тэмпэратура 2-ой дэкады* ў сярэдніх выніках таксама вышэй нормальнай.

| | |
|---|---|
| Н. Каралёва | на 5,5° |
| Менск | „ 5,2° |
| Горкі | „ 5,7° |
| Чэрыкаў | „ 5,7° |
| Васілевічы | „ 4,9° |

Сярэдн. дэкадныя т-уры за 2-ую дэкаду студзеня г. г. наступныя:

| | |
|---|---|
| Н. Каралёва | —2,6° |
| Менск | —1,9° |
| Горкі | —2,3° |
| Чэрыкаў | —2,4° |
| Васілевічы | —1,5° |

2-ая дэкада студзеня г. г. у сярэдніх выніках на 7—8° цяплей другой дэкады студзеня мінулага году.

*Сярэднія тэмпэратуры за 3-ю дэкаду* вышэй нормальных дэкадных тэмпэратур.

| | |
|---|---|
| Н. Каралёва | на 3,0° |
| Менск | „ 3,0° |
| Горкі | „ 3,7° |
| Чэрыкаў | „ 3,7° |
| Васілевічы | „ 2,9° |

Сярэднія т-уры за 3-ю дэкаду наступныя:

| | |
|---|---|
| Н. Каралёва | —5,2° |
| Менск | —4,3° |
| Горкі | —4,6° |
| Чэрыкаў | —4,5° |
| Васілевічы | —3,6° |

3-я дэкада студзеня г. г. у сярэдніх выніках на 8—10° цяплей 3-яй дэкады мінулага 1928 г.

*Сярэднія месячныя тэмпэратуры* студзеня г. г. наступныя:

| | |
|---|---|
| Н. Каралёва | —3,3° |
| Менск | —2,6° |
| Горкі | —3,2° |
| Чэрыкаў | —3,2° |
| Васілевічы | —2,6° |

У сярэдніх выніках сярэдн. месячная т-ура студзеня на 4—5° вышэй нормальнай і на 7—9° вышэй сярэдняй мес. т-уры студзеня мінулага году.

Ваганьні тэмпэратур (паводле паказаньняў максымальнага і мінімальнага тэрмомэтраў) за паасобныя дэкады наступныя:

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 1-я дэкада | ад | — 9,9° | да | 4,6° |
| 2-я | „ | —10,2° | „ | 2,0° |
| 3-я | „ | —21,6° | „ | 2,0° |
| М-ц | „ | —21,6° | „ | 4,6° |

Самая нізкая т-ура заўважана ў Нова-Каралёве —21,6° (31-I) і самая высокая ў Стукачове 4,6° (8-I).

*Ападкі.* За першую дэкаду іх выпала ад 5 да 10 мм. у Віцебскай, Магілеўскай, Аршанскай акругах і менш 5 мм. у іншых.

За 2-ую дэкаду менш 5 мм. выпала ў акругах Гомельскай, Мазырскай, Аршанскай і часткова ў Магілёўскай і Менскай і ад 5 да 10 мм. у Полацкай і Віцебскай.

За 3-ю дэкаду колькасьць ападкаў не перавышала 10 мм. Зусім іх не адзначана ў Мар. Горцы.

Наогул, у студзені ападкаў выпала менш нормы (недахоп да нормы па колькасьці ад 4 да 28 мм.)

Меншае адхіленьне заўважваецца у Мазырскай акр. (Лельчыцы — выпала да 80% нормальнай колькасьці) і найбольшы недахоп заўважваецца ў некаторых мясцох Меншчыны (М.-Горка выпала толькі 10% ад месячн. нормальнай колькасьці).

У студзені мінулага году ападкаў выпала больш чымся ў г. г. Тады мясцамі ападкаў выпала значна больш месячных нормаў (у большасьці станцый колькасьць ападкаў вагалася ў межах ад 10 мм. да 50 мм.).

Лік дзён з ападкамі вагаўся ад 5 да 19.

Лік дзён з дажджамі не перавышаў нідзе 6.

Лік дзён са сьнегам вагаўся ад 2 да 14.

Воблачнасьць у сярэднім вагалася ад 81% да 95% (норм. 76—84%).

Лік дзён цалкам ясных 0—2. Лік дзён цалком хмарных 22—27.

Вятры, як па кірунку, так і па моцы мала адрозьніваліся ад нормальных—паўднёва-заходніх румбаў з сярэдн. хуткасьцю 2,3—4,7 м/с. (норма 2—5 м/с.)

*Сьнегавы насьціл.* У сувязі з недастатковай колькасьцю ападкаў таўшчыня сьнегавога насьцілу засталася бяз зьмен ад апошняй дэкады сьнежня (у некаторых мясцох зьменшылася).

Найбольшая таўшчыня адзначана ва ўсходніх частках Віцебскай (Гарадок 19 см.) і Магілеўскай акругах.

У некаторых мясцох з пачатку студзеня зусім ня было сьнегавога насьцілу (Бобр. Арш. акр.).

Прамярзаньне глебы адзначана ад 20 см. Менская Балотн. Станцыя да 50 см. Васілевічы Гомельск. акр.

*Стан палявых культур.* Шкод з боку мэтэоролёгічных умоў для азімых наглядальнікамі не адзначалася.

Складзены 10-II-30.

Г. Маслакавец.

# Краёвая бібліографія.

Працяг *).

Левицкий и Розенталь. Промышленность Гомельской губ. за 8 лет пролетарской диктатуры. Полесск. Коммунар. 925. № 20 (103). с. 40—45.

Лелевич, Г. Бандитизм в Гомельской губернии весной 1921 г. Изв. Гом. губ. Комитета РКП. 921. № 9-10. с. 4-5.

Лелевич, Г. II. Бандитизм в Гомельской губернии весной 921 года. Изв. Гом. Ком-та РКП. 921. № 11. с. 4-5; № 12. с. 5-6.

Лелевич. Г. (Могилевский, Л.). К истории Стрекопытовского мятежа. Изв. Гом. губ. Ком-та РКП. 921. № 9-10. с. 33-35.

Лелевич, Г. К истории дела М. Хатаевича, Ильицкого, Рохлиных и др. в феврале 1915 г. Извест. Гом. губ. Ком-та РКП. 922. № 26. с. 21-24.

Лесная, Ф. Из прошлого [Деятельность Полесского Комитета РС-ДРП]. Извест. Гом. губ. Ком-та РКП. 920. № 6. с. 17-19.

Либерман, Г. Х. Из прошлого (Воспоминания об участии в соц. дем. движении в 1900—1904 г.г.) [Гомель]. Извест. Гом. губ. Ком-та РКП. 924. № 71. с. 56-58.

Л. С. Работа [Гомельского] Губкома в январе—марте [1926]. Полесск. Коммунар. 926. № 7. с. 55-58.

Лопушанский, Ф. Доходы и расходы крестьянского хоз-ва [1923—24 г.г. в Гомельской губ.]. Изв. Гом. губ. К. РКП. 925. № 15. с. 13-16.

Лопушанский Ф. Неземледельческие занятия сельского населения. (Краткие выводы по материалам обследования 1925 г.). [Гомельск. губ.]. Изв. Гом. губ. К. РКП. 925. № 11. с. 14-18.

Лосев, Н. д-р. Работа глазного отряда Белорусского Красного Креста в Речицком районе, Мозырск. округа. Бюл. Бел. Т-ва Чырвонага крыжу. 927. № 7-9. с. 22-31.

Лунинский, Р. Вечерняя рабочая школа в губернии. [Гомельской]. Изв. Гом. губ. К. РКП. 924. № 76. с. 49-51.

Лунинский, Р. Год работы Гомельской центральной вечерней рабочей школы. Изв. Гом. губ. К. РКП. 924. № 75. с. 29-30.

Лунинский, Р. Перспективы строительства вечерней школы в губернии. (Из итогов губ. конференции веч. школ). [Гомель]. Изв. Гом. губ. К. РКП. 925. № 6 с. 28-30.

Л. Х. Хозяйство губернии [Гомельской] в истекшем году. Полесск. Коммунар. 926. № 19. с. 69-73.

Любимов. Итоги шефства над деревней. (По докладу т. Соркина об итогах шефства—в бюро губкома от 9/VI 1923 г.). Изв. Гом. губ. К. РКП. 923. № 47-48. с. 47-53.

Любомирский. Отчет губконтрольной комиссии РКП. За время работы с апреля по июнь месяц 1923 г. Изв. Гом. губ. К. РКП. 923. № 47-48. с. 97-98.

М. Работа Контрольной Комиссии за год. [Гомель]. Изв. Гом. губ. К. РКП. 924. № 65. с. 26-28.

М. В. Очередные вопросы снабжения товарами сельской кооперации. [Гомельск. губ.]. Полесск. Коммун. 925. № 17 (100). с. 19-24.

Маев, Н. Итоги смотра работ производственных ячеек [Гомельск. губ.]. Полесск. Коммунар. 926. № 8. с. 28-31.

Маковский, Б. К положению народного образования в нашей губернии и его перспективы на ближайший учебный год. [Гомельск. губ.]. Изв. Гом. губ. К. РКП. 924. № 72. с. 52-57.

М-ский, Б. На пути к введению всеобщего обучения в школе I ступени [Гомельск.] губернии. Изв. Гом. губ. Ком. РКП. 924. № 75. с. 62-67.

Маковский, Б. А. Профессиональное и профессионально-техническое образование в Гомельской губ. (Итоги истекшего учебн. года и положение в настоящее время). Изв. Гом. губ. К. РКП. 923. № 56. с. 38-43.

Мандельсберг, И. О евработе в губернии [Гомельской]. Изв. Гом. губ. К. РКП. 925. № 8. с. 48-50.

Мандельсберг, И. и Колдобский, Д. Землеустроение еврейского населения в Гомельской губ. Полесск. Коммунар. 925. № 17 (100) с. 59-66.

Мандельсберг, И, и Колдобский, Д. На путях развития еврейского земледелия в [Гомельской] губ. Полесск. Комунар. 926. № 11-12. с. 103—105.

---

*) Гл. „Наш Край“ 1929 г. №№ 5, 6-7, 8-9, 10, 11, 12 і № 1 1930 г.

Марголин, И. Детское движение в Гомельск. губ. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 59. с. 50-51.

Марголин, Л. С. Краткий отчет о деятельности Гомельской городской санитарно-эпидемиологической организации за 1926 г. Бел. Мэд. Думка. 927. № 6—8. с. 177—179.

Марголин, Л. С. Обзор эпидемического состояния Гомельского округа. Бел. Мэд. Думка. 927. № 1-2. с. 141—148.

Марголин, Л. С. О деятельности Гомельской санитарной станции за 5 лет (1922—27 г. г.). Бел. Мэд. Думка. 927. т. III. № 9—12. с. 155—163.

Маркович, Я. Четыре дня, которых не забудет Гомель (Март 1919,—Стрекопытовщина). Полесск. Коммун. 926. № 5. с. 77—85.

Масальский, Я. Об основных недочетах сельско-хоз. кредита (Гомельск. губ.). Полесск. Коммунар. 925. № 24 (106) с. 75—78.

Маслов. На стройке рабочего поселка. (Фабрика „Герой Труда" в Добруше, Гомельщина). Шлях Кооперац. 928. № 4. с. 39-40.

Масюкоў, К. Насеннаводзтва ў Гомельскай акрузе і задачы яго разьвіцьця. Плуг. 928. № 7. с. 3—5.

Масюкоў. Сельская гаспадарка Гомельшчыны. Плуг. 927. № 10. с. 89—91.

Матвеев, Н. Вопросы кооперации на коопсовещании при Губкоме (Гомельском). Полесск. Коммунар. 926. № 2. с. 12—14.

Матвеев, Н. Значение деревенской бедноты и меры помощи ей в нашей губернии. (Гомельской) Полесск. Коммунар. 925. № 21-22. (104). с. 17—20.

Матвеев, Н. Кооперация губернии (Гомельской) к международному кооперативному дню. Полесск. Коммунар. 926. № 11-12. с. 14—18.

Матвеев, Н. Партийная организация губернии к восьмой годовщине Октября. (Гомельск. губ.). Полесск. Коммунар. 925. № 20 (103). с. 30—33.

Матвеев, Н. Что показали перевыборы? (Гомельск. губ.). Полесск. Коммунар. 926. № 4. с. 57—60.

[ . . . Материалы IV с'езда уездных инспекторов и инструкторов Соцвоса. Гомельской губ. (Резолюции). Народн. Просв. в Гомельск. губ. 923. с. 14—42.

Мікалаеў, А. М. Гомельскі Дзяржаўны культурна-гістарычны Музэй. Наш Край. 928. № 12. с. 82-88.

Минкин, З. После чистки (партсостава Гомельск. губ.) Изв. Гом. губ. К. РКП. 922. № 18. с. 8—10.

Миров, Я. О состоянии и перспективах работы „Полеспечати". Изв. Гом. губ. К. РКП. 923. № 52-53. с. 55—57.

Миров, Я. Трехнедельник печати в Гомеле. Изв. Гом. губ. К. РКП. 922. № 23. с. 6-7.

Мирошник, П. Подготовка к осенней посевной компании [Гомельск. губ.]. Изв. Гом. губ. Ком-та РКП. 925. № 15. с. 51—54.

Мирошник, П. Состояние и перспективы животноводства в Гомельской губернии и случная кампания. Изв. Гом. губ. К. РКП. 925. № 5. с. 79—83.

Михаленко, инженер. Мелиорация Гомельской губернии в 1924 г. Материалы Запомо. 924. № 3. с. 229—231.

Михаленко, Д. М. Инженер. О работе под'отдела с.-х. мелиорации Гомельского Губземотдела за 1922-23 год. Материалы Запомо. 924, № 3. с. 236—247.

Михаленко. Отчет о деятельности Отдела С-Х. Мелиорации Гомельского Губземуправления за 1922 г. Материалы Запомо. 923. № 2. с. 55-56.

Моносзон-Любіна, Р. М. д-р. Аб фізычным стане вучняў працоўных школ г. Гомеля. (З матар'ялаў Дзіцячае Профіляктычнае Амбуляторыі). Зборн. артыкулаў І. Б. К. 928. с. 130—148. [Рэзюмэ на нямецкай мове].

Моносзон-Любина. Бюджет времени школьника II ступени г. Гомеля. (Детский профилактический амбулаторий). Бел. Мэд. Думка. 928. № 2. с. 43—45.

Моносзон-Любина, д-р. Рабочая молодежь Гомельщины. Бел. Мэд. Думка. 928. № 1. с. 96—105.

Манасзон-Любіна Д-р. Стан здароўя і надаронасьць вучняў гомельскіх працшкол ў 1926-27 навуч. годзе. (Па матар'ялах дзіцячай профіляктычнай амбуляторыі. Асьвета. 928. № 4. с. 69—79.

[ . . . МОПР в губернии, его работа, недостатки и перспективы. (Итоги II губернск. конференции МОПР.) Гомель Изв. Гом. Губ. К. РКП. 924. № 82. с. 55—57.

Моркин. Единый сельхозналог и его проведение в Гом. губ. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 47-48. с. 9—20.

Моркин, А. А. Итоги продкомпании 1922-23 г. и перспективы снабжения (Гомельской губ.). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 922. № 35. с. 4—7.

Моркин, А. Начало продналоговой компании и его перспективы. (Гомельская губ.). Изв. Гом. губ. К. РКП. 923. № 52-53. с. 38—48.

Моркин. Продналог и его выполнение. (Гомельск. губ.). Изв. Гом. губ. К. РКП. 921. с. 14. с. 5—8.

Муравский, И. Состояние сельского хоз-ва в Гомельской губ. Изв. Гом. губ. К. РКП. 925. № 10. с. 24—28. № 11. с. 10—13.

Мураўскі.—Разьвіцьцё сельскай гаспадаркі ў Гомельскай акрузе. (За дзесяцігадовы пэрыод існаваньня БССР). Плуг. 928. № 12 с. 11—13.

Мураўскі, агран. Пасялковае т-ва імя Ціміразева. (Церахоўскі р., Гомельск. акр.). Плуг. 927. № 10. с. 68-69.

Нагорны. Ф. Вынікі перападрыхтоўкі праўленцаў і прадаўцоў спажывецкіх т-ваў Гомрайсаюзу. Шлях коопэрац. 928. № 12-13. с. 68-69.

[ . . . На прозводстве. Орган рабочих и служащих тип. „Полеспечать". Номер посвящается 10-летию Октябрьской Рэволюции. Гомель. 927. с. 20.

Нейбах, И. Административное деление Гомельской губ. Изв. Гом. губ. К. РКП. 923. № 46. с. 38—41.

Нейбах, И. Итоги 1-го Гомельского Губернского с'езда председателей волисполкомов. Изв. Гом. губ. К. РКП. 922. № 27. с. 7-8.

Нейбах, И. И. Итоги очередного пленума ГИК. (Гомельского Исп. К-та). Изв. Гом. губ. К. РКП. 923. № 44. с. 13—15.

Нейман, Л. Ф. Основные организационные моменты работ Гомельского губсуда. Изв. Гом. губ. К. РКП. 924. № 82. с. 41—44.

Нейфельд. Из времен оккупации. (Воспоминания). (Гомель). Изв. Гом. Губ. Ком-та РКП. 928. № 54. с. 93—96.

Нечинский, Л. Итоги отчетно-перевыборной компании Гомельского Ц. Р. К. 27-28 г. Шлях коопэрац. 928. № 5. с. 56—58.

Осин, И. На советской стройке. (Впечатления на Губс'езде советов. (Гомель). Полесск. Коммунар. 926. № 6. с. 63—68.

Осин, И. Через „долой самодержавие" к власти Советов. (Клочки воспоминаний о событиях 1917 г. в Гомеле). Полесск. Коммун. 926. № 4. с. 85—91.

Остапенко, Е. Воспоминания о революционном движении в 1905 г. в Гомеле. Извест. Гом. губ. Ком-та РКП. 922. № 25. с. 25—27.

[ . . . Отчет Гомельского губкома РКСМ. (Обзор к губконференции РКП). Изв. Гом. губ. К. РКП. 923. № 41—42. с. 51—59, I т.

[ . . . Отчет Губкома (на XIII Гомельской губ. партконференции). Изв. Гом. губ. К. РКП. 924. № 80. с. 45--103.

[ . . . Отчет Гомельского губернского Комитета РКП. 9-го созыва за период с IX по X губконференцию, с ноября 1922 г. по март 923 г. Изв. Гом. губ. К. РКП. 923. № 41-42. с. 1—59. 5 т.

[ . . . Отчет Гомельского губернского комитета и губернской контрольной комиссии ВКП(б). За 1926 г. Гомель. 926. с. 152).

[ . . . Отчет губконтрольной комиссии РКП. (За период с 3-X-922 г. по февраль включит. (Гомель). Изв. Гом. Губ. К. РКП. 923. № 41-42. с. 48-49.

[ . . . Отчет Гомельской губернской комиссии содействия членам партии при Губкоме РКП. (За время с 25. V. 1922 г. по 1. II. 1923 г.). Изв. Гом. губ. К. РКП. 923. № 41-42. с 50—59. 1 д.

[ . . . Отчет Гомельского Окружного Комитета КП(б)Б. II-ой Окруж. Партконференции. Январь. Октябрь 1927 г. Гомель. 927. с. 135. (9).

[ . . . Отчет о работе Гомельского Губкома РКП. За период от 8-9 губпартконференции. Изв. Гом. Губ. К. РКП. 922. № 31-32. с. 1—47.

[ . . . Отчет о работе Гомельского городского Совета раб. крест. и красноарм. деп. X созыва. Гомель. 926. с. 57-3.

[ . . . Отчет о работе страховых касс Гомельского округа за 1925-26 г. На обложке: Отчет касс социального страхования Гомельского округа за год работы (с 1. X. 1925 по 1. X. 1926). Гомель. 927. с. 28.

[ . . . Отчет (Гомельского рабочего банка) за 5-й операционный год. С 1-го октября 1926 г. по 1-ое окт. 1927 г. Гомель. 927. с. 27.

[ . . . Отчет Гомельского Таргово-Промышленного Об-ва Взаимного кредита за 1926-27. (4-ый операц. г.). Гомель. 927. с. 12.

[ . . . Отчет Гомельского Торгово-Промышленного Об-ва Взаимного кредита за 1927-28 г. (5-ый операц. год). Гомель. 928. с. 12.

[ . . . Отчет Гомельского торг.-промышленного общества взаимного кредита за 1925-26 г. Гомель. 927. с. 11.

[ . . . Отчет Гомельского Центрального Рабочего Кооператива за 1926-27 хозяйственный год собранию уполномоченных V созыва. Гомель. 928. с. 31.

Перель, И. Задачи и перспективы народного образования Гомельской губ. на 1923-24 г. Изв. Гом. губ. К. РКП. 923 № 49-50. с. 56—65. Нар. Просв. в Гом. губ. 923. с. 52.

Перель, И. Итоги и перспективы дела народного просвещения в Гомельской губ. Из Изв. Гом. губ. К. РКП. 922. № 27. с. 10-11; № 28. с. 12—14; № 30. с. 9—13.

Перельмутер, Х. Вопросы торговли и кооперации нашей губернии. (Гомельской). Изв. Гом. губ. К. РКП. 924. № 67. с. 55-56.

(Працяг будзе).

---

Выдавец—**Беларуская Акадэмія Навук.**

Рэдактар—**З. Бядуля.**

Члены Рэдакцыі: **М. Бялуга. А. Казак. М. Касьпяровіч.**

# ЗЬМЕСТ.

Стар.

Прымайце актыўны ўдзел у пасеўнай кампаніі—ЦБК . . . . 3

**А. Казак.**—Краязнаўчую працу на новыя рэйкі . . . . . 4

**А. Смоліч.**—Экономічнае раёнаваньне і краязнаўчыя організацыі . 7

## МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

**С. Нікіфаровіч.**—Дзяржаўны паляўнічы ахоўнік БССР . . . 11

**С. Мялешка.**—Курорт Баркоўшчына на Полаччыне . . . . 17

**Т. П. Кулакоў і М. С. Валатоўскі**—Крукавіцкі сельсавет Азарыцкага раёну, на Мазыршчыне. . . . . . . 22

**М. Валасэвіч.**—Семнаццаць дзён па БССР . . . . . . 20

**Мікалай Войтко.**—Блакітныя далі (Саўгас Косіна) . . . . 44

## ХРОНІКА.

Трэцяя Ўсебеларуская Краязнаўчая Конфэрэнцыя . . . . 50

Да краязнаўчых організацый . . . . . . . . . 69

Агляд надвор'я па БССР . . . . . . . . . 69

## Бібліографія.

Краёвая бібліографія (працяг) . . . . . . . . 71

# Кароткі каталёг

## выданьняў Беларускае Акадэміі Навук

### (б. Інст. Бел. Культ.)

| №№ | НАЗВЫ ВЫДАНЬНЯЎ | Цана Руб. | Цана Кап. |
|---|---|---|---|
| | **I. Па Аддзелу Гуманітарных Навук.** | | |
| | Запіскі Аддзелу Гуманітарных Навук. | | |
| 1 | „ кн. 1-я. Гістарычна-Археолёгічны Зборнік т. I. 1927 г. | 3 | 75 |
| 2 | „ кн. 2-я. Працы Клясы Філёлёгіі т. I. 1928 г. | 4 | — |
| 3 | „ кн. 3-я. Працы Клясы Гісторыі т. II. 1928 г. | 3 | 50 |
| 4 | „ кн. 4-я. Працы Катэдры Этнографіі т. I. сш. 1. 1928 г. | 3 | — |
| 5 | „ кн. 5-я. Працы Катэдры Археолёгіі т. I. 1928 г. | 3 | 50 |
| 6 | „ кн. 6-я. Працы Камісіі Гіст. Маст. т. I, сш. 1, 1928 г. | 3 | — |
| 7 | „ кн. 7-я. Працы Катэдры Сучаснага Права т. I. 1929 г. | 3 | — |
| 8 | „ кн. 8-я. Працы Клясы Гісторыі т. III. 1929 г. | 4 | 50 |
| | Беларуская Навуковая Тэрмінолёгія (Слоўнікі вып. I—VI разышліся). | | |
| 9 | „ Вып. VII.—Музычная тэрмінолёгія. 1926 г. | — | 40 |
| 10 | „ Вып. VIII.—Лясныя тэрміны 1926 г. | — | 80 |
| 11 | „ Вып. IX.—Анатомічныя назвы, Nomina anatomika вып. I. 1926 г. | 1 | 20 |
| 12 | „ Вып. X.—Тэрмінолёгія права 1926 г. | — | 75 |
| 13 | „ Вып. XI.—Тэрмінолёгія грамадазнаўства 1927 г. | — | 70 |
| 14 | „ Вып. XII.—Назовы жывёл 1927 г. | — | 60 |
| 15 | „ Вып. XIII. -Анатомічныя нозовы, Nomina anatomika вып. II. 1927 г. | 2 | — |
| 16 | „ Вып. XIV.—Матэматычная тэрмінолёгія 1927 г. | 1 | — |
| 17 | „ Вып. XV.—Граматычна - Лінгвістычная тэрмінолёгія 1927 г. | — | 95 |
| 18 | „ Вып. XVI.—Глебазнаўчая тэрмінолёгія 1927 г. | — | 75 |
| 19 | „ Вып. XVII.—Бухгальт. тэрмінолёгія 1927 г. | — | 75 |
| 20 | „ Вып. XVIII.—Хэмічная тэрмінолёгія ч. I 1928 г. | 2 | 25 |
| 21 | „ Вып. XIX.—С.-Гаспадарчая тэрмінол. 1928 г. | — | 80 |
| 22 | „ Вып. XX.—Анатомічныя назвы, Nomina anatomika вып. 1. | 1 | 50 |
| | Паасобныя выданьні. | | |
| 23 | Багдановіч Максім. Поўны Збор Твораў том. I. 1927 г. | 2 | — |
| 24 | „ „ „ „ „ том II. 1928 г. | 2 | — |
| 25 | Беларускі Архіў. т. I. (Акты XVI-XVII ст.). 1927 г. | 4 | — |
| 26 | „ „ т. II. (Акты XV-XVI ст.). 1928. | 4 | — |
| 27 | Бузук, П.—Да характарыстыкі паўночна-беларускіх дыялектаў. Гутаркі Невельскага і Вяліскага пав. 1926. | — | 25 |
| 28 | Бузук, П.—Спроба Лінгвістычнай географіі Беларусі (з 20 картамі) 1928. | 2 | 50 |
| 29 | Гарэцкі, М. і Ягораў. Народныя песьні з мэлёдыямі 1928. | 5 | — |
| 30 | Некрашэвіч, С. і Бузук, П. Програма для вывучэньня беларускіх гаворак 1927. | — | 25 |
| 31 | Полевой, А. О языке населения Новозыбковского у. Гом. г. 1926. | — | 50 |
| 32 | Працы Акадэмічнае Конфэрэнцыі па рэформе Беларускага правапісу і азбукі ў 1926 г.—М. 1927. | 4 | — |

